*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
24
МАЯ
1991 г.
№ 21 (3587)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## ЧЫТАЙЦЕ





Пад яблыневым кветам.

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# Кола Дзён

Хутка мы займеем банкноты новага ўзору ўзамен старых рублёвак, траякоў, пяцёрак, чырвонцаў і дваццацьпятак. Так нам абяцаў Дзяржбанк СССР. З аднаго боку, прыемна, што «лішнія» грошы гэтым разам канфіскоўваць у нас не будуць. З другога — падстаў для асаблівай радасці няма, бо ёсць апасенні, што эмісія новых грошай разлічана на гіперінфляцыю (тады, магчыма, спатрэбяцца купюры і ў тысячу рублёў). А мо саюзны ўрад усур'ёз лічыць, што не ў грашах шчасце, а ў іх колькасці? З гэтым можна пагадзіцца, але пры адной умове. Калі грошы — канвертуемая валюта. Праўда, урад нам абяцае і канвертуемасць рубля да канца года. Яшчэ раз паверым на слова?..

**16 МАЯ**

**Вярхоўны Савет СССР прыняў закон аб КДБ. Цяпер гэтая арганізацыя будзе, трэба думаць, дзейнічаць легальна, у рамках сацзаконнасці.**

**Прэзідэнт СССР выдаў указ, які прадугледжвае, у прыватнасці, «асобы рэжым» работы на прадпрыемствах базавых галін гаспадаркі.**

**У аўтакатастрофе загінулі народны дэпутат БССР Д. Еўлашоў і першы сакратар Нараўлянскага РК КПБ М. Лапцеў. Памёр і вадзіцель райкамаўскай «Волгі», пасажыры якой спяшаліся на высокую партыйную нараду ў Гомель.**

**Моцны выбух разбурыў будынак, дзе знаходзіцца штабкватэра «Дэмакратычнай Расіі» ў Маскве. Ніхто не пацярпеў.**

**17 МАЯ**

**ў Мінску пачалася першая міжнародная сустрэча прадпрымальнікаў «Новы бізнес у СССР» з удзелам 190 савецкіх і 12 замежных фірм.**

**18 МАЯ**

**ўвечары, пры вяртанні з Літвы дамоў, на пад'ездзе да літоўскай таможні, быў забіты інспектар Воранаўскага райаддзела ўнутраных спраў капітан міліцыі А. Фіясь. Прэм'ер-міністр Літоўскай рэспублікі выказаў афіцыйныя спачуванні ўраду БССР. На мяжы Беларусі з Літвой неспакойна. У выніку яшчэ аднаго інцыдэнта забіты супрацоўнік літоўскага дэпартаменту аховы краю.**

**19 МАЯ**

**сталі вядомы вынікі рэгістрацыі кандыдатаў па выбарах Прэзідэнта РСФСР. Імі сталі В. Бакацін, Б. Ельцын, У. Жырыноўскі, А. Макашоў, М. Рыжкоў і А. Тулееў.**

**20 МАЯ**

**пасля доўгіх дэбатаў на сесіі Вярхоўнага Савета СССР быў нарэшце прыняты шматпакутны закон аб уездзе і выездзе. Цалкам ён уступіць у сілу з... 1993 года.**

**Напярэдадні 70-годдзя А. Д. Сахарава ў Маскве прайшоў стыхійны палітычны мітынг у яго памяць. Памяці вучонага, лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру быў прысвечаны і першы Міжнародны кангрэс: «Мір, прагрэс, правы чалавека».**

**21 МАЯ**

**пачалася сесія Вярхоўнага Савета БССР. Да яе пачатку перад Домам урада сабраліся прадстаўнікі рабочых Мінска і іншых гарадоў рэспублікі, якія прыйшлі нагадаць аб патрабаваннях стачкамаў.**

**22 МАЯ**

**Прэзідэнт СССР М. Гарбачоў накіраваў спачуванні Прэзідэнту Індыі ў сувязі з забойствам вядомага палітычнага дзеяча Р. Гандзі.**

**З ПОШТЫ ТЫДНЯ**

# ПАЧУЙЦЕ МОЙ БОЛЬ!

Гэта пісьмо я напісала ўначы 18 мая. Надрукуйце яго без скарачэнняў. Чарнобыль не схаваеш у папку з грыфам «сакрэтна», і радыяцыя, хоць яе і забаранялі замерваць, вырваўшыся на волю, загубіла здароўе нашых дзетак. Аднак і сёння ў дзяржавы няма валюты на іх лячэнне. Аднакласнікі маёй дачкі Наташы стаяць у Гародні на рынку і збіраюць міласціну для выратавання сваёй хворай сяброўкі. Дзеці працягнулі руку, яны разбіваюць свае скарбонкі, адмовіўшыся ад мары набыць веласіпед ці магнітафон. Затое наша дзяржава-жабрачка не мае (ці не хоча) знайсці грошы на выратаванне дзяцей, якіх яна ж і загубіла.

Дапамажыце мне, людзі, пачуйце мой боль!

Магчыма, гэты мой зварот прачытаюць кіраўнікі магутных прадпрыемстваў, можа, хто з працоўных калектываў выдзеліць валюту. **Паведамляю рахунак: ОПЕРУ Беларускага рэспубліканскага банка Знешэканамбанка СССР у Мінску МФО 805153, рахунак № 07025809 «В». Грошы ў рублях пералічваць на рахунак № 29299 у ашчаднай касе № 6416 07 у г. Гродна.**

Мне не сорамна прасіць грошы, бо яны пойдуць на святую справу — выратаванне жыцця шаснаццацігадовай дачушкі, хворай на вельмі агрэсіўную форму рака шчытападобнай залозы. Адкуль жа гэта пошасць на нашай «чыстай» Гарадзеншчыне? Усё проста: нашы дзеці не атрымалі ў самыя небяспечныя першыя дні пасля катастрофы ёдатэрапію. Хлусня і забароны кіраўнікоў і медыкаў (якое недарэчнае і жахлівае спалучэнне!) прывялі да таго, што радыеактыўны ёд патрапіў у дзіцячыя шчытавідкі. Ён распачаў сваю разбуральную працу, высмоктваючы здароўе і жыццё нашых дзетак.

Бацька Наташы ўжо быў у Міністэрстве аховы здароўя ў аддзеле лячэння падлеткаў, але нам не далі дазволу ехаць за мяжу. Рак у нашых дзетак для бюракратаў з міністэрства — клінічны выпадак, які цікава даследаваць самім. «Не падпішу ні ў якім выпадку,— сказаў нам галоўны анколаг Беларусі прафесар Я. П. Дзямідчык, — усё роўна вы не здолееце знайсці столькі валюты. Буду лячыць яе сам!» і курс прамянёвай тэрапіі ўжо пачаты. Але ж хірургі з Гародні не згодны з тым, што гэта патрэбна, маўляў, пухліна не такая вялікая, тым больш, што яе ўжо выразалі. Каго ж нам слухаць?

І зноў жа. Каб атрымаць кансультацыю за мяжой, патрэбна валюта. Дык хай яе дасць нам Атамэнерга або камуністычная партыя, тыя, хто замоўчваў трагедыю і хлусіў. Хай не ездзяць за нашу валюту з візітамі да сяброў-камуністаў, каб паручкацца і сказаць прамовы на з'ездах камуністычных партый, а ахвяруюць грошы чарнобыльскім дзецям. Толькі кіруючая партыя вінаватая ў тым, што агідная хлусня і хаванне жудаснай праўды працвіталі, калі радыяцыйны фон перавышаў норму ў паўтары тысячы разоў. Нашы дзеткі даверліва радаваліся вясне, сонейку. Мая Наташа з аднакласнікамі і класным кіраўніком пайшла ў вандроўку. Толькі цяпер, праз пяць гадоў, калі паўстала жудаснае пытанне — адкуль ў дзяўчынкі рак? —Наташа прыгадала, што яна, гарэза, нават адважылася скупнуцца ў Нёмане, не ведаючы, што вадзіца ў ім ужо атручана радыеактыўным дажджом. Прыгадайце, які цёплы быў той пракляты май, і ўсе нашы дзеткі, падманутыя дарослымі, бегалі пад радыеактыўным небам па зялёнай маладзенькай траўцы, не ведаючы, на якія пакуты прыгавораны партыйнымі функцыянерамі і генераламі ад медыцыны.

**Г. ГОРБАЧ,**
**настаўніца.**

г. Гродна.

# ЗАСТАЕЦЦА З НАМІ...

**З раніцы 18 мая многіх беларусаў Летувы і Беларусі з'яднаў паломніцкі шлях на віленскія могілкі Расу (дакладней кажучы — Росы). У гэты дзень тут адбылося перазахаванне праху Івана Луцкевіча — арганізатара першай беларускай палітычнай партыі, стваральніка нацыянальнай прэсы, творцы беларускага Адраджэння XX ст.**

**Толькі праз 72 гады прах вялікага Беларуса знаходзіць сталы прытулак і апошні спачын у долі Бацькаўшчыны. Ягоныя рэшткі таемна (!) з Закапанэ (Польшча) перавозілі некалькі чалавек.**



У 11 гадзін ад брамы могілак рушыў жалобна-пахавальны ход. Разам з нашчадкамі роду Луцкевічаў яго ўзначалілі мінчукі: гурт БСДГ, дэлегацыя БНФ, сябры мастацкай суполкі «Пагоня», шарагоўцы маладзёжных згуртаванняў «Чырвоны Жонд», «Выбранецкія шыхты», прадстаўнікі Беларускай каталіцкай грамады. Вянкі неслі Алесь Марачкін, Зянон Пазняк, Юры Хадыка, Міхась Ткачоў, Анатоль Сідарэвіч. Рэлігійны чын правіў кс. У. Чарняўскі.

З месца апошняга прыстанку слыннага дзеяча нашага Адраджэння відзён шырокі абсяг Віленшчыны. Пад пошум бяроз і соснаў гучалі словы пра Івана Луцкевіча. Іх казалі А. Анішчык, З. Пазняк, М. Ткачоў, сваякі нябожчыка. Бадай, найлепш выказаў грамадскія пачуцці З. Пазняк, сказаўшы, што з намі застаюцца дух і думкі Луцкевіча. Вяртанне праху бацькі беларускага Адраджэння ў Вільню — добры знак, падкрэсліў З. Пазняк. Ён сведчыць аб узмацненні, аб незваротнасці сучаснага адраджэнцкага руху на Беларусі.

З нагоды перазахавання праху І. Луцкевіча ў катэдры правілася імша. Увечары ў віленскім Доме настаўніка адбылася памінальная імпрэза.

**Юрка ЛАГАДА.**
Фота А. КАЛЯДЫ.

**Весткі ТБМ**

# ПАКУЛЬ ГЭТА ВЫКЛЮЧЭННЕ

**Чытачы «Маладзечанскай газеты», якая да нядаўняга часу называлася «Святло камунізму», памятаюць такую рубрыку: «Лёс роднай мовы». Чаму памятаюць? Таму што яна найбольш актыўна заявіла пра сябе пад час барацьбы думак наконт неабходнасці ўвядзення статуса дзяржаўнасці беларускай мовы. Закон аб мовах, які абвяшчае мову карэннага насельніцтва рэспублікі дзяржаўнай, прыняты. Значыць, перамагла тая пазіцыя, якой прытрымліваўся і калектыў «Маладзечанскай газеты».**

**Але прыняцце закона яшчэ зусім не азначае, што лёс нашай мовы вызначыўся як адназначна бясхмарны. Зусім не. Беларускамоўныя газеты пачалі выпускаць старонкі на рускай мове, тыражы кніг на беларускай мове па-ранейшаму застаюцца міэзрнымі, беларускамоўныя класы з'яўляюцца далёка не ва ўсіх школах. Таму вестка пра тое, што справаводства на адным з заводаў Маладзечаншчыны — Радашковіцкім міжгаспадарчым прадпрыемстве керамічных вырабаў — вядзецца на беларускай мове, прыемна ўразіла. І картатэка дакументацыі, і сама дакументацыя афармляюцца па-беларуску. Ёсць тут, магчыма, і не адна, машынкі з беларускамоўным шрыфтам. Але не гэта галоўнае. Людзі жадаюць удыхнуць жыццё ў нашу мову. А для каго яна не родная — на заводзе працуе нямала тых, хто прыехаў на сталае жыхарства здалёк, нават з Закаўказзя, — для тых павага да мовы народа, сярод якога яны вырашылі жыць, стала нормай, жаданне ж ёй навучыцца — справай гонару.**

**— Мы ўсяго толькі выконваем Закон аб мовах, — гаворыць дырэктар прадпрыемства В. Лазар. — З першага верасня пачалі весці справаводства на беларускай мове, друкаваць пісьмы, бухгалтарскія справаздачы, пратаколы. Некаторыя людзі пішуць заявы на беларускай мове.**

**Зразумела, не ўсе размаўляюць тут па-беларуску. І ніхто гэтага сабе за мэту не ставіць. Давайце ўспомнім, як раней жылі людзі ў нашых гарадах, вёсках, сёлах, мястэчках. Гаварылі па-татарску, па-яўрэйску, па-польску, але беларускую мову ведалі ўсе. І дарослыя. І дзеці.**

**Кіраўнік прадпрыемства сціпла абыходзіць маё пытанне-сцвярджэнне аб тым, што калі б не быў тут дырэктарам Лазар, то, мабыць, і не было б таго простага, па яго словах, выканання закона. А я застаюся ўпэўнены, што так і было б. Крыўдна, што часам лёс нашай мовы знаходзіцца не ў тых руках, якіх ён варты. Бо мова — не проста знешняя абалонка думак. Гэта і іхняя існасць.**

**А. МАНЦЭВІЧ,**
**супрацоўнік «Маладзечанскай газеты».**

# «ЗРАБІЦЬ КРОК ДА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ»

**Рэдакцыя атрымала зварот каардынацыйнага камітэта згуртавання беларусаў-вайскоўцаў (ЗБВ) да Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. У ім, у прыватнасці, гаворыцца:**

**«З пачуццём вялікага задавальнення сустрэлі мы прыняцце «Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР».**

**Тым большае расчараванне і нават абурэнне выклікае наўмыснае ці ненаўмыснае замаруджванне ажыццяўлення Дэкларацыі, у прыватнасці, яе 10-га артыкула.**

**Мы, беларускія вайскоўцы, раім: вызначыць парадак і ўмовы праходжання вайсковае службы афіцэрамі і салдатамі — грамадзянамі рэспублікі (у т. л. тымі, хто зараз служыць па-за межамі Бацькаўшчыны) пераважна на тэрыторыі БССР, увесці на Беларусі альтэрнатыўную службу; дамагчыся стварэння варункаў, пры якіх Вярхоўны Савет і ўрад БССР вырашалі б усе пытанні размяшчэння на тэрыторыі рэспублікі войскаў і ўзбраення; абмежаваць правядзенне на тэрыторыі Беларусі вайсковых перамяшчэнняў і вучэнняў, дамагчыся паступовага скарачэння колькасці размешчаных у рэспубліцы войскаў; утварыць адпаведны камітэт Вярхоўнага Савета ці орган урада БССР, які ажыццяўляў бы пастаянны кантроль за дзейнасцю на Беларусі кіраўніцтва Беларускай ваеннай акругі і Міністэрства абароны СССР.**

**Ажыццяўленне гэтых прапаноў будзе першым крокам на шляху нашай Бацькаўшчыны да незалежнасці».**

**Сябры каардынацыйнага камітэта ЗБВ у Маскве палкоўнік В. М. АСТАПОВІЧ, палкоўнік запасу І. А. ПАЎЛОЎСКІ, лейтэнант В. П. НАГНІБЯДА.**

# Віншуем!

**Творчасць Івана Шамякіна даўно знайшла народнае прызнанне. Народны пісьменнік Беларусі, ён удастоены ганаровага звання Героя Сацыялістычнай Працы, з'яўляецца лаўрэатам Дзяржаўных прэмій СССР і БССР.**

**Цяпер жа — яшчэ адна прыемная навіна. За вялікі ўклад у развіццё савецкай літаратуры і плённую грамадскую дзейнасць Указам Прэзідэнта СССР М. Гарбачова І. Шамякін узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў.**

## У РЭДАКЦЫЮ «ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА»

**Паважаныя сябры, прашу праз вашу газету выказаць маю самую сардэчную ўдзячнасць усім, хто павіншаваў мяне з нагоды сямідзесяцігоддзя.**

**Ніна ТАРАС.**

# ПРАЦЯГ БУДЗЕ

## 18 мая ў Доме літаратара ў Мінску стачкамаўцы сустрэліся з лідэрамі парламенцкай апазіцыі, партый, з дэмакратычнай інтэлігенцыяй

Яшчэ некалькі тыдняў назад здаваўся неверагодным сам факт масавай палітычнай стачкі на Беларусі. (Вось табе і «Вандэя»!) А сёння арганізатарскія здольнасці стачкамаў, вытрымка і салідарнасць рабочых уражваюць. Незалежны рабочы рух успрымаецца як сур'ёзная палітычная сіла, з якой нельга не лічыцца. Але яго арганізатары бачаць і разумеюць усю складанасць сітуацыі. Добра адчуваючы рэальнасць, яны зусім не схільныя да эйфарыі і ілюзій.

Рабочаму руху патрэбна моцная інтэлектуальная падтрымка, праграма канструктыўных дзеянняў, накіраваных на выйсце з эканамічнага і палітычнага крызісу. Ад гэтага залежыць лёс агульнадэмакратычнага нацыянальнага руху, у рэшце рэшт—будучыня Беларусі як суверэннай дэмакратычнай дзяржавы. Вось чаму стачкамы рэспублікі яшчэ на першым этапе сваёй чарговай канферэнцыі (11 мая) звярнуліся да інтэлігенцыі з прапановай аб сустрэчы.

Пасля заключнага этапу канферэнцыі, 18 мая я гутарыў з яе ўдзельнікам, сустаршынёй Мінскага стачкама, рабочым завода «Электронмаш» Георгіем Мухіным. (Дарэчы, ён балатуецца на выбарах у Вярхоўны Савет рэспублікі па Серабранскай акрузе № 3, якія адбудуцца 2 чэрвеня). Г. Мухін пра неабходнасць такой сустрэчы сказаў:

— Рабочыя зразумелі, што справа не ў кавалку кілбасы, не ў дадатковай сотні-другой рублёў, якія «з'есць» інфляцыя. Красавіцкія выступленні пераканалі людзей, што не трэба спадзявацца на падачкі ўлад. Трэба самім браць тое, што законна зароблена, што належыць людзям па праву, а не з літасці... Лічу, што прыйшоў час і інтэлігенцыі адкінуць страх, што ўбіваўся ва ўсіх нас. Вельмі важна аб'яднаць намаганні рабочых з інтэлектуальнымі сіламі. Нам патрэбны «мазгі», патрэбны веды і розум інтэлігенцыі.

На сустрэчы ў Доме літаратара, якую адкрыў народны дэпутат БССР, таксама сустаршыня мінскага стачкама С. Антончык (вёў яе народны дэпутат БССР Я. Новікаў), шмат гаварылася аб неабходнасці аб'яднання сіл. Абазначыць мэту, аднак, лягчэй, чым знайсці канкрэтныя сумесныя падыходы да рашэння наспелых задач. Гэта таксама выявілася ў ходзе сустрэчы.

Лідэр парламенцкай апазіцыі З. Пазняк падкрэсліў у сваім выступленні, што паміж БНФ і рабочым рухам няма разыходжанняў па прынцыповых пытаннях. Патрабаванні суверэнітэту, палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларусі, а таксама дэкамунізацыі грамадства (у прыватнасці — дэпартызацыі) былі выстаўлены фронтам фактычна з самага пачатку сваёй дзейнасці. Рабочы рух прыйшоў да гэтага самастойна, у выніку аб'ектыўнай патрэбы. Нашаму народу пагражаюць цяжкія выпрабаванні, гаварыў З. Пазняк. У выніку непамернага дэфіцыту бюджэту рэспубліка можа стаць банкрутам. Каб выйсці з фінансавага і эканамічнага крызісу, патрэбны радыкальныя меры па пераходзе да рынку, перш за ўсё — хуткая і паслядоўная прыватызацыя. Наогул, пераход да рыначных адносін можа быць толькі хуткім, а не расцягнутым на доўгія гады. На думку З. Пазняка, неабходна фарміраванне ўрада народнага даверу, якое будзе магчыма толькі пасля новых, дэмакратычных выбараў.

Дэпутаты ад апазіцыі В. Малашка, А. Беленькі, У. Заблоцкі таксама гаварылі пра эканамічны стан, у якім апынулася Беларусь з-за палітыкі Цэнтра і неэфектыўных дзеянняў рэспубліканскага ўрада. Так, па словах У. Заблоцкага, яшчэ сёлета нас чакае новае павышэнне цэн мінімум удвая.

На сустрэчы выступілі эканамісты, выкладчыкі, інжынеры. Было прадастаўлена слова лідэрам і членам розных партый (уключаючы камуністычную). Выступіў нават старшыня аргкамітэта арганізацыі з дзіўнай назвай «рух кваліфікатараў», які назваў інтэлігенцыю... баластам, што цягне грамадства ўніз. Усе, за выключэннем «кваліфікатара», сыходзіліся на тым, што трэба падтрымаць рабочы рух.

Але ці здольна інтэлігенцыя гэта зрабіць? Такое пытанне задаў старшыня Цэнтральнай рады БСДГ М. Ткачоў. Мяркуючы па тым, што на сустрэчы ў Дом літаратара не прыйшлі, за рэдкім выключэннем, ні прадстаўнікі творчых саюзаў, ні медыкі, ні юрысты — наўрад. Адсюль і больш шырокае пытанне, гаварыў вучоны: ці наспеў час для выбараў на шматпартыйнай аснове? Трэба, відаць, брацца за справу знізу — працаваць у калектывах інстытутаў, навучальных устаноў і г. д. І рыхтавацца да фарміравання «круглага стала», за якім сустрэліся б стачкамы, прадстаўнікі палітычных партый, дэпутаты Вярхоўнага Савета і ўрад рэспублікі.

Пра тое, што працы наперадзе — у тым ліку і для лідэраў рабочага руху — не на тыдзень, а на гады, гаварыў намеснік старшыні Сойма БНФ Ю. Хадыка.

А што ж стачкамаўцы? Свае меркаванні яны выказвалі шчыра, без лішняй дыпламатыі. Адно з іх: замест «палітасветы» на сустрэчы трэба было б заняцца рэальнымі арганізацыйнымі мерамі. З такой ацэнкай пагадзіліся далёка не ўсе, але ўвогуле адчувалася расчараванне — ад сустрэчы стачкамаўцы яўна чакалі большага.

Можна было б абмежавацца словамі пра тое, што гэта — толькі пачатак, што будуць новыя сустрэчы. Напэўна. Але напалову пустая зала ў Доме літаратара выклікала сумныя думкі. Па-чалавечы зразумець можна: выхадны дзень, вясна, дачны сезон. І зусім не хочацца думаць пра інфляцыю, крызіс, забастоўкі, пра магчымасць надзвычайнага становішча, тым больш не хочацца нешта рабіць. Куды прасцей сказаць потым: «Я гэта прадбачыў...»

**Віталь ТАРАС.**




На плошчы Леніна ў дзень адкрыцця чарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

Фота Ул. КРУКА.

# АДБОЙ?

21 мая перад Домам урада народу сабралася няшмат. Некалькі дзесяткаў чалавек з прадпрыемстваў Мінска, Магілёва, Жодзіна, Салігорска, іншых гарадоў паводзілі сябе мірна — з боку магло падацца, што проста сабраліся людзі пагутарыць між сабой, паслухаць у кампаніі трансляцыю з Вярхоўнага Савета па радыёпрыёмніку.

Праўда, халодны дождж і сівер, што матляў сцягі, транспаранты і парасоны ў руках маніфестантаў, яўна не заахвочвалі да такога баўлення часу. З вялікай няўхвалай пазіраў дала на мітынгуючых і міліцыя, у яе паводзінах з'явілася нейкая пагрозлівая насцярожлівасць, якой у час красавіцкіх мітынгаў, здаецца, не было.

Людзі, аднак, не разыходзіліся, уважліва слухалі сесію. І з кожным новым выступленнем у Вярхоўным Савеце атмасфера на плошчы падагравалася. У першым жа перапынку, калі дэпутат С. Антончык пацвердзіў меркаванні мітынгуючых — камуністычная большасць у парламенце ідзе, па яго словах, на канфрантацыю, — плошча забурліла. Эмоцыі эмоцыямі, аднак заклік разыходзіцца па заводах і неадкладна выводзіць рабочых да Дома ўрада, з якім выступіў адзін са стачкомаўцаў, падтрыманы не быў.

Здавалася, сто разоў адмерваў, прыкідваў варыянты, калі трэба аб'яўляў агульную забастоўку, савет стачкомаў Беларусі. Рашыцца на крайнюю меру заўсёды цяжка. І усё ж, калі рашэнне павінна было ўступіць у сілу, большасць рабочых... яго не падтрымала.

Наступным днём, 22 мая, палітычная стачка захлынулася, не паспеўшы пачацца.

У Мінску спынілі работу МАЗ, маторны завод, іншыя прадпрыемствы, асобныя цэхі. Але далёка не ўсе, і на плошчу выйшлі толькі нямногія. Прычыны тут былі, зразумела, больш важкія, чым дрэннае надвор'е. Выступаючы на мітынгу, сустаршыня мінскага стачкома Г. Быкаў прызнаў: рабочы рух выдыхаецца, ідзе на спад.

Магчыма, часовае яго паражэнне было аб'ектыўна непазбежным. Але што ж далей? Ці не прывядзе расчараванне і стомленасць рабочых ад няроўнай барацьбы, страты веры ва ўласныя сілы да поўнай апатыі? І невядома яшчэ, ці не больш небяспечна гэта для грамадства, чым забастоўкі.

Пра гэта не зашкодзіла б задумацца і лідэрам апазіцыі, і ўсім астатнім.

**В. Т.**

НА ПАВАРОЦЕ

# З ВЯЛІКАГА ГРОМУ...

Пачатак IV сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі яшчэ больш узмацніў мае сумненні наконт таго, што ў гэтай вось парэзанай на акуратныя кавалкі-сектары зале вырашаецца лёс Беларусі. Зрэшты, і сам Мікалай Дземянцей, выступаючы 21 мая, у паблажліва-самакрытычным тоне прызнаў: «Узнікае пытанне: ці не парушана ў нас сувязь з тымі, чые інтарэсы мы прадстаўляем?.. У нас не склаўся механізм рэгулярных зносін з народам. Таму мы не заўсёды дакладна сабе ўяўляем думкі людзей па асноўных праблемах сацыяльна-палітычнага жыцця, не паспяваем рэагаваць на яго падзеі, не аказваем уплыву на працэсы барацьбы за масы, за ўладу».

З іншага боку, як высветлілася, лёс Беларусі не вырашаецца, кажучы абагулена, і на плошчы. Кіраўнікі розных рангаў, відаць, уздыхнулі з палёгкай — новага забастовачнага ўсплёску гэтымі днямі не адбылося. Не будзем і мы надта шкадаваць з гэтай прычыны. Усё-ткі стачка — надзвычайная, крайняя і вельмі дарагая мера. Але ж існуюць і іншыя досыць эфектныя і эфектыўныя формы грамадскага волевыяўлення. Відавочная пасіўнасць як водгук, здавалася б, на такую доўгачаканую сесію наводзіць на думку аб тым, што, магчыма, пераход ад эканамічных патрабаванняў да палітычных пад час красавіцкіх хваляванняў быў фарсіраваны лідэрамі рабочага руху, а не ўсвядомлены шырокімі масамі. У такім разе выказванне Зянона Пазняка — «Беларускі рабочы клас паказаў не толькі сваю згуртаванасць, але і кемлівасць, разуменне сітуацыі, патрабуючы дзеля паляпшэння сацыяльна-эканамічнага стану палітычных пераменаў» — гучыць завельмі аптымістычна.

Дзе ж сёння вырашаецца лёс Беларусі? З жалем даводзіцца канстатаваць, што ў тых самых «калідорах улады», «штабах», «камандных пунктах» і г. д., па-ранейшаму захаваных ад любых скразнякоў. У механізме выпрацоўкі і прыняцця рашэнняў мала што змянілася, хіба што крыху ўскладніліся «правілы гульні», звязаныя з правядзеннем задуманага праз дэмакратычныя працэдуры. Але ад гэтага сістэмны цынізм робіцца яшчэ больш відавочным і, здаецца, непераможным. Няма праблем, трэба ўсяго толькі своечасова ўключыць «машыну для галасавання». Ці — своечасова яе не ўключыць. І справа тут, напэўна, не столькі ў чыёйсьці «змове» і наўмысных «хітрыках апаратчыкаў», колькі ў рэфлексах, дзесяцігоддзямі выпрацаваным ладзе думак і паводзін.

Каб не быць галаслоўным, звярнуся да палкіх дэбатаў аб парадку дня, якія адбыліся ў першы дзень сесіі. Падобныя спрэчкі ўзнікаюць пастаянна. І гэта зусім натуральна, бо прымаецца ж не проста набор пытанняў для разгляду і іх чарговасць, — вызначаецца палітычная канцэпцыя, задаецца логіка працы Вярхоўнага Савета.

З прапанаванага Прэзідыумам ВС праекта, які складаўся з 34 пунктаў, вынікала, як мінімум, што нашы парламентарыі—людзі з жалезнымі нервамі і маюць намер захоўваць алімпійскі спакой, нягледзячы ні на што. Бурныя падзеі, трывогі і надзеі, якімі віравала рэспубліка ў красавіку, прапушчаныя праз апаратныя фільтры, у парадку дня сфармуляваны наступным чынам: «Аб унясенні змен і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Беларускай ССР у адпаведнасці з прапановамі органаў і асоб, якія маюць права заканадаўчай ініцыятывы, а таксама запытаннямі, прапановамі і патрабаваннямі працоўных і ўдзельнікаў мітынгаў і забастовак, якія мелі месца ў красавіку 1991 года ў рэспубліцы». Брава! Для мяне заўсёдная загадка — дзе, у якіх акадэміях навучаюць вось так выцягваць душу з любой справы і заблытваць сэнс? Адзін толькі падзел на «працоўных» і «ўдзельнікаў мітынгаў і забастовак» чаго варты! Увогуле, па якой траекторыі рухаецца думка ў галаве чалавека, які сплятае падобныя пасажы? Але справа зроблена, і стачкамы павінны яшчэ і дзякуй сказаць за тое, што іх «пытанне» стаіць на парадку дня дваццаць сёмым пунктам. Падумаеш, «аб некаторых заканадаўчых актах», маглі б і ўвогуле не разглядаць...

Вядома, можна спрачацца, ці з'яўляецца слушным з пункту гледжання тактыкі тое, як лідэр апазіцыі выпрабоўвае цярпенне сваіх апанентаў, карыстаючыся выразамі, накшталт, «вылазка наменклатурных камуністаў», «фенаменальная камуністычная хлусня», «партыя злачынных банкрутаў»... Усё ж, каб быць пачутым і зразуметым, наўрад ці трэба цягаць субяседніка за вусы.

Разам з тым,прапанаваная З. Пазняком канцэпцыя парадку дня сесіі выгодна адрознівалася ад афіцыйнай стройнасцю, лагічнасцю, завершанасцю. Нагадаю сем пунктаў апазіцыі: аб наданні Дэкларацыі аб суверэнітэце канстытуцыйнага статуса; аб дэпартызацыі дзяржаўных устаноў, суда, пракуратуры МУС, КДБ, сістэмы адукацыі, арганізацый і прадпрыемстваў; аб выбарчым заканадаўстве: аб кааліцыйным урадзе народнага даверу; аб грамадзянстве Беларусі; аб прынцыпах раздзяржаўлення і прыватызацыі; аб статусе Савецкай Арміі на тэрыторыі рэспублікі.

Па сутнасці, апазіцыя ўслед за рабочымі на плошчы яшчэ раз настойліва прапаноўвала Вярхоўнаму Савету не ўпусціць, магчыма, апошні шанц зрабіцца сапраўды вярхоўнай уладай рэспублікі, даць новы імпульс працэсам суверэнізацыі Беларусі, якія, трэба прызнаць шчыра, пачалі прабуксоўваць, пагразаючы ў «аб'ектыўных цяжкасцях».

Мне могуць запярэчыць, маўляў, прапановы апазіцыі ўлічаны ў афіцыйным парадку дня. Я сказаў бы — рассеяны па ім, разбаўлены да той канцэнтрацыі, якая не з'яўляецца небяспечнай ні для тых, хто «рыхтаваў пытанне», ні для тых, хто ніколі не штурмуе мікрафоны, не спрачаецца, а маўкліва націскае кнопкі — калі трэба і як трэба.

Напярэдадні сесіі выказвалася заклапочанасць тым, каб яна не ператварылася ў мітынг. Што ж. мітынг у сценах парламента — гэта кепска. Але яшчэ горай, калі ўяўленні аб парламентарызме грунтуюцца на вопыце правядзення сходаў партыйна-гаспадарчага актыву.

Андрэй ГАНЧАРОЎ.

# Крый божа, каб зноў...

Даўно прыняты Закон аб мовах у Беларускай ССР, а робіцца ўсё як знарок наадварот. Вось газета «Беларускі час». Яна захавала беларускую мову хіба толькі ў загалоўку, бо апошнія яе нумары надрукаваны цалкам рускай мовай. Раней дык хоць адна-дзве нататкі былі на роднай мове. Ці такой павінна быць газета беларускага працоўнага люду?

Мала, вельмі мала робіць наш урад для свайго 10-мільённага народа. Надзея толькі на тое, што наступныя пакаленні, якія не ведаюць жахаў сталіншчыны, што-небудзь зробяць для адраджэння Беларусі. У адваротным выпадку мова беларусаў будзе толькі ў архіве. А гэта значыць, што не будзе ўжо беларусаў на Беларусі.

Крый божа, каб зноў мы не сталі «Северо-западным краем»...

**Валерый БАБЕЙ,**
**шліфавальшчык Мінскага трактарнага завода.**

# Чые вы, старыя?

З нейкіх пор не магу спакойна бачыць старых людзей: на вуліцы, у метро, у парку. Гляджу на іх — і сэрца скаланаецца ад сораму, горычы, болю. Яны — нашы старыя, нашы бацькі і мацяркі, наша гісторыя. Чаму ж мы забываемся на іх, выкрэсліваем іх з памяці, не бачым іх праблем? А праблем гэтых у іх нікольні не менш, чым ува ўсіх нас: мізэрныя пенсіі, дрэнная (і такая неабходная!) медыцынская дапамога, хваробы, адзінота.

Многія з іх лічаць сябе нікому не патрэбнымі (так яно, на жаль, часта і ёсць), нікуды не звяртаюцца па дапамогу. Так і паміраюць, не зразумеўшы, за што змагаліся, адстойвалі Радзіму і дзе той шчаслівы сацыялізм (або камунізм), пра які марылі, спадзяючыся, што старасць іхняя будзе шчаслівая.

Мне могуць сказаць: у нас жа ёсць дамы састарэлых, насельнікі якіх забяспечаны дзяржавай усім неабходным. Ведаеце, ёсць у Ігара Лучанка песня «Дом састарэлых», і я, маладая дзяўчына, не магу слухаць яе без хвалявання. Бо спяваецца ў той песні пра тое, што — барані цябе Бог трапіць у той дом, спаць на казённых прасцінах, чакаць, прыйдуць ці не прыйдуць да цябе ў адведкі.

Неяк я неведала дом састарэлых у Мінску. Мяне ўразіў кантраст паміж людзьмі, якія жывуць там, і тымі, хто іх абслугоўвае. Гэтыя няшчасныя старыя людзі, ляжачыя і хадзячыя, ужо нават і не агрызаліся на санітарак, якія злосна, з нянавісцю асыпалі іх адборнай лаянкай. Бачыла я і тое, як іх кармілі: скібкі хлеба кідаліся з кошыка проста ў суп... На мяне, незнаёмку, новенькую тут, глядзелі дзесяткі старэчых вачэй, нібы гаворачы: «Дачушка, што ж гэта такое робіцца?..» Было сорамна за нас з вамі, дарагія сугрымадзяне. Я не асуджаю людзей, якія прывезлі сваіх бацькоў у дом: па-першае, у жыцці ўсяляк бывае, а па-другое — гэта справа іх сумлення. Але чаму так чэрства і абыякава абыходзяцца з імі людзі, якія там працуюць?

Што ж гэта з намі робіцца?

А потым была я ў Польшчы. Трапіла ў горад Пшчына, што ў Верхняй Сілезіі. А ў горадзе тым — у дом састарэлых. Дом невялікі, але акуратны. Людзям там ад 60 і больш. Абстаноўка спакойная, мілыя дзяўчаты-манахіні адорваюць усмешкамі. У доме вельмі чыста, утульна, усюды дываны, бялюткая бялізна...

Прыехала я сюды з хорам Белдзяржуніверсітэта. Хор наш прыйшлі паслухаць амаль усе насельнікі дома. Тыя ж, хто не мог прыйсці, слухалі ў пакоях праз мясцовую радыёкропку. Я міжволі параўноўвала польскіх манахінь з нашымі цёткамі, якія працуюць у мінскім доме састарэлых, з цёткамі, у якіх, здаецца, назаўсёды прыліпла да твару злосць і незадаволенасць. І было мне балюча, крыўдна за нашых старых людзей, якім выпаў лёс жыць гэтак кепска.

А, між іншым, якія цікавыя людзі ёсць сярод іх! Жыццё каторага — сама наша гісторыя. Чалавек і ваяваў, і сядзеў у сталінскіх лагерах, адраджаў горад, перажыў «кукурузу», застой. Мы прывыклі пазнаваць гісторыю з кніг, а тут вось, перад табой — жывая крыніца. Вуснамі дзіцяці гаворыць ісціна, а вуснамі старога чалавека — мінуўшчына, гісторыя. І давайце не будзем забываць пра гэта: ім жа гэтак мала засталося...

Я саграшыла б супраць ісціны, калі б сказала, што ў нас няма людзей добрых, чулых, спагадлівых, якія пацціху, нягучна дапамагаюць старым, асабліва малазабяспечаным. Але ж усё гэта робіцца толькі эпізадычна, час ад часу.

А цяпер жа, пры пераходзе да рыначнай эканомікі, інфляцыя і татальны дэфіцыт перш за ўсё ўдараць па старых. Нам трэба пра гэта помніць і нешта рабіць, рабіць... Магчыма, пры кожным ЖЭСе стварыць службу дапамогі старым і ўстанавіць тэлефон па тыпу «тэлефона даверу», па якім пажылы чалавек можа пазваніць і папрасіць дапамогі. Я ведаю, якую вялікую міласэрную дапамогу людзям аказвае царква. Але яна дзейнічае неяк адасоблена. Можа, нашым грамадскім і дзяржаўным арганізацыям, якія таксама займаюцца арганізацыяй гуманітарнай дапамогі старым, аб'яднаць свае намаганні з царквой?

Мне здаецца, наша грамадства проста абавязана фінансаваць гуманітарныя праграмы.

А пакуль я хаджу па вуліцах і бачу старых жабрачак, якія просяць міласціну. І хочацца сказаць словамі Евангелля: «...будьте друг ко другу добры, сострадательны, прощайте друг друга, как и Бог во Христе простил вас».

**Марына МДЗІВАНІ.**

г. Мінск.

# Дзе ж гаспадары?

Дасведчаны чытач, напэўна, памятае, колькі спрэчак было ў друку, ды і ў «ЛіМе» таксама, колькі скрыжоўвалася пёраў пра лёс будынка чыгуначнага вакзала, што на станцыі Уша (в. Краснае) Маладзечанскага р-на. Будынак гэты ўжо не адпавядаў патрабаванням сённяшняга дня, таму было вырашана ўзвесці новы будынак вакзала, а старое памяшканне знесці.

Аднак умяшалася грамадскасць і патрабавала старое памяшканне захаваць, стварыўшы там музей чыгункі і філію музея М. Багдановіча. Увогуле недахопаў у ідэях не было.

І вось ужо больш як паўгода ўсе службы вакзала справілі наваселле ў новым памяшканні. А старое засталося... нікому не патрэбным.

Сумна і горка глядзець сёння на будыніну, якая столькі гадоў служыла людзям, дзе ў далёкім 1911 годзе адпачываў пасля прыезду з Вільні Максім Багдановіч. Сумна і горка, бо, страціўшы гаспадара, гэта будыніна, здаецца, страціла і свой лёс. Павыбіваны шыбы, пакрышаны вокны, кучы друзу, смецця...

Дзе ж тыя былыя заступнікі? Дзе гаспадары? Служба чыгункі, пакінуўшы будынак, дзейнічае па прынцыпу пасля нас — хоць патоп. Міністэрства культуры выбрала прынцып іншы: і я — не я, і хата — не мая.

Вядома, у цяперашняй крызіснай сітуацыі, што склалася ў краіне, можна знайсці апраўданне. І сродкаў няма, і матэрыялаў. Тут хоць бы самім неяк выжыць пры сённяшняй дарагавізне. Але ж не хлебам адзіным...

Трэба тэрмінова прыняць меры калі не па рэстаўрацыі будынка, то хоць бы надзейнай яго кансервацыі. Бо не выключана магчымасць таго, што там у адзін цудоўны дзень загуляе «чырвоны певень». Вось тады ўсе праблемы будуць вырашаны.

**Вячаслаў ШНУРКЕВІЧ.**

г. Маладзечна.

# Жылка ў ссылцы

Правінцыйны горад Уржум яшчэ з канца мінулага стагоддзя стаў месцам палітычнай ссылкі. У пачатку трыццатых у горадзе пачалі з'яўляцца першыя са ссыльных савецкага перыяду. Адным з іх і быў Уладзімір Адамавіч Жылка. Гэта пазней, ратуючыся ад рэпрэсій, прыедуць у наш раён бацькі А. Твардоўскага, а потым прывязуць з Ленінграда першых дзяцей, бацькі якіх былі арыштаваны па «ленінградскай справе». Дзяцей па спецнарадах будуць везці з Масквы і Баку, Іванава і Чэлябінска, Томска і Уфы, Ленінграда і Петразаводска...

Напачатку беларускі паэт жыў у вядомага гарадскога педагога Дзеранкова, потым калі сам гаспадар мусіў памяняць кватэру, Уладзімір Адамавіч пераехаў да А. Рукавішнікавай. З гэтай кватэрнай гаспадыняй яму пашанцавала. Добрая жанчына чула ставілася да свайго кватаранта.



Магіла У. Жылкі ў Уржуме.
Фота аўтара.

У цёплы час паэт блукаў па Уржуме, любаваўся мясцовымі адметнасцямі. Адзін з яго знаёмых, М. Рускіх, успамінаў, што Уладзімір Адамавіч распытваўся пра горад, цікавіўся своеасаблівай архітэктурай мясцовых цэркваў і сабора.

Верасень 1931 года. У толькі што адчынены Уржумскі медыцынскі тэхнікум увайшоў хударлявы, з нездаровым выглядам чалавек. «Я хачу прапанаваць сябе на пасаду загадчыка гаспадаркі, у якім мае патрэбу тэхнікум,— сказаў наведнік.— Мне патрэбна работа, каб жыць».

Сустрэча гэтая скончылася згодай прыняць Уладзіміра Адамавіча на працу з прадастаўленнем некалькіх педагагічных гадзін па літаратуры...

Немагчыма сабе ўявіць стан паэта, які навучаўся ў Празе, ведаў некалькі еўрапейскіх моў і прасіў работы ў людзей, мабыць, не дужа дасведчаных і адукаваных. Ды так і было. Аднак пашанцавала У. Жылку з працай. І хоць колькі тых месяцаў рабіў, ды знайшоў сяброў.

Менавіта адзін з іх, М. А. Шарсценнікаў, будучы прафесар Башкірскага медінстытута, зайшоў адведаць хворага паэта 1 сакавіка 1933 года і пад яго дыктоўку запоўніў паштоўку на імя ягонага брата: «Болен опасно, как никогда. Вопрос о смерти не сходит с очевидного порядка. Обратись к Петрику, Кастусю, чтобы прислали по сто рублей. Нуждаюсь. Выздоровею — верну. Будь сильным».

Вечарам уржумскія сябры сабраліся ля Уладзіміра Адамавіча...

Калі ў 1965 годзе дачка паэта Н. Лазарава звярнулася ў выканком Уржумскага гарсавета з пісьмом-просьбай паведаміць пра месца пахавання яе бацькі, на пісьмо гэтае адгукнулася жонка даглядчыка магілак Уржума В. А. Лешчанка. Яна, былая ўдзельніца партызанскага руху на Беларусі, вярнуўшыся пасля вайны на радзіму, разам з мужам знайшла напаўсцёрты надпіс на спарахнелым драўляным помніку; яна дагледзела магілу паэта...

**Уладзімір ВЯТЛУЖСКІХ,**
краязнаўца, супрацоўнік уржумскай раённай газеты «Кировская искра».

# Бедная, бедная «падчарка»

Нядаўна ў Мінску прайшоў І Рэспубліканскі конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні. Безумоўна, конкурс — сапраўдная з'ява ў сучасным беларускім эстрадным мастацтве і, спадзяюся, спецыялісты яшчэ не раз яго прааналізуюць, у тым ліку і праз друк. Спадзяюся таксама, што мы дачакаемся ІІ і ІІІ рэспубліканскіх конкурсаў і, увогуле, што яны ў нас «прыжывуцца» надоўга.

Але мне вельмі хацелася б (і, я ўпэўнена, не толькі мне), каб у наступныя разы не паўтарылася тое, чаго нельга было не заўважыць цяпер: амаль усе песні, якія гучалі на конкурсе, спяваліся па-руску. А, між тым, выступалі людзі, ад якіх залежыць будучыня нашай эстрады.

Шчыра кажучы, ужо не дужа перакануча гучаць спасылкі на занядбанасць мовы. І, здаецца, куды справядлівей прычыны такіх недарэчнасцей шукаць не ў нашай нацыянальнай гісторыі, а ў канкрэтных людзях, арганізатарах падобных мерапрыемстваў.

Можна пашукаць іх і на Беларускім тэлебачанні, на якім нацыянальная эстрадная музыка ўсё яшчэ выступае ў ролі беднай падчаркі. Нараканні некаторых плакальшчыкаў на тое, што ў тэлебачання няма грошай на здымкі музычных кліпаў, яўна перабольшаныя. У любым выпадку, нават тое, што ёсць у фанатэках, можна выкарыстоўваць куды з большым эфектам. У свой час тэлебачанне адкрыла цікавую серыю перадач «Прэм'ера песні» (аналагічную той, якая і да сённяшняга дня гучыць па радыё). Адкрыла — і тут жа паспяшалася... закрыць, такім чынам пакінуўшы ці не адзіную рэгулярную праграму, якая знаёміць з навінамі беларускай эстрады: «Песню бярыце з сабою». Але і гэтую перадачу апошнім часам рэгулярнай назваць цяжка. Да таго ж на фоне новых музычных праграм ЦТ форма яе правядзення здаецца яўна састарэлай.

Дык што гэта: дэфіцыт прафесійных кадраў на тэлебачанні, ці дэфіцыт жадання рабіць што-небудзь?

**Ж. БАЯРЧЫК.**

г. Мінск.

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# ...І завецца яна Беларуссю

Чытачы, напэўна, памятаюць нашу публікацыю «Па той бок «крэсаў». Друкуючы яе, мы ўсведамлялі, што яна выкліча неадназначную ацэнку і рэакцыю. І не памыліліся. Пераважная большасць чытачоў успрыняла нататкі Э. Закрэўскага з паразумеласцю, падзяляючы выказаную ім трывогу і заклапочанасць з выпадку нездаровых, відочна антыбеларускіх памкненняў польскага каталіцкага клеру. Зусім інакш успрынялі публікацыю некаторыя актывісты польскага нацыянальнага адраджэння на Беларусі. На іх думку, усё ў ёй — паклёп, правакацыя, распальванне міжнацыянальных канфліктаў...

І тыя, і другія думкі знайшлі адбітак у аглядзе рэдакцыйнай пошты, выкліканай нататкамі Ю. Закрэўскага. Агляд быў змешчаны ў «ЛіМе» пад загалоўкам «Молімся польскаму богу», або Па гэты бок «крэсаў». Мы меркавалі, што яшчэ раз вяртацца да публікацыі нагоды не будзе. Але ў рэдакцыю прыйшоў ліст членаў праўлення брэсцкага аддзялення Саюза палякаў у Беларусі Ажахоўскага, Янчука і іншых (подпісы іх, на жаль, нечытэльныя). Ліст, напісаны чамусьці па-руску (як, памятае чытач, і ліст старшыні брэсцкага аддзялення СПБ М. Дабрыніна), поўны гневу і абурэння.

«Мы весьма удивлены, что газета творческой интеллигенции, орган Союза писателей БССР считает возможным публиковать на своих страницах материалы столь низкой пробы, поскольку даже человеку непосвященному видно, что это элементарная политическая провокация. Во-первых, материал появился спустя семь месяцев после описываемых в нем событий — то есть стал кому-то срочно нужен; во-вторых, обвинения в адрес отдельных личностей и польского возрождения в целом не подкреплены никакими документальными ссылками... Единственной целью этого провокационного материала является попытка поссорить поляков и белорусов, дискредитировать идею национального возрождения поляков на этих землях в глазах непольского населения, посеять недоверие между народами... Мы требуем публичного опровержения клеветы в адрес поляков и принесения извинений М. Добрынину...»

Вось такі ліст, сутнасць якога відаць з гэтых цытат. Дзіўна чытаць яго. Матэрыял Ю. Закрэўскага «низкой пробы»? Што гэта такое і паводле якіх крытэрыяў? «Элементарная политическая провокация»? Гучна, але беспадстаўна. Матэрыял — усяго толькі нататкі ўдзельніка курсаў, які добрасумленна расказаў пра свае ўражанні, нідзе не робячы высноў і не даючы ацэнак ці рэкамендацый. Матэрыял раптам некаму тэрмінова спатрэбіўся? Каму, калі не сакрэт? Ну, а якія могуць быць дакументальныя спасылкі ў матэрыяле, які носіць характар дзённікавых запісаў? А як успрымаць вось гэта: «дискредитировать идею национального возрождения поляков на этих землях в глазах непольского населения»? З лексікону якога часу гэтыя словы? Што гэта за «эти земли» и «непольское население»?

Міжволі згадваецца адна публікацыя з другога нумара «Спадчыны» за сёлетні год. Маем на ўвазе артыкул Алеся Гаруна «Груганнё», упершыню надрукаваны ў газеце «Беларускі шлях» у снежні 1919 года. Наш паэт напісаў яго з выпадку рашэння варшаўскага сойма аб правядзенні плебісцыту на беларускіх землях, занятых польскім войскам. У артыкуле прыводзяцца словы пасла Камянецкага: «На гэтых землях плебісцыт саўсім лішні, бо рэзультат яго, наперад можна сказаць, што будзе на нашую (польск. гаспадарства. — Аўт.) карысць»...

Ці ж не дзіўнае супадзенне: «на гэтых землях» і «на этих землях»? Словы сказаны ў 1919 і ў 1991 гадах. Выпадковасць? Магчыма. Аднак жа... Тады, у толькі што аднолўленай Польшчы многія, на жаль, Беларусь менавіта гэтак вось і ўспрымалі: спакон веку польскімі землямі, якія трэба вярнуць «да сваёй вотчыны».

Дарэчы, Алесь Гарун зусім не прыпісваў гэтага польскаму народу, а толькі асобным «старым груганам», з якімі «новая Польшча не справілася яшчэ». Мы таксама заўсёды разумеем гэтае адрозненне паміж польскім народам і асобнымі яго, так бы мовіць, не лепшымі прадстаўнікамі. І ніводная лімаўская публікацыя ніколі не ўтрымлівала хоць бы знаку таго, што магло б кінуць нейкі цень на братні нам суседні народ. «Мае браты, мае суседзі, свабодны, новы польскі люд! Няхай жа песняй звонкай медзі красуе наша дружба тут!..» Ну, мо і мінулі часіны занадта звонкіх песень дружбы, але галоўнае засталося: з суседзямі трэба і належыць жыць па-суседску.

Беларускі народ сёння робіць высілкі (мо ў апошні раз!) дзеля свайго нацыянальнага адраджэння. І ён вельмі добра разумее такія ж адраджэнцкія памкненні і жаданні «сваіх» нацменшасцей — яўрэяў, татараў, літоўцаў, украінцаў і, вядома ж, палякаў. Разумее і падтрымлівае. Разумее гэта і «ЛіМ», і шмат разоў пісаў пра дзейнасць на Беларусі культурна-асветных нацыянальных таварystваў, што ўзніклі ў рэспубліцы апошнім часам. Пісаў, тым самым падтрымліваючы гэтую дзейнасць. Інакш і нельга, бо залежнасць тут прамая. Толькі адроджаны, паўстаўшы з нацыянальнага небыцця да свядомага жыцця беларускі народ можа забяспечыць і гарантаваць духоўнае адраджэнне і росквіт прадстаўнікоў іншых народаў, што жывуць з ім побач.

І калі ўзнікае неабходнасць (прыкрая неабходнасць!) друкаваць матэрыялы, накшталт нататак «Па той бок «крэсаў», дык, думаецца, прадстаўнікі гэтых народаў (у дадзеным выпадку палякі) павінны ставіцца да іх таксама з паразумеласцю, спакойна і з годнасцю. Бо Бацькаўшчына ў нас адна, і завецца яна Беларуссю.

А што датычыць «принесения извинений» М. Дабрыніну, дык... Ці ж зняважаў хто-небудзь яго? Прынамсі, «ЛіМ» зусім не меў такога намеру. Ю. Закрэўскі? Калі хтосьці лічыць, што ён залішне паддаўся эмоцыям і ў чымсьці перагнуў кій, — што ж, «ЛіМ» прадастаўляў (і прадаставіць яшчэ, калі будзе патрэба) месца для ўдакладнення пазіцый.

# «ЗА АКІЯНАМ МЫ МНОГАЕ ЗРАЗУМЕЛІ»

**На пытанні карэспандэнта «ЛіМа» адказвае народны дэпутат БССР Леанід БАРШЧЭЎСКІ**

**— Разам з двума іншымі прадстаўнікамі парламенцкай апазіцыі — народнымі дэпутатамі БССР Зянонам Пазняком і Уладзімірам Заблоцкім вы, Леанід Пятровіч, цэлы месяц былі ў Злучаных Штатах Амерыкі і Канадзе. Што гэта за паездка, якую мэту вы ставілі перад сабой, выпраўляючыся ў няблізкі свет?**

— Асноўная мэта візіту — устанаўленне кантактаў з палітычнымі дзеячамі і спецыялістамі ў галіне рыначнай эканомікі ЗША і Канады, а таксама з беларускай эміграцыяй у гэтых краінах. Справа ў тым, што сёння апазіцыя ў Вярхоўным Савеце рэспублікі, па сутнасці, выконвае, так бы мовіць, функцыі ценявога ўрада. Гэта накладвае на нас вялікую адказнасць і вымагае, акрамя ўсяго іншага, глыбокіх ведаў у розных галінах палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця Беларусі. Прынамсі, парламенцкая апазіцыя працяглы час ужо змагаецца за хутчэйшы пераход рэспублікі да рыначных адносін, сустракаючы пры гэтым проціддзеянне пэўных сіл у Вярхоўным Савеце, ды і не толькі тут... Там, за акіянам, нам хацелася знайсці спецыялістаў, якія б маглі даць правільную ацэнку нашых прапаноў, ідэй.

**— Хіба такіх спецыялістаў няма ў нас?**

— Мы шукаем іх у рэспубліцы, але, пагадзіцеся, ніхто з нас ніколі не жыў пры рыначнай эканоміцы. Іншая справа, тая ж Амерыка... І яшчэ адну мэту мы ставілі перад сабой — расказаць мясцовым палітыкам, што ўяўляе сабой сучасная Беларусь з яе няпростымі праблемамі, звязанымі, у першую чаргу, з чарнобыльскай трагедыяй.

І сёння за акіянам маюць даволі цьмянае ўяўленне аб нашай рэспубліцы. Яна паранейшаму асацыіруецца ў іх з Расіяй. Адкрыць вочы амерыканцам, канадцам на рэальнае становішча спраў не лёгка. Тут я не магу не сказаць слоў глыбокай удзячнасці беларускай эміграцыі ў ЗША і Канадзе, якая ў часы існавання жалезнай заслоны, што аддзяляла нашу краіну, рэспубліку ад свабоднага свету, рабіла ўсё магчымае, каб расказаць амерыканцам пра Беларусь, беларускі народ, яго традыцыі і памкненні. Прадстаўнікі эміграцыі рэгулярна звярталіся да кангрэсменаў, нават да прэзідэнта ЗША з напамінкам аб заняволенні беларускага народа, пра яго барацьбу за нацыянальную незалежнасць. Гэта дало свой плён. Апошнія гады перад кожным 25-м сакавіка — Днём абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, на флагштоку перад будынкам кангрэса ў Вашынгтоне, уздымаецца бел-чырвона-белы сцяг. Беларуская эміграцыя прымяркоўвае да гэтай даты цэлы шэраг палітычных і культурных мерапрыемстваў — фестывалі, выставы і да т. п., імкнецца расказаць пра Беларусь у мясцовых сродках масавай інфармацыі.

Павінен адзначыць, што ў ЗША і Канадзе, як мы ўпэўніліся, жыве сапраўдная беларуская інтэлігенцыя, якая і ў нас у дэфіцыце. Незалежна ад прафесіі і, так сказаць, маёмаснага цэнзу, амерыканскія беларусы цудоўна валодаюць роднай мовай. Я маю на ўвазе і старэйшае пакаленне, якое нарадзілася на Бацькаўшчыне, і тых, хто нарадзіўся ўжо ў Амерыцы.

Цяпер бліжэй да канкрэтыкі, звязанай з нашым візітам у ЗША і Канаду. Не лішне будзе нагадаць, што запрасіла нас туды Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне і Згуртаванне беларусаў Канады. Яны нам і дапамаглі ўсталяваць кантакты з палітычнымі дзеячамі абедзвюх краін, бо, скажам, не так проста сустрэцца з тым жа кангрэсменам без папярэдняй дамоўленасці. Дарэчы, амерыканскія і канадскія беларусы карыстаюцца падтрымкай некаторых кангрэсменаў, з якімі сустрэлася і наша дэлегацыя. Мы мелі плённую гутарку з трыма амерыканскімі заканадаўцамі — Донам Рарабакерам, які, як нам казалі, вельмі прыхільна ставіцца да беларусаў; Хелен Бэнтлі, між іншым, добрай знаёмай прэзідэнта Джорджа Буша, менавіта яна дапамагла нам сустрэцца з экспертамі амерыканскага сената ў галіне эканомікі; а ў штаце Нью-Джэрсі, дзе жыве значная колькасць беларусаў, нас прыняў кангрэсмен ад гэтага штата Рычард Зімер, які абяцаў далажыць аб цяжкасцях, якія перажывае Беларусь у сувязі з чарнобыльскай аварыяй, у камісіі па замежных справах кангрэса.

Мы лічым вельмі карыснай сустрэчу ў Дзярждэпартаменце ЗША з дырэктарам аддзела Савецкага Саюза Аляксандрам Вержбоў і яго супрацоўнікамі. Іх цікавіла наша ацэнка Саюзнага дагавору, іншых пытанняў палітычнага жыцця СССР і нашай рэспублікі, вялася тут гаворка і пра палітычнае і эканамічнае супрацоўніцтва ЗША і Беларусі.

Запомнілася наведанне парламента правінцыі Антарыё ў Таронта — гэта ўжо Канада. Калі мы прыйшлі туды, акурат ішло пасяджэнне, якое было спынена для таго, каб нас прадставіць парламентарыям. Потым мы былі прыняты спікерам парламента.

На жаль, пад час нашага прыезду ў Канаду федэральны парламент быў распушчаны на канікулы, але ўсё роўна нам удалося сустрэцца з некаторымі парламентарыямі ў камісіях. Наведалі мы і федэральны ўрад, дзе былі прыняты ў адным з камітэтаў міністэрства замежных спраў. У час гутаркі тут мы закранулі вельмі важнае, на наш погляд, пытанне, звязанае з маючым адбыцца прыняццем у СССР Закона аб выездзе з краіны і ўездзе ў яе. Мы мелі на ўвазе, што пасля прыняцця закона пэўная колькасць беларусаў, асабліва з радыеактыўнай чарнобыльскай зоны, захочуць эміграваць у тую ж Канаду. Нам неабыякавы лёс гэтых людзей і вельмі хацелася б, каб у Канадзе дапамаглі ім з авалоданнем мовай, набыццём прафесіі, каб яны там не згубілі сябе, сваю нацыянальную свядомасць.

**— Ці ведалі вашы субяседнікі пра вельмі складанае становішча Беларусі — татальны дэфіцыт, нечуванае пагоршанне жыццёвага ўзроўню жыхароў рэспублікі, якія і так пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы?..**

— Ведалі. Але хутчэй тэарэтычна. Каб рэальна адчуць увесь трагізм становішча, у якім мы апынуліся, трэба тут нейкі час пажыць. Разам з тым, і ў ЗША, і ў Канадзе ёсць нямала дзелавых людзей, якія б хацелі дапамагчы нашай эканоміцы выкараскацца з бездані. Я маю на ўвазе не гуманітарную дапамогу. Яна вельмі патрэбна нам, але гэта не панацэя, не ратунак. Ратунак — паступовая інтэграцыя нашай эканомікі ў эканоміку развітых краін сусвету, інвестыцыі ў нас замежнага капіталу і г. д. Член нашай дэлегацыі Уладзімір Мікалаевіч Заблоцкі, чалавек вельмі дасведчаны ў пытаннях эканомікі, навукова-тэхнічнага прагрэсу, быў узброены living рознымі лічбамі, фактамі, выкладкамі, якія характарызавалі стан нашай эканомікі. Гэта дазваляла весці з нашымі субяседнікамі прадметную, канкрэтную размову. Яшчэ раз паўтару — ёсць там людзі, і, дарэчы, сярод негацыянтаў — прадстаўнікоў беларускай эміграцыі, якія з ахвотай уклалі б свае капіталы ў нашу эканоміку, але...

**— Але, відаць, баяцца, што, як кажуць, плакалі іх грошыкі...**

— Так, яны прывыклі лічыць грошы і не хочуць іх кідаць на вецер. Гэта натуральнае жаданне. Патрэбныя прававыя і эканамічныя гарантыі. Як ва ўсім свабодным свеце.

**— Хто павінен іх забяспечыць?**

— Законы. Аб уласнасці, замежных інвестыцыях і г. д. Былі дні, калі ў нас адбывалася па некалькі сустрэч з амерыканскімі і канадскімі бізнесменамі, спецыялістамі ў галіне міжнароднага гандлю, маркетынгу — усе яны, як мы ўпэўніліся, зацікаўлены ў выратаванні савецкай эканомікі, бо яе заняпад пэўным чынам адмоўна ўплывае і на стан эканомікі сусветнай.

Канечне, пад час амаль усіх нашых сустрэч гучала тэма Чарнобыля. Запомнілася гутарка з дырэктарам дэпартамента па развіцці дачыненняў з СССР і Усходняй Еўропай канадскага ўрада Дэвідам Хорлі. Прысутнічаў на ёй і намеснік дырэктара ведамства па пытаннях атамнай энергетыкі Аляксандр Макнівен, які спытаў у нас, ці будуць на Беларусі будавацца атамныя электрастанцыі? Мы адказалі, што пасля Чарнобыля наш народ не захоча мець на сваёй тэрыторыі аб'екты атамнай энергетыкі, трэба шукаць альтэрнатыўныя энергетычныя крыніцы. Уладзімір Мікалаевіч Заблоцкі ў нашым Вярхоўным Савеце акурат і займаецца гэтымі праблемамі. У Амерыцы ён шукаў кантакты са спецыялістамі ў гэтай галіне.

Мы мелі цікавую гаворку ў камісіі па правах чалавека пры Кангрэсе ЗША і ў незалежнай камісіі па правах чалавека ў Канадзе, у час якой паведамілі пра факты ўтойвання сапраўдных памераў чарнобыльскай трагедыі. Менавіта гэта адыграла сваю негатыўную ролю ў арганізацыі гуманітарнай дапамогі ахвярам Чарнобыля, якая пачала прыходзіць са спазненнем. У адказ на нашы просьбы аб дапамозе ў многіх заходніх краінах пыталіся: «Чаму ж вы маўчалі чатыры гады?»

**— Ці сустракаліся вы з пастаянным прадстаўніком Беларусі ў ААН Г. Бураўкіным?**

— Так, мы пабылі ў нашай місіі, сустрэліся з яе супрацоўнікамі, расказалі аб мэтах сваёй паездкі. Генадзь Мікалаевіч Бураўкін падзяліўся такой скрухай — калі паўгода назад ён сюды прыехаў, у місіі не было ніводнай вонкавай прыкметы, якая б сведчыла аб Беларусі. Паступова ўдалося стварыць бібліятэку з беларускіх твораў. Карыстаючыся выпадкам, прасіў перадаць сваю просьбу беларускім мастакам — хай бы яны пераслалі беларускай місіі колькі сваіх карцін, якія б аздобілі яе інтэр'ер.

Цікавілі нас пытанні сельскай гаспадаркі — найбольш слабага звяна нашай эканомікі. Па нашай просьбе міністэрства сельскай гаспадаркі правінцыі Антарыё арганізавала экскурсію на адну з ферм ля горада Гвэльфа. Праўда, гэта не тыповая ферма, — яна належыць не прыватнай асобе, а падпарадкоўваецца самому міністэрству, якое выкарыстоўвае яе як свайго роду эксперыментальную базу. Але ферма гэтая не атрымлівае ад міністэрства ні цэнта датацыі, у фінансавым плане поўнасцю забяспечвае сябе сама. Нас надзвычай уразіла тэхнічнае забеспячэнне вытворчасці.

Мы спісалі свае блакноты ў час сустрэчы з прафесарам Таронцкага універсітэта Бэзілем Кэлімонам, спецыялістам у галіне рыначнай эканомікі, прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці. У свой час ён быў запрошаны экспертам урадамі Польшчы і Венгрыі. Нас вельмі ўзрадавала, што многія яго прапановы і рэкамендацыі ў галіне эканомікі, супалі з канцэпцыямі пераходу да рыначнай эканомікі, якую прапануе ў Вярхоўным Савеце БССР парламенцкая апазіцыя. Ён абяцаў нам, што зможа са сваімі супрацоўнікамі экспертаваць нашы эканамічныя і іншыя законапраекты.

Мы былі прыняты мэрам Таронта Артам Іглтанам. У час гутаркі, якая доўжылася 40 мінут, ён расказаў нам пра дзейнасць гарадскіх муніцыпальных службаў, сістэм кіравання і мы зноў упэўніліся, што мелі рацыю, прапануючы на адной з сесій Вярхоўнага Савета, дзе прымаўся закон аб мясцовым самакіраванні, менавіта муніцыпальную сістэму, у якой кожны ведае, за што адказвае і што яму трэба рабіць.

Хачу яшчэ раз падкрэсліць, што мы, як прадстаўнікі беларускага парламента, і ў ЗША, і Канадзе карысталіся нязменнай увагай. Мы былі запрошаны, напрыклад, на пасяджэнне вядомага ў свеце клуба «Космас», членамі якога з'яўляюцца некаторыя нобелеўскія лаўрэаты. Дэлегацыі была прадастаўлена магчымасць выступіць з лекцыямі ў Калумбійскім універсітэце Нью-Йорка, ва універсітэтах у Таронта і Атаве.

Дарэчы, гэтыя лекцыі прыпалі на час, калі на Беларусі разгарнуўся забастовачны рух. Падзеі гэтыя шырока асвятляліся ў амерыканскім друку, і, натуральна, у час нашых выступленняў ва універсітэтах студэнты літаральна абрынулі на нас безліч пытанняў. Мы гаварылі пра сваё бачанне асаблівасцей палітычнай і эканамічнай абстаноўкі на Беларусі, расказвалі пра дзейнасць апазіцыі ў Вярхоўным Савеце.

Паездка наша ў Амерыку дала вялікую спажыву для роздуму. Многаму мы за акіянам навучыліся, многае там зразумелі. Усё ўбачанае, асэнсаванае прынясе свой плён.

**— Дзякуй за гутарку.**

**Інтэрв'ю ўзяў М. ЗАМСКІ.**



Пасля наведання парламента Канады.



Сустрэча беларускіх парламентарыяў у аэрапорце імя Кенедзі ў Нью-Йорку

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ




## «...Прапаную беларускай мовай ганарыцца»

**Сталася так, што сапраўднае адкрыццё Барыса Пастарнака, вяртанне яго таленту адбываецца толькі цяпер, калі літаратура пазбаўляецца ідэалагічнага ўціску, а пра самога творцу гавораць зыходзячы з напісанага ім, а не з грамадскіх заслуг. А яшчэ адзначу: кожная нацыянальная літаратура мае за гонар мець свае перастварэнні Майстра.**

**У нас, на Беларусі, першы за гэтую ўдзячную і разам з тым адказную справу ўзяўся Рыгор Барадулін. Яго першыя пераклады Б. Пастарнака ў рэспубліканскай перыёдыцы з'явіліся, калі адзначаліся сотыя ўгодкі з дня нараджэння паэта. Сёе-тое з гэтых перакладаў убачыла свет і на старонках «ЛіМа». Цяпер жа «беларускі» Б. Пастарнак гучыць са старонак кнігі «Гарэла свечка...», выпушчанай выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў серыі «Запаветныя радкі». У той самай, дзе паралельна даецца і пераклад, і арыгінал каб чытач мог ацаніць і вартасці, і хібы перастварэння. Такія зборнікі часта практыкуюць маскоўскія выдавецтвы «Радуга» і «Прагрэс». «Мастацкая літаратура» падтрымала гэтую ідэю ў 1989 годзе, выдаўшы кніжку М. Лермантава «Зорка зорцы голас падае» ў перакладзе А. Куляшова. Сёлета. дарэчы, пабачыць свет зборнік выбранай лірыкі М. Някрасава «Багаславі і не забудзь!» (пераклад Н. Гілевіча).**

**Аднак вернемся да кніжкі «Гарэла свечка...» Вядома, пад адной вокладкай сабрана няшмат з багатай паэтычнай спадчыны Б. Пастарнака — крыху больш за сорак вершаў, але гэта самае лепшае, прынамсі, так мяркуе перакладчык, а яго мастакоўскаму, паэтычнаму густу нельга не давяраць. Узоры лірыкі лаўрэата Нобелеўскай прэміі Б. Пастарнака — прыклад таго, як у тлумны і складаны час паэзія здатна рабіць чалавека лепшым, духоўна ўзбагачаць яго, надаваць яму ўпэўненасць. А яшчэ ж і прыклад таго, як цяжка мастаку ў гэтым свеце, калі ён не такі, як усе, калі яму не хочацца ніколі, ні пры якіх абставінах адчуваць сябе часцінкай натоўпу.**

**Пра гэта Б. Пастарнак хораша і дакладна сказаў у вершы «Нобелеўская прэмія». Вось як гэта гучыць па-беларуску:**

Я прапаў, як у загоне
Звер, а нелюдзе, свет,
А за мною шум пагоні,
Я згубіў на волю след.

**І ўпэўненасць: усё мінецца, а праўда застанецца: «Ды амаль што ля магілы веру, прыйдзе ўсё ж пара, подласці і злосці сілу пераможа дух дабра».**

**У многіх творах мастак задумваецца і над прызначэннем творчасці (адзін з вершаў так і называецца — «Вызначэнне паэзіі»), і над сваёй адказнасцю і за слова, і за іншых людзей. Скажам, гэтыя вядомыя радкі: «Давай ронять слова, как сад — янтарь и цедру, рассеянно и щедро, едва, едва, едва». У Р. Барадуліна: «давайма словаў медзь, як сад — бурштын і цэдру, і шчодра, і фацэтна, губляць ледзь-ледзь, ледзь-ледзь». Блізкае да арыгінала і разам з тым — сваё, наскае, беларускае.**

**Хоць дасягнуць гэтага не так і проста. Сам Р. Барадулін разумее, якую адказнасць усклаў на свае плечы, узяўшыся за Б. Пастарнака. Пра гэта яго развагі ў вершы «Перакладаючы Барыса Пастарнака», што адкрывае зборнік:**

З багавейнай бояззю, са смакам
Падбіраю вобмацкам радкі.
Гутару з Барысам Пастарнакам,
Зябкі мост будую ўздоўж ракі.

**Ёсць у гэтым вершы такія радкі: «Я Паэту ціха прапаную беларускай мовай гаварыць».**

**«Прапанова» была «ўчута». Між іншым, не ўпершыню. Дзякуючы Р. Барадуліну мы ўжо маем «беларускіх» Сяргея Ясеніна, Яўгенія Еўтушэнку, Андрэя Вазнясенскага... Спіс можна доўжыць і доўжыць...**

**А. В.**

# У ПОШУКАХ СЛОВА

## По старонках творчасці Алеся РАЗАНАВА

У свой час Дастаеўскі выказаўся пра тое, што філасофія — тая самая паэзія, толькі вышэйшая ступень яе. З другога боку, слова паэт («паэйтэс») паходзіць са старажытнагрэчаскай мовы і азначае творцу ў самым шырокім сэнсе слова, а не проста «вершаплёта». Сусветныя старажытныя філасофіі — індыйская, кітайская, грэчаская,— мелі вялізны вопыт выкладання сваіх ідэй у вершаванай форме. У Рыме такі вопыт звязаны з імем Лукрэцыя Кара, што павінна быць вядома любому філолагу. Спробы выкладання філасофіі ў метрычным слове адраджаліся і ў пазнейшыя часы. У сваю чаргу, уласна паэзія магла адкрыць цэлую эпоху ў развіцці культуры ды філасофіі, як гэта можна бачыць на прыкладзе Дантэ.

Складанасць аналізу творчасці А. Разанава якраз і заключаецца ў тым, што ён увасобіў у сабе адначасова паэта і філосафа. У яго творчасці абодва аспекты выступаюць як нераз'ёмнае цэлае. Паэт шукае такое Слова, з якога б нараджаліся Сусвет, Чалавек у вышэйшым сваім прызначэнні.

Алесь Разанаў піша паэмы, вершы і версэты, квантэмы і пункціры, паэтычныя мініяцюры. Усё гэта — аўтарскія вызначэнні паэтычных форм, якімі ён карыстаецца. Вынікам апошніх пошукаў сталі вершаваныя пераказы скарынаўскіх прадмоў. Перад намі паўстае то нерасколаты, то напружана-дынамічны, але і вытанчана-стрункі вобраз. І ўсё ўнутрана звязана адной асобай, якая спачатку і да канца застаецца сабой. На справе выконваецца прынцыповае Кантава патрабаванне. У адных выпадках унутраная сувязь, унутранае адзінства твораў А. Разанава выступае відавочна, у другіх — ледзь заўважаецца. Аднак і ў другім варыянце пераемнасць духоўнасці паэтычных вопытаў не становіцца менш глыбокай.

А. Разанаў выпусціў у свет пяць паэтычных зборнікаў: «Адраджэнне», «Назаўжды», «Каардынаты быцця», «Шлях-360», «Вастрыё стралы». Апошні, як вядома, адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Я. Купалы 1990 г. Філасофскую пазіцыю Алеся Разанава ў значнай ступені вызначае першы зборнік «Адраджэнне». Калі ганяцца за еўрапейскімі слоўцамі, то можна было б сказаць, што ён задае парадыгму філасофскага станаўлення паэта. Ужо назва змяшчае ў сабе цэлую праграму. Адносна Беларусі добра вядома, што гістарычныя тэндэнцыі яе агульнакультурнага развіцця на пачатку стагоддзя таксама пачалі вызначацца ў якасці Адраджэння. Слова «Адраджэнне» актыўна ўжываецца ў вызначэнні сённяшніх сацыяльных, культурна-нацыянальных працэсаў разнастайных народаў СССР. Пры гэтым, праўда, у яго ўкладаецца часта неадназначны, а то і процілеглы сэнс, калі казаць пра розныя нацыі, розныя сацыяльныя пласты.

Малады Алесь Разанаў, разгортваючы тэму Адраджэння, думае перш за ўсё пра лёс Радзімы.

**Хай адзвіняць гадзіны**
**апошнія,**
**да адной,**
**высокае**
**неба**
**Радзімы**
**Будзе заўжды са мной.**

Слова «Адраджэнне» ў шырокім сэнсе адкрылі для гісторыі культуры зусім не італьянскія гуманісты ды дзеячы мастацтваў, як пра гэта часам думаюць. Яго мы можам знайсці ў Бібліі, у кнізе «Іоў». Дакладней, тут гаворка павінна весціся не пра слова, а пра паняцце. і азначала яно абнаўленне чалавека, адраджэнне яго для новага жыцця. Радзіма якраз і дае такую магчымасць маладому А. Разанаву, як бы далёка ні прасціралася яго паэтычная думка.

Яшчэ адна тэма першага зборніка А. Разанава — пошук.

**Але чакай,**
**няўмольны час:**
**Я маю права**
**ўсё закрэсліць**
**і потым**
**нанава пачаць.**

Ці не стала гэта дэвізам усёй далейшай творчасці паэта?..

Ужо ў першым, сціплым паэтычным зборніку мы сустракаемся з выключна шырокім спектрам творчага пошуку А. Разанава. Слова прарастае громам і звонам, цішшу і шолахам. Паэт, звяртаючыся да вытокаў, думаючы пра чужыя шляхі, што вабяць да сябе, з самага пачатку рашуча стаў шукаць свой уласны філасофска-паэтычны шлях. Ён стаў яго «рыбачыць» з «касякоў мелодый», якія гучалі ў ім. І гэты ягоны пошук стаўся ягоным лёсам. А талент з усёй унутранай моцай якраз і раскрыўся ў трох апошніх кнігах паэзіі.

Паэт выхаваў у сабе даволі рэдкі талент мысліцеля. Ён імкнецца разгледзець наваколле вачыма самаго Быцця і пры гэтым спрабуе дакладна вымяраць ягоныя «каардынаты». Паэмы пад агульнай назвай «Каардынаты быцця» ўбачылі свет праз шэсць гадоў пасля першага паэтычнага зборніка. У іх яшчэ адчуваюцца ранейшыя (не бяруся казаць — «юнацкія») разумовыя настроі. Разам з тым, з поўнай сілай выяўляецца сталая разанаўская філасофія. Паўтараюцца старыя тэмы, але яны значна развіваюцца. У шматгуччы сваіх мелодый А. Разанаў паслядоўна ідзе ад цемры да святла. Пры рэалізацыі папярэдняй праграмы ўзнікае новае бачанне свету, а таксама і новая праграма, калі паглядзець на справу па сутнасці:

**Я — свядомасць,**
**я — цела,**
**я — свет,**
**у якім гарызонтам**
**шкельцы,—**
**гэта я,**
**ні аб'ект, ні суб'ект:**
**бог, вар'ят і пачвара.**

Тут, як бачым, падкрэсліваецца яшчэ адзін істотнейшы момант чалавечага і творчага жыцця: самаўсведамленне. Але ў цэлым праграма рэалізуецца ўжо ў наступным зборніку «Шлях-360».

Сам А. Разанаў у адным з тэлевізійных роздумаў так растлумачыў сэнс назвы зборніка: шляхоў можа быць шмат. Быў шлях Купалы, які глядзеў на неба. Быў свой шлях у Я. Коласа, які моцна стаяў на зямлі. М. Багдановіч імкнуўся спалучыць два гэтыя пачаткі. Быў шлях у

# БУДЗЕМ ЛІЧЫЦЬ СУЧАСНІКАМ

...Гэта было ў 1948 годзе ў гарадскім пасёлку Беразіно, калі я вучыўся ў трэцім класе. Аднойчы я палез на гару нашай хаты: мяне зацікавілі кнігі, якія ляжалі сярод нейкага ламачча. Сярод іх была кніга без многіх старонак — «Матчын дар» Алеся Гаруна, выдадзены ў Мінску ў 1918 годзе. Я прагна пачаў чытаць вершы. Мне асабліва запомніліся наступныя радкі з верша «Жэбрачка»:

**Дайце кавалачак хлеба ёй**
**цьмянага,**
**Дайце пуховаго,— дзе-ж ёй**
**узяць?**
**Што яна возьме з жыцця**
**безталаннаго?**
**Дайце, што можыце даць!**

**Гора памела на сьвеці убогая!**
**Гляньце: згрыбела, згарбела у**
**крук.**
**Доля занатта казалася строгая,—**
**Выбіла шчасьце усё з рук.**

Назаўтра я папрасіў нашу настаўніцу расказаць пра Алеся Гаруна. У адказ я пачуў: «Забудзь гэта імя. Гарун быў ворагам Савецкай улады. Лепш чытай творы Пушкіна і Лермантава, Купалы і Коласа».

Пры такіх абставінах адбылося маё знаёмства з творчай спадчынай аднаго з самых таленавітых беларускіх паэтаў.

Пазней, будучы студэнтам-першакурснікам гістфака БДУ, я пытаўся ў выкладчыкаў пра лёс Алеся Гаруна. І ў адказ чуў: «Гэта контррэвалюцыянер і антысаветчык. Ён не рэабілітаваны і ніколі не будзе рэабілітаваны».

Але час бярэ сваё. Чатыры гады назад «Литературная газета» зрабіла тое, што павінны былі спачатку зрабіць беларускія рэспубліканскія выданні— надрукавала матэрыял да 100-годдзя Алеся Гаруна. Як кажуць, «лёд тронулся». А праз некалькі месяцаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» было здадзена ў набор факсімільнае выданне адзінага зборніка паэзіі Алеся Гаруна — «Матчын дар».

У апошнія гады апублікавана ўжо больш за дзесяць артыкулаў аб жыцці і дзейнасці таленавітага беларускага паэта. Большасць з іх належаць пяру Уладзіміра Казберука. Менавіта гэты літаратуразнаўца стаў аўтарам кніжкі «Светлай волі зычны звон. Алесь Гарун». Кніжка выпушчана выдавецтвам «Навука і тэхніка» ў серыі «Нашы славутыя землякі».

Са старонак навукова-папулярнай работы У. Казберука А. Гарун паўстае не толькі як таленавіты паэт, празаік, драматург, а як сацыяліст-рэвалюцыянер, падпольшчык, грамадскі дзеяч. Аўтар кніжкі паказвае яго як чалавека трагічнага лёсу, як песняра роднага краю. На мой погляд, У. Казбярук у асноўным удала раскрыў найбольш важныя падзеі кароткага жыццёвага шляху А. Гаруна. Выкарыстаўшы шматлікія гістарычныя і літаратурныя крыніцы, аўтар акцэнтуе ўвагу шырокага кола чытачоў на маладомых і невядомых старонках жыцця беларускага песняра, спрабуе зразумець і асэнсаваць яго ўчынкі.

Калі чытаеш кнігу Казберука, ясна ўсведамляеш, наколькі меў рацыю Васіль Быкаў, ацэньваючы зборнік паэзіі Алеся Гаруна «Матчын дар» наступным чынам:

«...Так любіць і так апяваць радзіму, як гэта рабіў Гарун, магчыма, бадай, толькі ў безнадзейнай ростані з ёй. Усе Гаруновы памкненні, усе думкі і мроі належалі тады Беларусі, яе драматычнай гісторыі і бязрадаснай сучаснасці, поўніліся вобразамі роднай прыроды, мілымі драбніцамі побыту, якіх на катаржнай чужыне быў пазбаўлены аўтар ...быў у немаце ўдвая болей, чым ён пражыў на свеце».

А пражыў ён на свеце ўсяго 33 гады. 24 верасня 1988 года ў Кракаве, на Ракавіцкіх могілках адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка на магіле паэта.

Вельмі добра, што кніжка У. Казберука ілюстравана цікавымі фатаграфіямі, некаторыя з іх друкуюцца ўпершыню. На адной з іх акадэмік Гаўрыла Гарэцкі на магіле Алеся Гаруна ў 1926 годзе.

Ва ўводзінах да факсімільнага выдання «Матчын дар» (Мн., 1988) адзначаецца: «Да канца разабрацца ў зменлівых і імклівых падзеях ён (А. Гарун пасля вяртання ў Мінск, у верасні 1917 г. — Э. І.] не здолеў. Адсюль вынікала непаслядоўнасць яго ідэйна-палітычных пазіцый».

Гэта непаслядоўнасць, памылковасць пазіцый паэта праследжваецца не толькі ў яго дзейнасці ў 1917—1920 гадах, а таксама і ў яго вершы «Юдам», напісаным паміж 1907 і 1914 гадамі. На жаль, У. Казбярук пазбягае выказаць свой погляд аб гэтым вершы А. Гаруна. А аб'ектыўнасць гэтага патрабуе.

І яшчэ. Аўтар рэцэнзуемай кніжкі падкрэслівае, што «Гісторыя беларускай літаратуры» Гарэцкага — адзіная крыніца, у якой мы можам знайсці хоць якія звесткі пра пачатак творчага шляху Алеся Гаруна».

Але ж гэта не так. Жыццёваму і творчаму шляху песняра прысвечаны шэраг старонак кнігі У. Ігнатоўскага «Кароткі нарыс нацыянальна - культурнага адраджэння» (Менск, 1921) пад агульнай назвай «Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі)».

«Алесь Гарун... яшчэ і яшчэ раз паказвае, як трэба берагчы і славіць бацькоўскую зямлю і матчыну мову. ...Сваім мастацкім словам ён, не стамляючыся, будзіў чалавечае сумленне і праведны гнеў. А хіба ж гэтыя якасці не патрэбны нам сёння? Таму мы хочам, павінны і будзем лічыць Алеся Гаруна нашым сучаснікам».

Такімі радкамі заканчваецца невялікая, але вельмі змястоўная кніжка У. Казберука «Светлай волі зычны звон».

**Эмануіл ІОФЕ.**

У.М.Казбярук



ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ The Society of the Byelorussians of the World

# БАЦЬКАЎШЧЫНА

1991

# ЗВАРОТ

## да суродзічаў, грамадскіх і дабрачынных арганізацый краін Еўропы

Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» выступае ініцыятарам правядзення (супольна з іншымі грамадскімі арганізацыямі Беларусі) агульнаеўрапейскай акцыі «Чарнобыльскі шлях». Яго мэта — прыцягнуць увагу людзей да найбольш балючай даты ў пасляваеннай гісторыі кантынента — 26 красавіка 1986 года. Менавіта ў гэты дзень зыркім смертаносным агнём успыхнуў чарнобыльскі атамны рэактар. Мінулыя пяць гадоў з'явіліся для нашага народа прыступкамі ўзыходжання на Галгофу ўсё большага пазнання і ўсведамлення цяжкай бяды, у якую мы трапілі не па сваёй віне, з'явіліся заложнікамі сістэмы, якая не хоча ні адпускаць ад сябе, ні дапамагаць...

У Еўропе няма народа, а мо і сям'і, дзе б не ведалі пра згубныя вынікі Чарнобыля. Але адно слухаць пра яе па радыё, чытаць газеты, глядзець тэлевізар, а іншае — сутыкацца з бядой непасрэдна, увесь час адчуваць яе подых за плячыма, а тым больш бачыць, як згасае роднае дзіця.

**Семдзесят працэнтаў тэрыторыі рэспублікі прысыпана чарнобыльскім пылам, радыяцыя, асабліва праз ваду і харчы, распаўзаецца па ўсёй Беларусі, нябачна падступаецца да кожнага з нас. Балюча-абвостранай становіцца праблема самога выжывання народа, захавання генафонду нацыі. А калі ўлічыць тое, што Чарнобыль радыеактыўны спалучыўся на Беларусі з Чарнобылем духоўным, атмасфера якога на працягу дзесяцігоддзяў прадумана фарміравалася антынацыянальнай палітыкай Цэнтра і рабалепна падпарадкаванымі яму рэспубліканскімі ўладамі, становіцца зразумелым трагізм існавання беларускага народа: амаль поўнае выцясненне з афіцыйнага ўжытку роднай мовы, упадак культуры, рэлігіі, маралі, забруджанне паветра, рэк і азёраў, вынішчэнне лясоў, жывога на зямлі і г. д.**

Асноўную прычыну сваіх бедаў мы бачым у страце ўласнай дзяржаўнасці, бяспраўнасці народа і, як вынік гэтага, пазбаўленне ў яго пачуцця Гаспадара на сваёй зямлі, адказнасці за ўласныя духоўныя і матэрыяльныя набыткі.

Але беды Беларусі — не толькі яе адметны клопат і боль. Тое, што здарылася з намі, магло адбыцца і ва Усходняй, а пры збегу абставін — і ў Заходняй Еўропе. Факт, што сёння кожны народ адстойвае сваю самабытнасць, імкнецца супрацьстаяць згубным вынікам навукова-тэхнічнага наступу, захаваць у чысціні прыроду і непарушнасці жывое на ёй. Мы, беларусы, цаною ўласнага выжывання падаём сігнал трывогі, становімся своеасаблівым знакам бяды, папярэджваем чалавецтва пра небяспеку. І наш вопыт, будучы па-свойму унікальным, адначасова мае агульназначны сэнс, годны вывучэння і засваення.

«Чарнобыльскі шлях» — шлях трагічны, пакутніцкі шлях. Менавіта такую афарбоўку надалі яму шэсці Беларускага народнага фронту, які першы гучна загаварыў пра здзейсненае над людзьмі, рашуча выступіў супраць тых, хто імкнуўся схаваць памеры і згубныя вынікі катастрофы, асуджаў людзей на дадатковыя хваробы і нямогласці.

І ўсё ж наша шэсце — гэта не паход абнядоленых і пакрыўджаных, якім нічога не засталося, як толькі плакаць і наракаць на горкую долю. Народ, які не адзін раз выбівалі, круцілі то ў адзін, то ў другі бок і які ўсё ж не зламаўся, не згінуў і не стаў бязродным манкуртам — мусіць выжыць, не павінен расслабляцца і прыніжацца! Цвёрда верым, перакананы, што з благаслаўлення Усявышняга, з дапамогай іншых народаў акрыяем і зноў, як у часы Вялікага княства Літоўскага, зоймем годнае месца ў еўрапейскім Доме, сярод цывілізаваных краін свету.

Зразумела, увесь кантынент нельга аб'ехаць з такой місіяй за адзін раз. Яна будзе ажыццяўляцца ў некалькі этапаў, з чарговым наведваннем дзвюх-трох суседніх краін. Але перш, чым рушыць у няпростую вандроўку, трэба правесці падрыхтоўчую працу. Мы павінны атрымаць дакладныя звесткі ад грамадскасці і ўлад гарадоў з указаннем даты (пажаданай) прыёму і што той бок чакае ад нас. Асноўнае, каб наш прыезд не прайшоў фармальна, малапрыкметна, а ўзварушыў пачуцці, дапамог людзям зразумець тое, што выпала на долю шматпакутнай Беларусі.

**Шлях свой хочам пачаць з Польшчы, нашай суседкі, з якой Беларусь яднаюць глыбокія гістарычныя повязі. Было ў нас і супольнае змаганне з чужацкімі наваламі, і радасць перамог, і горыч страт, і ўзаемныя нараканні, і горыч агульнай бяды. Самая трагічная і незагойная для нас — чарнобыльская — сваім крылом закранула і Польшчу, асабліва Беласточчыну, дзе кампактна жывуць нашы кроўныя браты-беларусы.**

**З рэспублікі Польшчы наша дарога праляжа ў Нямеччыну, з якою ў Беларусі склаліся таксама даўнія, хоць і не заўсёды бяскрыўдныя дачыненні. Ды мінулага не перайначыш і не перапішаш наноў. Яго можна толькі аб'ектыўна асэнсаваць, здабыць урокі, ды на ўсю меру ўласнай душы адчуць віну перад зробленым суродзічамі, а значыць, адчуць неадольную патрэбу збавення ад пакут, маральнага ачышчэння. А гэта якраз і ёсць зарука таго, што чалавек адной нацыі ў прадстаўніку іншай убачыць не ворага, а блізкага сабе, такога, як сам, чалавека...**

**У Нямеччыне, як вядома, у межах акцыі «Збавенне» вельмі шмат робіцца дзеля маральнага ачышчэння нацыі. Вельмі істотны, ці не найбольш сярод замежжа, уклад нямецкага народа ў пераадоленне згубных вынікаў Чарнобыля. Прыкладаў можна прыводзіць шмат, але тут мы згадаем толькі імя і чын мастака Берхата, апантанага ідэяй з дапамогай замежных фірмаў пабудаваць на Беларусі вёскі для перасяленцаў. У праекты паселішчаў будуць пакладзены малюнкі дзяцей з розных краін. У Мінску экспануецца складзеная з іх твораў адмысловая выстава, якая паедзе разам з Бэрхатам у «Чарнобыльскі шлях».**

Падарожжа плануецца здзейсніць на двух аўтобусах у верасні гэтага года. Пад час супынкаў у гарадах, а магчыма, і ў вёсках, будуць кароткія мітынгі, перасоўныя выставы, выступленні спевакоў і музыкаў, прагляд дакументальных фільмаў.

Звяртаемся да беларусаў, да ўсіх, чые продкі жылі калісь тут, на Беларусі, а потым пераехалі жыць на Захад, а таксама да ўсіх братоў-славян, зацікаўленых грамадскіх арганізацый і дабрачынных фондаў заходніх краін спрыяць у правядзенні «Чарнобыльскага шляху», ствараючы яму добразычлівую маральную і інфармацыйную атмасферу.

Чакаем згоды на сустрэчу ў Вашай краіне.

**Са шчырай удзячнасцю ўсім добрым людзям — Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»!**

**Адрас «Бацькаўшчыны»:** 220048 Беларусь, Менск, вул. Сухая, 4, тэлефон (0172) 23-66-21, факс: (0172) 23-67-26, разліковы рахунак № 700307, код 812 у камерцыйным банку «Беларусь», МФО 400417.

# УСТАНОЎЧЫ КАНГРЭС ПРОЙДЗЕ Ў МІНСКУ

У канцы мая ў Мінску пройдзе першы (устаноўчы) кангрэс Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Удзельнікамі гэтага форуму стануць вучоныя, дзеячы культуры і мастацтва, пісьменнікі, перакладчыкі, якія займаюцца даследаваннем культурнай спадчыны беларускага народа, садзейнічаюць нацыянальнаму адраджэнню і развіццю беларусаў, спрыяюць пашырэнню сувязей з культурамі іншых краін і народаў.

У склад Асацыяцыі ўвайшлі нацыянальныя і рэгіянальныя арганізацыі, якія ў сваёй дзейнасці па вывучэнні матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі выкарыстоўваюць навуковы і творчы патэнцыял Акадэміі навук рэспублікі, Нацыянальна - асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, вышэйшых навучальных устаноў, Саюза пісьменнікаў і іншых творчых саюзаў Беларусі, а таксама беларусазнаўчых цэнтраў свету. Міжнародная асацыяцыя беларусістаў наладжвае сваю дзейнасць у творчым супрацоўніцтве з Таварыствам беларускай мовы, Міжнародным камітэтам славістаў, Міжнароднай асацыяцыяй па вывучэнні і распаўсюджванні славянскіх культур, Беларускім фондам культуры, Міжнародным фондам славянскага пісьменства і славянскіх культур, іншымі зацікаўленымі арганізацыямі.

На кангрэсе мяркуецца разгледзець і прыняць Статут Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, заслухаць даклады і паведамленні па найбольш актуальных кірунках беларусазнаўства, вырашыць некаторыя пытанні арганізацыі і каардынацыі навукова-даследчыцкай работы і абраць кіруючыя органы новай арганізацыі.

Для ўдзелу ў кангрэсе запрошаны буйнейшыя вучоныя-беларусісты з Савецкага Саюза, Балгарыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Індыі, Італіі, Канады, Кітайскай Народнай Рэспублікі, Польшчы, Францыі, Японіі і іншых краін.

Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» мае самыя цесныя кантакты з Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў і падтрымлівае ўсе яе ініцыятывы, скіраваныя на адраджэнне і развіццё нацыянальнай культуры. Наша Згуртаванне запрасіла прыехаць у Беларусь і прыняць удзел у кангрэсе славутую англійскую перакладчыцу беларускай паэзіі Фэйс Элізабет Тон, якую больш ведаюць, як Веру Рыч; вядомага дзеяча беларускага эмігранцкага руху, выдаўца газеты «Беларус» Янку Запрудніка, Васіля Мельяновіча з Пенсільваніі, які не так даўно працаваў у Мінску на амерыканскай выставе і шмат каго здзівіў сваёй адмысловай беларускай мовай. Чакаем мы на прыезд Аляксандра Міцкевіча, Антона Шукелойца і Кастуся Мерляка з Нью-Йорка, Міхася Сенькі і Льва Высоцкага — прадстаўнікоў беларускай суполкі з Саўт-Рывера (штат Нью Джэрсі, ЗША), Сяргея Карніловіча і Кастуся Калошы — заснавальнікаў беларускай арганізацыі «Полацак» у Кліўлендзе (штат Агаё, ЗША), Міколу Ганько — кіраўніка Згуртавання беларусаў Канады, Янку Міхалюка — старшыню Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі. Спадзяёмся бачыць сярод нашых гасцей Янку Ролсана — кіраўніка беларускай суполкі Паўднёвай Аўстраліі, Кококакіс Гелену Задрэйку — мастачку беларускага паходжання з Грэцыі, Барыса Кіта — вядомага вучонага-фізіка, нашага земляка з Германіі, а таксама іншых нашых суайчыннікаў, якім накіраваны афіцыйныя запрашэнні.

Хочацца спадзявацца, што прыезд нашых суродзічаў у Мінск, удзел у рабоце ўстаноўчага кангрэса Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, гутаркі з блізкімі і дарагімі людзьмі, спатканне з роднай зямлёй — усё гэта паспрыяе нармалізацыі нашых адносін з тымі, хто па волі лёсу апынуўся далёка ад сваёй Радзімы.

**Леанід КАЗЫРА,**
**намеснік старшыні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».**

ПАДАРОЖНАЕ

# На радзіме Моцарта

У канцы сакавіка мне з дачкой нарэшце пашчасціла, інакш і не назавеш,— пасля амаль паўгадовай цяганіны адведаць сяброў у Аўстрыі. Мы так мала ведаем аб гэтай невялікай дзяржаве, размешчанай у цэнтры Еўропы, што маім натуральным жаданнем пасля паездкі было падзяліцца сваімі ўражаннямі, расказаць, як жывуць, працуюць аўстрыйцы.

Вена нас сустрэла цёплым ласкавым сонейкам і тым непаўторным паветрам, якое бывае толькі вясною. Праз тры гадзіны нетаропкай язды, з абедам у адным з прыдарожных кафэ, мы нарэшце ў Зальцбургу. Зальцбург — адзін са старажытнейшых гарадоў Аўстрыі. Ужо ў каменным веку тут былі аседлыя паселішчы, пазней на яго тэрыторыі сяліліся кельты, рымляне і германскія плямёны. Горад стаіць літаральна ў абдымках гор. На адной з іх зальцбургскія князі-архіепіскапы яшчэ ў IX ст. заласжылі на перакрыжаванні старажытных гандлёвых шляхоў непрыступную крэпасць-замак. Сёння на тэрыторыі замка можна сустрэць шматлікіх турыстаў, пачуць, побач з нямецкай, англійскую, італьянскую, французскую мовы. Адсюль добра аглядаць горад, які падзелены ракой Зальцах на дзве часткі. Бадай найлепшы від на горад усё ж з глядзельных пляцовак Менхсберга (манаская гара) і Капуцынерберга (гара Капуцынаў). Воку адкрываецца захапляючая панарама са шпілямі касцёлаў і манастыроў. Добра відаць кафедральны сабор, касцёл францысканцаў, касцёл святога Пятра, у якім адбываюцца самыя элегантныя шлюбы. Касцёлы ў большасці сваёй здзіўляюць пышнасцю і багаццем убрання. Вялікая колькасць касцёлаў аднак не з'яўляецца паказальнікам моцнай набожнасці аўстрыйцаў. Большасць з іх ходзіць да касцёла хутчэй па традыцыі. Вузенькія вулачкі Зальцбурга, яго палацы і фантаны надаюць гораду непаўторнае аблічча ўпарадкаванасці, сапраўднага майстэрства і прыгажосці. Часам, каб не шыкоўныя вітрыны самых розных магазінаў і магазінчыкаў, можа здацца, што мы блукаем недзе па вузенькіх вулачках Рыгі альбо Вільні. Самую вузенькую Ледэрэргасэ я памерала — усяго два крокі. Лінцэргасэ прывяла нас да могілак пры касцёле Санкт Себасцьян. Тут пахаваны члены сям'і Моцарта: яго жонка Канстан-

# Запрашае «Беларускі Дом»

Пэўнае ўяўленне пра тое, што будзе адбывацца ў ліпені ў Таліне, чытач атрымае, азнаёміўшыся з праграмай «Беларускага Дома». Але ж такіх, як наш, дамоў будзе некалькі дзесяткаў і, зразумела, пуставаць яны не будуць. Наш размесціцца ў вельмі ўтульным і старажытным будынку турызму, дзве залы якога будуць цалкам аддадзены нам. Аддадзены, зразумела, не за дзякуй. А трэцяй, для пасяджэнняў, будзем карыстацца пры патрэбе. Апрача гэтага, ёсць магчымасць наняць арыгінальна збудаваны паграбок і арганізаваць там «Беларускую карчму». А захочацца прахалоды, можна выйсці ў закрыты дворык, дзе напэўна і музыка, і словы будуць гучаць своеасабліва і адмыслова.

«Беларускі Дом» будзе размяшчацца на Ратушным пляцы, адным з арыгінальных і зацішных месцаў у Таліне. Пляц гэты таксама аддаюць эстонцы на гэты тыдзень нам. Так што беларусам ёсць магчымасць паказаць сябе перад людзьмі па-належнаму. Ну а людзей там збярэцца з усяго свету, ды якіх! Не буду тут называць тых, хто мае непасрэднае дачыненне да культуры, бо іх будзе вельмі шмат, і нямала славутасцяў сусветнага значэння. Апрача музыкі і песень, там шмат іншых мерапрыемстваў, Так, адным з семінараў згадзіўся кіраваць колішні дарадца прэзідэнта ЗША па нацыянальнай бяспецы Збігнеў Бжэзінскі, далі згоду прыехаць і выступіць савецкія палітыкі Эдуард Шэварднадзе і Аляксандр Якаўлеў. З'едуцца сюды і людзі бізнесу, каб абмяняцца інфармацыяй, заключыць пагадненні.

Як бачым, наперадзе цікавае і адказнае мерапрыемства. Трэба пастарацца, каб беларусы сярод іншых выглядалі на ўзроўні. Што датычыць мастацкіх калектываў, то трапіць туды ахвочых шмат. Усё ўпіраецца ў фінансаванне. Пасільную дапамогу пагадзілася аказаць Міністэрства культуры, але ж яго магчымасці абмежаваныя. Так што шукаем фундатараў, якім, безумоўна, будзе створаны рэжым найлепшага спрыяння.

А пабыць там сапраўды варта. Да сказанага дадамо цёплае мора, белыя ночы і, калі ў нас не прытупілася жыццёвымі нягодамі ўяўленне, дык мы напэўна захочам стаць удзельнікамі і наглядальнікамі тых падзей. З улікам гэтага «Бацькаўшчына» арганізуе турыстычны побыт для тых, хто пажадае быць далучаным да вялікага, не зафармалізаванага свята чалавечай еднасці і ўзаемапаразумення.

Ніжэй друкуем рэкламна-праграмны тэкст да буклета, які знаёміць удзельнікаў з агульнай праграмай талінскіх «Спеўных мастоў».

## «Беларускі Дом»

**2-8 ліпеня**

Адчынены штодзённа з 12.00 да 22.00.

Калі ласка, заходзьце!

Гэткімі словамі беларусы здаўна запрашаюць да сябе і чаканага, і выпадковага чалавека.

У многіх людзей выклікае і здзіўленне, і захапленне, як нам удалося захаваць гасціннасць, сардэчнасць і дабрыню да сёння. Беларусь жа знаходзілася на раздарожжы і праз яе Зямлю з Захаду на Усход ды з Усходу на Захад крывавымі хвалямі пракатваліся апустошальныя войны, якія ўносілі да адной трэці, а ў Вялікую Айчынную — адну чвэрць насельніцтва. Асабліва страшным выпрабаваннем з'явіўся сталінскі генацыд. Пры ім была высечана, а таксама часткова дэмаралізавана найбольш інтэлектуальная, жыццядзейная частка нацыі. Працэс накіраванай дэнацыяналізацыі, духоўнага і маральнага разлажэння працягваўся і ў пасляеталінскі час. І вось вынік: да нядаўняга часу беларусы, якія валодалі роднай мовай, захавалі вернасць нацыянальным традыцыям, культуры, мелі патрыятычную свядомасць, на сваёй жа зямлі, сярод свайго ж народа знаходзіліся ў меншасці.

Але жыццё мяняецца, псіхалогія і філасофія янычараў - манкуртаў адыходзіць у мінулае. Аднак распрастаць плечы не дае нам яшчэ і празмерная цяжкасць бяды, што пакрыла смертаносным пылам дзве трэці рэспублікі. Ці выжывем як людзі, як нацыя?

Павінны, спадзяёмся выжыць! Таму што памятаем той час, калі ў еўрапейскім Доме Беларусь была роўнай сярод роўных. Гэта тады яна дала ўсходняму славянству кнігадрукаванне ў асобе доктара Францыска Скарыны, а таксама адну з найбольш дасканала для свайго часу распрацаваных Канстытуцыяў (Літоўскі Статут), напісаную пад кіраўніцтвам канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі, дала дзесяткі іншых знакамітых людзей, стварыла вялікія творы літаратуры, культуры, грамадскай думкі.

Уздым і росквіт быў звязаны з усведамленнем сябе Гаспадаром на роднай зямлі, з беларускай дзяржаўнасцю, якую мы ўзяліся адраджаць, пазбаўляючыся ад псіхалогіі і перажыткаў эпохі прыніжэння і прыгнечання.

Мы паказалі сябе нязломнымі не толькі ў апошняй вайне, але і нашмат раней, у паходах полацкага князя Усяслава Чарадзея, у лёсаноснай для Еўропы Грунвальдскай бітве. Але ахвотней любім працаваць, а ў вольны час — весяліцца. І ў гэтыя светлыя дні і ночы чалавечага яднання ў старажытным Таліне ад усяго сэрца кажам:

— Калі ласка, заходзьце ў нашу гасцінную беларускую хату! Усім, што прывезлі на эстонскую зямлю, будзем рады падзяліцца з вамі, дарагія нашы госцейкі!

## Чым хата багата

2.VII.15.00 — Адкрыццё.

16.00 — Знаёмства. з экспазіцыяй народных промыслаў і прафесійнага мастацтва.

18.00 — Рэпрэзентацыя акадэмічных хораў.

3.VII.15.00 — Дзень беларускіх майстроў народных промыслаў.

18.00 — Дзень фальклору.

4.VII.15.00 — На Ратушнай плошчы спяваюць беларускія барды.

18.00 — Гістарычная драма «Рагнеда» ў пастаноўцы эксперыментальнага тэатра «Дзе я?»

5.VII.15.00 — Актуальная размова. Суверэнітэт Беларусі: эканоміка, культура, экалогія, палітыка. Удзельнічаюць: дырэктар Інстытута эканомікі АН БССР, акадэмік Генадзь Лыч, дырэктар Інстытута геахіміі, акадэмік Радзім Гарэцкі, дырэктар Інстытута радыебіялогіі, акадэмік Яўген Канапля, а таксама дэпутаты ад парламенцкай апазіцыі: Юры Беленькі, Лявон Баршчэўскі, Уладзімір Новік, Пётра Садоўскі, дзелавыя людзі рэспублікі.

18.00 — Вечар старажытнай беларускай музыкі.

6.VII.15.00 — Уратуем дзяцей Чарнобыля.

Пра сітуацыю ў пасляччарнобыльскай Беларусі — лекцыя акадэміка Яўгена Канаплі, а таксама выступленне старшыні Беларускага камітэта «Дзеці Чарнобыля» Таццяны Белавокай, загадчыка лабараторыі радыяцыйна - экалагічных праблем Інстытута ядзернай энергетыкі Міхася Малько. Пра міжнародную дапамогу па ўратаванні дзяцей Чарнобыля раскажа старшыня Беларускага аддзялення Усесаюзнага Дзіцячага фонду імя У. І. Леніна Уладзімір Ліпскі.

18.00 — Выстава фотаздымкаў і дзіцячага малюнка. Дэманстрацыя дакументальнага фільма.

7.VII. 12.00 — Дзень беларускай кнігі. Выстава: ад Скарыны да нашых дзён. Выступленні кнігавыдаўцоў, паэтаў, артыстаў.

19.00 — Выступленне дзіцячых мастацкіх калектываў.

20.00 — Купалінка, цёмная ночка. Абрад ачышчэння агнём векавой даўнасці.

8.VII.10.00—20.00 — Мерапрыемства заключнага дня, у тым ліку спеў супольнага двухтысячнага хору з удзелам беларускіх акадэмічных калектываў на Пеўчым Полі.

Чакаем Вас!

# «Бацькаўшчына»— у Алма-Аце

Створана яшчэ адна «Бацькаўшчына» — культурны цэнтр беларусаў Алма-Аты і вобласці. Старшынёй суполкі абраны рэктар архітэктурна-будаўнічага інстытута, народны дэпутат Казахскай ССР Павел Арушкевіч, адказным сакратаром — Яўген Майсейчык. На чарзе — згуртаванне ўсіх беларусаў Казахстана, у тым ліку і суполак, якія ўжо заявілі пра сябе. Казахстанскія беларусы арыентуюцца не толькі на культурную, але і гаспадарчую дзейнасць, што павінна скласці грунт незалежнага развіцця і самафінансавання. Узгадняюцца формы супольнай працы са Згуртаваннем беларусаў свету.

●



Нядаўна «Бацькаўшчына» здзейсніла дабрачынную акцыю — завезла беларусам Беласточчыны кнігу Міколы Ермаловіча «Старажытная Беларусь». Лепшым вучням беларускіх школ і ліцэяў былі падараваны фірменныя майкі з выявай эмблемы «Бацькаўшчыны». Гэта карысная, цікавая, хоць і нялёгкая паездка адбылася напярэдадні сямідзесяцігоддзя Міколы Іванавіча Ермаловіча. Больш падрабязна пра гэта чытайце ў нататках Яўгена Лецкі «Праз дрот па кветкі», што будуць надрукаваны ў бліжэйшых нумарах газеты.

На здымку: старшыня Рады «Бацькаўшчына» Я. ЛЕЦКА і М. ЕРМАЛОВІЧ у Гайнаўскім ліцэі.

●

Прыйшлі першыя водгукі на нашу прапанову стварыць гімн «Бацькаўшчыны». Сёння мы прапануем пазнаёміцца з вершам, які прыслала са Светлагорска Соф'я ШАХ.

## Песня «Бацькаўшчыны»

Мы народ паміж народаў,—  
старажытны, просты род.  
Хай нас лучыць-высіць згода  
і праз дзвесце, трыста год.

Нам чужых зямель не трэба,—  
Ёсць радзімая, свая.  
Колькі ж можа чэзнуць слепа  
беларуская сям'я?!

Хопіць злога прыніжэння  
і прыгнёту хопіць з нас, —  
час святога адраджэння,  
згуртавання — самы час.

За вялікасную волю  
незалежны ўзмоцнім рух,  
уратуем нашу долю —  
роднай мовы існы дух.

Покуль будзе ён ва ўздыме  
светлы наш яднаць хаўрус,  
наша Бацькаўшчына жыцьме,  
жыцьме наша Беларусь!

## Пошук сваякоў

Гарбачоў Сяргей Васільевіч з Мінска шукае свайго дзядзьку КУЗЬМЯНКОВА Івана Іванавіча (апынуўся ў Амерыцы пасля вайны, жыў у горадзе Сакрамэнта, штат Каліфорнія), а таксама яго нашчадкаў.

□

Слясарчык Аляксандр Уладзіміравіч (220082, г. Мінск, вул. Матусевіча, 16. кв. 97) шукае стрыечнага брата бацькі СЛЯСАРЧЫКА Алекса, які выехаў прыкладна ў 1917—20 гг. у ЗША і жыў у 70-я гады ў Брукліне, а таксама яго нашчадкаў: сыноў Бобі, Цімафея, дачку Патрыцыю.

---

цыя і бацька — Леапольд Моцарт. (Сам Моцарт, як вядома, пахаваны ў агульнай магіле ў Вене). Усюды чысціня і парадак. Такімі ж дагледжанымі мы ўбачылі і захаванні воінаў і бежанцаў першай сусветнай вайны, што на могілках у Ной Аніфе пад Зальцбургам. Дарэчы, сярод іх сустракаюцца і беларускія прозвішчы...

Адно з самых моцных уражанняў пакінула наведванне музея Моцарта. Мы бачылі інструменты, на якіх іграў вялікі кампазітар, рукапісы яго твораў, уласныя рэчы. Вольфганг Амадэй Моцарт нарадзіўся менавіта ў Зальцбургу, і гараджане ганарацца гэтым. Яго творчасці прысвечаны «Зальцбургскі фестываль», у якім удзельнічаюць лепшыя салісты і мастацкія калектывы свету. Праўда, трапіць на тыя канцэрты можа далёка не кожны. Мяркуйце самі: у дні фестываляў кошт аднаго білета дасягае недзе трох тысяч шылінгаў. Што і казаць, цэны «кусаюцца» і ў тэатрах і ў музеях. Білет у той жа музей Моцарта каштуе 50 шылінгаў (прыкладна 25 рублёў). А для нешматлікіх савецкіх турыстаў і гасцей у Аўстрыі ўсё дорага... Бадай, адзінае, што можа сабе дазволіць савецкі чалавек, гэта ўдосталь наглядзецца на багацце паліц, з густам аформленых, што так і прыцягваюць, прывабліваюць да сябе пакупніка. І мы глядзелі, дзівавaліся... Вось цягнуцца паліцы са смакавітымі кілбасамі, сасіскамі, вяндлінай, з сырамі, якіх тут больш за 100 гатункаў, а далей вока ўпіраецца ў безліч рознай гародніны і садавіны. Чаго тут толькі няма: памаранчы, бананы, яблыкі, цытрыны, ігрушы, ананасы, какосавыя арэхі і безліч таго, чаго мы не ведаем не толькі смаку, але і назвы. Хаця не, цяпер ужо магу сказаць, што плод крыху падобны на нашу бульбіну, з зялёнай кіславаценькай мякаццю і дробнымі зярняткамі ў сярэдзіне, называецца ківі. Кажуць, што ў ківі болей вітаміну С, чым у цытрыне. Яго сюды прывозяць з Лацінскай Амерыкі, а вось апетытныя трускаўкі прывезены з Іспаніі. Глядзець на ўсё гэта багацце, успомніўшы нашы пустыя паліцы альбо чэргі, было, па шчырасці, балюча...

Але самым вялікім багаццем у Аўстрыі, як мне ўяўляецца, з'яўляюцца яе людзі. Працавітыя, далікатныя, сардэчныя. Усюды, куды мы ні заходзілі, бачылі прыветлівыя твары, добразычлівыя ўсмешкі і чулі гэта заўсёднае: grüss gott (мір Вам!). Усе, з кім нам даводзілася сустракацца ў Аўстрыі, выказвалі шчырую зацікаўленасць да ўсяго, што адбываецца ў нашай дзяржаве, рэспубліцы. А сустрэч было нямала. Добрым словам перш за ўсё хочацца ўспомніць гаспадара дома, у якім мы жылі, Фердынанда Нойрайтэра і яго мілую жонку Мэрджэры, а таксама доктара Германа Бідэра, выкладчыка Зальцбургскага універсітэта. Дзякуючы іх душэўнай спагадлівасці, цеплыні, мы адчувалі сябе ў чужой краіне дастаткова ўтульна і спакойна. Прыемны ўспамін пакінулі аб сабе сямейства Новых, муж і жонка Цоманы, абаяльная фрау Хрысціна Вэндэль. Была яшчэ адна вальмі нечаканая і нават хвалюючая сустрэча — з консулам СССР спадаром Уладзімірам Мікалаевічам Аўтухом. Аказалася, паважаны консул беларус, з Віцебшчыны.

Як прыемна было даведацца ад сяброў, што Уладзімір Мікалаевіч карыстаецца вялікай павагай у аўстрыйцаў. Спагадлівы, памяркоўны, з добрым ветлівым тварам, ён умее схіліць да сябе субяседніка. Ад яго даведалася аб беларусах, якія жывуць у Аўстрыі. Прынамсі, у г. Лінцу (горная Аўстрыя) жывуць нашы беларускія дзяўчаты, якія павыходзілі замуж за аўстрыйскіх спецыялістаў, што будавалі ў Жодзіне аўтазавод. Перада мною спіс, у якім пазначаны імёны нашых Ален, Ірын, Галін, Вольгаў, Марын, Таццян і Надзей, якіх паклікала каханне — усяго шаснаццаць, цяпер ужо фрау. На жаль, пабачыцца з імі не ўдалося, але сп. Аўтух абяцаў звязацца з жанчынамі, расказаць аб нашай «Бацькаўшчыне». Ды яны і самі час ад часу звоняць яму, просяць парады, а то і дапамогі, а ён, у сваю чаргу, ніколі не забывае павіншаваць кожную з днём нараджэння, да кожнай знойдзе добрае слова. Дарэчы, Уладзімір Мікалаевіч ведае і тых добрых людзей, перш за ўсё аўстрыйскіх жанчын, якія не засталіся абыякавымі да нашага агульнага гора— чарнобыльскай бяды. Гэта дзякуючы агульным намаганням такіх жанчын, як фрау Хумембрунэр, Імхойзэр, Берталянфі, Эльзэнзон (грамадзянка СССР) і іншых, зараз у дзіцячым шпіталі Зальцбурга праходзіць лячэнне маленькая Леначка Сіцко з Мінска. Я сустрэлася з маці Леначкі — Таццянай. І была ўсцешана тым, што вочы маладой жанчыны цепляцца надзеяй і верай.

А на развітанне У. Аўтух паведаміў, што ў маі будзе ў адпачынку і абяцаў наведаць Мінск і «Бацькаўшчыну». Сустрэча і знаёмства з консулам стала магчымай дзякуючы спадару Фердынанду Нойрайтэру, які вось ужо 20 гадоў цікавіцца беларускай літаратурай, культурай і мовай. У 1983 г. ён выдаў «Анталогію беларускай літаратуры» для нямецкамоўнага чытача. Час ад часу ў перыёдыцы з'яўляюцца яго папулярныя артыкулы па розных праблемах культурнага жыцця Беларусі. Дзякуючы намаганням гэтага няўрымслівага чалавека многія аўстрыйскія чытачы ўпершыню адкрываюць для сябе Белую Русь. Пытаннямі лексічных запазычанняў у старабеларускай мове, а таксама вывучэннем моўнай і культурнай палітыкі на Беларусі займаецца доктар Г. Бідэр. Так шчасліва склалася, што гэтыя два апантаныя чалавекі жывуць і працуюць у адным горадзе. У маі яны выступяць са сваімі паведамленнямі на Міжнародным кангрэсе баларусістаў свету, што адбудзецца ў Мінску.

**Л. ХРЫШЧАНОВІЧ,**
**выкладчык БДУ імя У. І. Леніна.**

**Другі выпуск «Бацькаўшчыны» да друку падрыхтавалі В. РАГОЙША і А. ЦІХАНОВІЧ.**

# НА МЯЖЫ ЦУДОЎНАЙ БЕЗАДКАЗНАСЦІ

**Выпускны акцёрскі курс Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута летась зрабіўся лаўрэатам фестывалю студэнцкіх спектакляў «Авансцэна» ў Смаленску, сёлета — цікава прадставіўся на кіеўскім фестывалі «Пачатак», адметна зарэкамендаваўся ў Маскве, на другім міжнародным фестывалі тэатральных школ «Подыум». Сваімі фестывальнымі ўражаннямі ды высновамі дзеліцца кіраўнік курсу рэжысёр Андрэй Андросік:**

— Пачну з расчаравання: на такім высокапрафесійным, буйным фестывалі як «Подыум» мы мелі магчымасць быць усяго чатыры дні (фестываль доўжыўся каля дзесяці)! Між тым у Маскве выпала рэдкая магчымасць падзівіцца ды параўнаць усе маскоўскія тэатральныя школы, ацаніць таксама дзве амерыканскія з універсітэтаў Паўночнай Караліны ды Ілінойса, выбітную групу студэнтаў Лонданскай акадэміі музыкі і драмы, ізраільскую школу пад назваю Бейт-Цві. пабачыць прадстаўнікоў Мексіканскага тэатральнага універсітэта... Хачу падкрэсліць: падобныя спатканні маюць неацэнную каштоўнасць (і вялікі дзякуй СТД Беларусі, які ім моцна спрыяе). Фестываль школ — найлепшая школа... зносінаў, узаемаўплываў, ідэй... Нават калі не глядзець спектаклі, а проста мець дачыненні з прысутнымі, — дайце веры, гэта неацэннае шчасце, бо думка крэсіць думку, ідэя не адмаўляе ідэю, а назапашаныя ўражанні разнявольваюць эмоцыі, раскоўваюць свядомасць...

Самае нечаканае для нас — атмасфера фестывалю. Нас прыдзірліва ацэньвалі, але вельмі добразычліва прымалі. Дый проста чакалі, рыхтаваліся да сустрэчы, пасялілі ў добры гатэль ды кармілі на трыццаць сем рублёў у дзень, — назаўтра мы хадзілі ўжо з замежнымі выразамі на тварах і пачуваліся дарагімі госцейкамі...

Спектаклі ішлі ў філіяле тэатра Маякоўскага — ў невялічкай зале, на сцэнцы досыць утульнай, апанаванай гледачамі да самай апошняй прыступкі. Нічога звышнатуральнага, бліскуча-невытлумачальнага мы, «выхаванцы» ці «прыгонныя» школы, якую прынята называць «школай Станіслаўскага» (і якую ці не кожны разумее па-свойму), не пабачылі. Напрыклад, амерыканская школа з Ілінойса, арганізаваная дваццаць пяць гадоў назад на сродкі дзяржавы (цяпер ёй дапамагае фірма «Уінстан» — тая, што вырабляе знакамітыя цыгарэты), прывезла ўзор найпапулярнай сучаснай амерыканскай драматургіі — спектакль «Праклён галоднага класу». Сэма Шэпарда. На маю думку, гэта досыць дзіўны выбар для дыпломнага спектакля, нягледзячы на тое, што п'еса сучасная дый гаворка ў ёй ідзе пра сучаснікаў. Па сваёй структуры яна падобная да п'ес Юджына О'Ніла — скрутная, чэпкая гісторыя пра людзей, лёсы якіх прадвызначае нешта, закладзенае ў псіхіцы, наследаванае генетычна... Прадстаўлена амерыканская сям'я, якая жыве на мяжы беднасці. З цягам часу бядотнікі-сямейнікі пачынаюць гінуць ці распадацца знутры як асобы: бацька зрабіўся апівохам, з маці палез комплекс колішняй заможнай паненкі, сын разгубіўся, дачка, апярэдзіўшы па развіцці свой узрост, шукае дарослых тлумачэнняў свайму трынаццацігадоваму жыццю... Дзіўна тое, што студэнты мусілі іграць узроставыя ролі ды яшчэ вельмі складаныя псіхалагічна, але рабілі гэта не з простаю добрасумленнасцю руплівых вучняў. Вось адзнака школы як такой: дзіўная, мо дзівосная вера ў тое, што яны ўсё робяць як мае быць, ведаюць усё пра сваіх герояў і абставіны іхняга жыцця. Студэнцкія ці шкалярскія спектаклі натуральна адрозніваюцца ад спектакляў, гартаваных уласна тэатрам, але ў амерыканскіх студэнтаў, я сказаў бы, ёсць нейкая асаблівая ўласцівасць **веры,** — не прафесійнай адказнасці, не вучнёўскай стараннасці, але веры. У п'есе — бездань пакручастых маналогаў, доўгіх дыялогаў, пра якія няможна сказаць — сыграныя бліскуча, але можна сказаць: яны зайздросна эмацыянальна, дыхтоўна, пераканаўча пераказаны, — так, што з акцёра выцягнута душа. Стэрэатып мюзіклівага амерыканскага відовішча, тэхнічна бездакорнага, псіхалагічна аблегчанага, разбіўся. Я назваў бы гэты спектакль «кавалкам пражытага жыцця». Больш за тое. Студэнты штораз балансавалі на мяжы вышэйшай праявы акцёрскай дасканаласці — псіхалагічнага гратэску. Самі пра сябе гэтыя сціплыя ды нават сарамлівыя студэнты расказалі: працуюць з улікам Станіслаўскага, Міхаіла Чэхава, Стрэлера, Брэхта, Гратоўскага, — усіх яны ведаюць, усё **бачаць.** Бачаць, я гэта вылучаю. Ніхто за мяжой не шкадуе сродкаў на падрыхтоўку акцёра. Напрыклад, відэапаратура дае магчымасць убачыць лепшыя спектаклі апошняга дзесяцігоддзя, а на сцэнах тэатраў ім выпадае паглядзець не меньш як пяцьдзесят спектакляў на год, — лепшых, заўважце, спектакляў...



Рэжысёр А. Андросік і студэнт А. Голуб на рэпетыцыі.
Фота Ул. КРУКА.

**Уразіла ізраільская школа Бейт-Цві: за тры гады акцёр можа паспрабаваць сябе ў мюзікле і камедыі дэль артэ, псіхалагічнай драме ці клоунскай рэпрызе... Бейт-Цві летась уразіла ўжо Маскву (свой курс прывозіла Ніна Міхоэлс), — уразіла хоць бы тым, што сярод акцёраў прысутнічаў псіхолаг, які, урэшце, настройваў іх на спектакль.**

**Іхні спектакль, праўда, мне не падаўся дужа цікавым. «Сцэны са шлюбнага жыцця» І. Бергмана, пастаўленыя, дарэчы, паводле кінасцэнарыя, ды, на мой, погляд, трохі фармальна. У гэтым спектаклі якраз да месца прыдалася выбітная акцёрская добрасумленнасць ды надзвычайная тэхнічнасць (што здзівіла ў такіх маладых людзях), але элементы меладраматызму, сентыментальнасці (гэткая кропля «індыйскага кіно» ў халаднаватых дачыненнях персанажаў) не надта пасавалі да прапанаваных абставін на сцэне. У чым тут уласна школа? Мы радуемся, калі нашы студэнты на сцэне добра размаўляюць. Калі добра рухаюцца. Калі не блытаюцца ў заслоне. Не падаюць у сцэне фехтавання ці вальсавання. Упэўненыя паводзіны, распрыгоненасць, раскутасць, — вось першыя ўмовы авалодання прафесіяй акцёра паводле школы Бейт-Цві. Я чатыры гады мусіў патраціць на тое, каб выкараніць са сваіх студэнтаў комплекс шкаляра, каб хоць паспрабаваць навучыць іх не баяцца... сцэны. А ў гэтай школе падобныя складанасці пераадольваюцца за першыя месяцы навучання...**

Вось крочаць насустрач амерыканскія педагогі ды студэнты — вясёлая жывая маса, маладыя, дужыя, прыгожыя людзі. Без фамільярнасці, але і без напышлівай халоднасці дачыненняў «шкаляр — мэтр». Я думаю, у замежных калег іншы, адрозны ад нашага ўзровень разумення, спасціжэння жыцця, імкнення жыць, прагі жыць... У іх перадусім — пачуццё ўласнае годнасці. А менавіта яно нароўні са шмат чым іншым арганізуе прастору сцэны, рыхтуе, разаграе прастору спектакля. У якім бы кірунку ні працавалі школы, якую б нацыянальную глебу ні адчувалі б пад сабою, годнасць — не апошняе ў выхаванні творцы тэатра, а мо і — першае... Годнасць — не правінцыйная амбіцыйнасць, але — пачуццё ўпэўненасці, заснаванае на тым, што чалавека добра вучаць, памятаючы, што тэатр складаюць індывідуальнасці, Тэорыя пра чалавека-гліну, з якой мусіць ляпіцца індывідуальнасць творцы — недарэчнасць. Нават дзіця не нараджаецца «глінай», генетычна запраграмаванае на здольнасці, схільнасці і да т. п. А «ляпіць» асобу? Натуральна. куды цяжэй выявіць мастакоўскія схільнасці ды суаднесціся з імі ў працэсе наву-

НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ

## Сюрпрыз — праз тыдзень

**Зрэшты, гэтая найцікавейшая падзея адбываецца вось ужо цэлы сезон у Камернай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Але, на жаль, большасць слухачоў праходзіць міма — і гэта пры вялікім эмацыянальным голадзе на сапраўднае мастацтва і харастве! А яны ж побач — у канцэртах цыкла «Рамантычная песня XIX стагоддзя», што ладзяць канцэртмайстар Л. Максімава і салісты беларускай оперы і філармоніі.**

**Прызнаюся, і сама я спярша даволі абыякава ўспрымала назву цыкла, пакуль не наведала першыя канцэрты. І аказалася, што сусветны ўзровень выканання сустракаецца не тольні на відэакасетах з выступленнямі зарубежных «зорак», што нашы вакалісты і піяністка таксама адпавядаюць гэтаму ўзроўню.**

**Стваральнік, драматург, рэжысёр і натхняльнік цыкла «Рамантычная песня XIX стагоддзя» — канцэртмайстар Беларускага тэлебачання і радыё заслужаная артыстка рэспублікі Л. Максімава. Я невыпадкова назвала яе і драматургам, і рэжысёрам: кожны канцэрт цыкла, хаця складаецца з асобных рамансаў розных аўтараў, мае сваю логіку развіцця, цэласную драматургію і ўспрымаецца на адным дыханні. Я назвала б Л. Максімаву яшчэ і даследчыкам, бо літаральна россыпы музычных скарбаў знайшла і адкрыла для нас яна ў, здавалася б, добра вядомай заходнееўрапейскай рамантычнай вакальнай музыцы XIX стагоддзя. Ды і тое, што, думалася, добра ведаеш, прачыталася раптам па-новаму, нечакана (дастаткова прыгадаць інтэрпрэтацыю М. Маісеенкам вядомай песні Шуберта «Двайнік» або Н. Кастэнкай — песні «Грэтхен за прасніцай»).**

**Расказвае Л. Максімава:**

**— Мне здаецца, рамантычная песня Бетховена, Шуберта, Шумана, Вольфа, Малера вельмі сугучная нашаму часу. Песні гэтыя быццам рамантычныя, надзвычай эмацыянальныя, і ў той жа час вельмі сацыяльна насычаныя (дастаткова прыгадаць баладу Шумана «Валтасар», дзе выведзены, на жаль, сучасны і сёння вобраз тырана, дыктатара). А колькі ў іх проста адвечнай прыгажосці, мары пра ідэал, па якіх засумавала наша душа. Зноўку ўпэўніваешся, што геніяльнае заўсёды вечнае.**

**Ідэю цыкла я выношвала даўно. Шмат сядзела ў бібліятэках, чытала літаратуру пра той час, шукала ноты, працавала з перакладчыкамі, бо шэраг твораў выконваецца на мове арыгінала. Для адчування духу той музыкі мне шмат далі паездкі ў Аўстрыю, у Вену, дзе многія лесвіцы помняць крокі Бетховена, Шуберта. Я сама знайшла ўсе памятныя мясціны, дакраналася да дзвярэй, якія кранала рука Бетховена, узыходзіла па тых самых прыступках... Там, магчыма, ствараліся тыя песні, што мы выконваем.**

**Такая захопленасць працай перадаецца і вакалістам, і слухачам. Удзельнікі цыкла адкрываюцца не тольні як добрыя вакалісты — пра гэта нават не думаеш, бо галоўным робіцца інтэлектуальная глыбіня, акцёрская выразнасць, высокая выканаўчая культура, словам — Мастацтва. Тут нават не ведаеш, каго вылучыць: Н. Кастэнку ці М. Маісеенку, Н. Рудневу ці Н. Казлову, В. Цішыну ці А. Шчарбакова, Э. Пелагейчанку, — усе вартыя самых цёплых удзячных слоў.**

**«Рамантычная песня» XIX стагоддзя» — у зеніце. Хто не чуў першых канцэртаў, страціў шмат, але наперадзе, 31 мая, — цікавы, можна сказаць, вясновы любоўны канцэрт. У наступным сезоне — працяг, плануецца выкананне арыгінальных малавядомых вакальных твораў Р. Штрауса, А. Шонберга, Г. Вольфа; вакальных трыо, квартэтаў, музіцыраванне на раялі ў 4 рукі (праграма «Вальсы кахання І. Брамса») і яшчэ шмат сюрпрызаў. Але бліжэйшы — праз тыдзень.**

**І. МІЛЬТО.**

## «Чырвоная кніга» ў «Руху»

**Біблія, літаратура пра жыццё Хрыста, апокрыфы, — тое, што доўгі час шэнціла вывучаць хіба філолагам ды філосафам, цяпер наблізілася да сучаснікаў. Наблізілася, бо адкрыццё Святога Слова шмат у каго яшчэ наперадзе.**

**Тым больш цікавым і захапляючым падаецца імкненне тэатра пантамімы «Рух» і ягонага кіраўніка Уладзіміра Колесава ўявіць ды ўвасобіць падзеі Святых кніг (прапануючы гледачам свайго роду каляндар рэлігійных святаў), паяднаўшыся з іспанскім кампазітарам Ксавіерам Бенгуэрэлам, аўтарам месы «Чырвоная кніга з Мансерат».**

**Рамантычная назва месы цалкам адпавядае рамантычнай гісторыі адкрыцця сапраўднай Чырвонай кнігі ў адным са старажытных замкаў Каталоніі (нагадвае адкрыццё «Полацкага сшытку»). Пад чырвоную аплёткаю, у цяжкіх вокладках былі схаваны запісы гімнаў пілігрымаў (паводле паданняў, яны нібыта ішлі ўслед за Дзевай Марыяй, услаўляючы яе), датаваныя пятым стагоддзем. Вакальныя кавалкі Ксавіер Бенгуэрэл пакінуў «як у пілігрымаў» (яны далі моцны штуршок фантазіі кампазітара); аркестравая ж частка месы належыць да адной з плыняў музыкі авангарднага кірунку.**

**Ідэяй праілюстраваць жыццё Хрыстова Уладзімір Колесаў захапіў нямецкага дырыжора Лео Крэмера, які для выканання месы «Чырвоная кніга з Мансерат» аб'яднаў пад сваім кіраўніцтвам Акадэмічную харавую капэлу імя Р. Шырмы, Акадэмічны сімфанічны аркестр БССР ды салістаў Наталлю Рудневу і Эдуарда Пелагейчанку.**

**Увасабленне месы. акрамя ўсяго, мовай пластыкі, незвычайнае яднанне чалавечых галасоў і рухаў, нарэшце, складаная светлавая партытура відовішча выклікалі цікавасць іспанскага кампазітара: ён разам з беларускім гледачамі мае намер падтрымаць фантазію пастаноўшчыкаў 28 МАЯ У ЗАЛЕ БЕЛДЗЯРЖФІЛАРМОНІІ.**

**НАШ КАР.**

# КАЗКА ПАДАБАЕЦЦА ЎСІМ

**«ТРЫ ПАРАСЯЦІ» ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР**

Запрашаючы на новы спектакль «Тры парасяці», кіраўнік балетнай трупы В. Елізар'еў некалькі разоў паўтарыў: «Але, улічыце, гэта для дашкольнікаў». Напэўна, хацеў такім чынам папярэдзіць, што даросламу чалавеку можа быць сумнавата на вядомай усім з дзяцінства казцы. Думаю, што гэтага, на шчасце, не адбылося ні з кім з прысутных у зале. Энергічна, жыва, харэаграфічна дасціпна расказвалі кампазітар R. Сібірава, пастаноўшчык М. Тлеубаеў пра немудрагелістыя прыгоды парасят, лішні раз пацвярджаючы ісціну, што ў мастацтве не столькі важна «што», колькі «як».

**...Двое юных свінак, Нуф і Ніф (артысты Р. Філіпенка і В. Даўгіх) паводзілі сябе на сцэне, як сапраўдныя парасяты: яны імкнуліся перакласці работу на чужыя плечы, стралялі з рагатак ва ўсіх, у тым ліку і гледачоў, дражнілі Ваўка, стараліся накрыць сачком матыльноў і былі заўзятымі хвальнамі і баязліўцамі. Ну, а трэцяе парася аказалася дзяўчынкай (артыстка Н. Філіпава) і засяродзіла ў сабе, здаецца, усе станоўчыя якасці гэтага полу. Яна цягала цяжар, прызначаны для траіх, суцяшала, узбадзёрвала, ушчувала сваіх бязглуздых братоў і паміж справай цудоўна танцавала, заражаючы ўсіх радасцю і аптымізмам. Досыць дзейснымі, як ім і наканавана, удзельнікамі сюжэту аказаліся мурашы, апранутыя «па-рабочаму» ў цыліндры і фракі, вожык, калючы толькі звонку, хуткая какетлівая вавёрачка і лёгкакрылыя рознакаляровыя матылькі. Ну і вядома, самым галоўным героем гэтага балета быў Воўк у выкананні артыста С. Манзалеўскага. Зусім не шэры, а досыць абаяльны, ён, як выявілася, быў злосным толькі таму, што быў галодны. Калі ж яго накармілі, ён аказаўся добрым і выхаваным кавалерам, які хвацка вытанцоўваў у фінале з усімі дамамі з нагоды перамогі над самім сабой...**

Усё гэта было весела глядзець як маленькім, так і дарослым, тым больш, што пастаноўшчык знайшоў нямала дадатковых захапляльных прыёмаў, накшталт пагоні Ваўка за парасятамі ўздоўж радоў глядзельнай залы, нечаканага з'яўлення ўсіх з аркестравай ямы, кароткіх дыялогаў герояў з гледачамі і г. д. (Дарэчы, на пытанне Ваўка, хто ўкраў ягоныя боты, адзін хлопчык, а за ім і ўся зала раптам дружна адказалі: «Я!» Колькі ні была на дзіцячых спектаклях, не прыпомню такой рэакцыі раней. Напэўна, гэта магло б зацікавіць даследчыкаў дзіцячай псіхікі). Проста, але эфектна і пазнавальна трактаваў касцюмы ўсіх персанажаў мастак М. Рыжанаў. Пра работу нашага аркестра і дырыжора на гэты раз сказаць няма чаго, бо яны адпачывалі, а спектакль ішоў пад фанаграму.

Нягледзячы на атрыманае задавальненне ад балета, у сілу сваёй прафесіі, якая абавязвае

чання, не зламаць, не прыстасаваць пад «прафесарскія магчымасці»...

**Спектакль «Утаймаванне наравістай» прывезлі з Англіі. Я спачатку патрапіў на ягоную рэпетыцыю і... нібыта натрапіў на сваю ўвасобленую мару. Якая нязмушаная атмасфера на сцэне! Як проста, лёгка, вольна існуюць акцёры, як вытанчанасць спалучаецца з іроніяй, як спеў перапыняе выштукаваная бойка... Як? На мяжы цудоўнай безадказнасці,— сказаў бы я, бо нішто не замінае акцёрам, «устаноўка» там ці «канцэпцыя»... Гэтаксама нязмушана потым ішоў і спектакль. З выключным пачуццём стылю. Мо стыль часцяком нагадвае стылізацыю, але ў англійскім варыянце Шэкспіравага матэрыялу ён быў цудоўна абраны, добра прачуты,— рэдкая якасць! Стыль, думаю, не просты шэраг нейкіх вонкавых пазначак, стыль англічан — ад унутранай акцёрскай арганічнасці... Стыль — гэта тая мяжа цудоўнай безадказнасці, утрымацца на якой можа толькі прафесійна падрыхтаваны чалавек,— мяжа нязмушанасці, вытанчанасці, распрыгоненасці.**

Наш спектакль на фестывалі паставілі паралельна з мексіканскім, з-за чаго студэнты разгубіліся. А як жа! Публіка, маўляў, пойдзе **туды**, а да нас патрапяць тыя, хто не ўбіўся ў **тую** залу!.. Чуліся ўжо галасы «Нас не палюбілі, нас паставілі ў кепскі расклад...» Гэта — не амбіцыі? Не комплекс? Не правінцыйнасць? Пасля спектакля давялося размаўляць з людзьмі зацікаўленымі. Крытыка з Англіі больш за ўсё цікавіў наш падыход, нашае стаўленне да Шэкспіра. Чаму мы «гуляем у Шэкспіра», на якой цудоўнай мяжы мусім трымацца, каб спасцігнуць і даць зразумець зале ўсю меру адрознасці між «гуляем у Шэкспіра» да «іграем Шэкспіра»? Мы расказалі пра наш шлях, пра тое, што Шэкспіра не хацелася прадстаўляць забранзавелым класікам, але хацелася спасцігнуць праз рух, пластыку, праз самыя нечаканыя, нават «антытэатральныя» прыстасаванні, а з нашага стаўлення да сусветнага класіка, натуральна, вынікала пытанне пра беларускую тэатральную школу, якой так зацікавілася англічанка,— маўляў, у нашым стаўленні да Шэкспіра ёсць добрае маладое тэатральнае хуліганства ды тое своеасаблівае пачуццё стылю, за кошт таго, што падыход да класіка мы абралі... самы нязмушаны... самы легкі... (Не аблегчаны!)

Беларуская тэатральная школа... Я б не ўзяўся цяпер вызначаць яе пэўна, раз і назаўсёды. Увогуле, чаму само паняцце «школа» вымагае з нас нейкае засмучонасці? Мы адразу напружваемся, дранцвеем, ніякавеем, інстынктыўна пабойваемся. Мо ажываюць нашыя згадкі пра школу, якую самі прайшлі, якую праходзяць цяпер нашы дзеці і дзе мы бачым, як сённяшніх людзей вучаць там людзі ўчарашнія паводле пазаўчарашніх падручнікаў... Навучаюць людзі прыгнечаныя, скутыя комплексамі, запрыгоненыя,— у іхняй школе царуе выгук «Цішэй!» ці «Няможна!» а дысцыпліна нагадвае вайскова-лагерную... Як радасна авалодваць жыццём ды прафесіяй? Як схітрыцца не пераносіць у асяродак маладых людзей хваробы сапселага тэатральнага механізму? Не дурыць галовы тэатральным занудствам, але, навучаючы рамяству, гартаваць для творчасці?

Цяжка, ды трэба вучыць даступнаму табе, педагогу, засвоенаму табой, педагогам, — вучыць і ўвесь час мець на ўвазе, што ёсць нейкі далягляд, да якога варта рухацца, імкнуцца, ісці, мо табе, педагогу, не пашэнціць, але твае вучні — мусяць. Як мне, чалавеку, які хварэе на ўсе тэатральныя хваробы, які прайшоў сваю тэатральную школу (ці не адну з самых лепшых — Д. Арлова на Беларусі ды Г. Таўстаногава ў Ленінградзе), для якога няма нечаканасцяў у тэатры (а так хочацца іх прычакаць), — як мне не навязваць свае веды, а дзяліцца імі? Абраць цудоўную мяжу дачыненняў са студэнтамі ды ўтрымацца на ёй... Бо школа — гэта не набор адмычак, прабачце, ад майстэрства, школа — гэта жывое...

**Запісаў**
**Валерый КАЛІНОЎСКІ.**

---

да крытыкі, выкажу некалькі суб'ектыўных заўваг.

Шкада, што такія цудоўныя матылькі танцуюць не на «пальцах». Яны былі б яшчэ больш лёгкія і прыгожыя. Не варта было б, на мой погляд, парасятам так груба па-сучаснаму дражніць Ваўка, паказваючы яму свае хоць і маленькія, але задкі. У тыя казачныя часы ўжываліся, напэўна, іншыя, больш карэктныя дражнілкі. Магчыма, дарэмна таксама гэты паўнацэнны аднаактовы балет разбіты на два не зусім раўназначныя акты. Праўда, можна зразумець тэатр, якому не даводзіцца шукаць яшчэ штосьці, каб (за тыя ж грошы!) паказаць традыцыйны для балета мінімум у два аддзяленні. Кароткачасовасцю спектакля не асабліва засмучаны, здаецца, і рознаўзроставыя гледачы: увага малых хутка стамляецца, а іх бацькоў чакаюць, як заўсёды, шматлікія хатнія справы.

Зрэшты, гэта дробязі. Спектакль падабаецца ўсім, не выключаючы, здаецца, і выканаўцаў. Прыемнае спалучаецца тут яшчэ і з карысным. Я, вядома, не ведаю, ці стануць дзеці, паглядзеўшы гэты спектакль, хоць крыху дабрэйшымі, ці будуць любіць жывёл, ці навучацца гэтаксама нехваравіта, як Воўк з парасятамі, вырашаць свае канфлікты, але думаю, — бясспрэчна добра, што дзеці з маленства далучаюцца да мастацтва, да танца, да балета. Гэта карысна і для тэатра: магчыма, сённяшнія дзеці, сталеючы і стаўшы дарослымі, будуць зноў і зноў прыходзіць у гэтую залу. Тэатр запрашае іх ісці далей разам. І першы крок па гэтым шляху ўжо зроблены.

**Юлія ЧУРКО.**



Сцэна са спектакля. Фота А. ХАРКОВА.

# Віншуем!

**27 мая спаўняецца 60 гадоў крытыку і літаратуразнаўцу Васілю Жураўлёву. Зычым Васілю Пракопавічу новых поспехаў, высокай прынцыповасці і працаздольнасці на доўгія гады.**



# У ПАСТАЯННЫХ КЛОПАТАХ

Вёска Раздзел, у якой 27 мая 1931 года нарадзіўся Васіль Жураўлёў, знаходзіцца за нейкія паўтара кіламетра ад славутай зараз Малой Багацькаўкі — радзімы Максіма Гарэцкага. І так спакусліва вывесці захапленне сённяшняга нашага юбіляра роднай літаратурай з уплываў-уздзеянняў на яго творчага прыкладу знакамітага земляка. Дык жа не! Менавіта ў 1931 годзе М. Гарэцкага высылаюць на Поўнач, а імя яго надоўга становіцца забароненым, невядомым для многіх беларусаў — нават землякоў.

Сціплы юнак з Мсціслаўшчыны спачатку перад сабой вялікіх задач не ставіў. Проста хацеў стаць настаўнікам-славеснікам. І толькі сур'ёзна заняўшыся вывучэннем філалогіі ў Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага, зразумеў, што літаратура, літаратуразнаўства стане для яго справай усяго жыцця. Менавіта таму, скончыўшы ў 1954 годзе інстытут, без ваганняў прыняў прапанову застацца ў аспірантуры, каб удасканаліць свае веды па гісторыі і тэорыі літаратуры.

У 1957 годзе В. Жураўлёў змяніў навучальную на навуковую ўстанову. Справа ў тым, што Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР пачаў падрыхтоўку да напісання шматтомнай «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры». Пісалі яе пераважна зусім маладыя на той час даследчыкі: Д. Бугаёў, М. Грынчык, П. Дзюбайла, В. Каваленка, М. Луфераў, М. Мушынскі, М. Ярош... Побач з гэтымі, а таксама старэйшымі вучонымі працавалася вельмі хораша. На долю В. Жураўлёва выпала напісанне раздзелаў пра Янку Маўра, Эдуарда Самуйлёнка, Івана Мележа і Вінцука Дуніна-Марцінкевіча.

Запомнілася праца над раздзелам пра Івана Мележа, сустрэчы з гэтым выдатным пісьменнікам. Да таго часу ён ужо заявіў пра сябе як пра яркую творчую індывідуальнасць (з'явілася першая кніга будучай трылогіі — раман «Людзі на балоце»), аднак некаторыя ўплывовыя крытыкі па-ранейшаму не хацелі заўважаць яго, не забываючы пры гэтым раз-пораз падпускаць з'едлівыя «шпількі». Даследчык добрасумленна прааналізаваў творы выдатнага празаіка, пранікліва адзначыў асаблівасці яго творчага почырку.

Самааддана працаваў В. Жураўлёў над раздзелам, прысвечаным творчасці В. Дуніна - Марцінкевіча. Складанасць напісання гэтага раздзела заключалася ў тым, што да з'яўлення «Гісторыі...» творчасць пачынальніка беларускай літаратуры па сутнасці не была ўведзена ў шырокі гісторыка-літаратурны кантэкст. Так, была кніга С. Майхровіча «В. Дунін-Марцінкевіч», манаграфія В. Барысенкі «Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя», нямала публікацый зрабілі нястомныя працаўнікі А. Мальдзіс, Г. Кісялёў і інш. Аднак жа для шырокай грамадскасці яшчэ не наспеў час аб'ектыўных ацэнак: цяжар ранейшых догмаў і стэрэатыпаў (ліберальна-буржуазны, буржуазна-дэмакратычны і г. д.) усё яшчэ вісеў над гэтым пісьменнікам. В. Жураўлёў здолеў узняцца над старымі поглядамі, паказаўшы паслядоўна дэмакратычную мастацкую і грамадзянскую скіраванасць творчасці гэтага пісьменніка, прыхільнасць яго да жыццёвай праўды, адданасць нацыянальным інтарэсам народа.

«Гісторыя...» добра-такі паслужыла грамадству. Яна і сёння, магчыма, не вычарпала яшчэ да канца свае магчымасці як дапаможнік для студэнтаў і настаўнікаў. Аднак час няўмольна бяжыць, адмаўляючы адно, нараджаючы другое. Грамадства ўступіла ў новую паласу жыцця, з'явіліся новыя ідэі, праблемы і тэндэнцыі, якія і вымагаюць неабходнасць стварэння новай гісторыі беларускай літаратуры. Яна павінна ўвабраць у сябе і новыя нашы веды пра літаратуру і ранейшы вопыт жыцця, шмат у чым драматычны і трагічны. Вядома ж, напісанню такой фундаментальнай працы, якой з'яўляецца гісторыя літаратуры, павінна спадарожнічаць вялікая папярэдняя даследчыцкая праца па ўсіх напрамках літаратуразнаўчай навукі. У гэтым сэнсе могуць уяўляць цікавасць і кнігі В. Жураўлёва: «Праблемы сучаснай беларускай прозы» (разам з П. Дзюбайлам і М. Луферавым), «Беларуская савецкая проза. Апавяданне і нарыс» (разам з С. Андраюком і А. Лысенкай), «Пытанні паэтыкі» (разам з І. Шпакоўскім і А. Яскевічам), «Магчымасці рэалізму» (разам з М. Тычынам) і іншыя. Ва ўсіх згаданых працах В. Жураўлёва назіраецца пастаянная ўвага да стану беларускага апавядання. У нашым літаратуразнаўстве, на жаль, і па сённяшні дзень мала ўвагі ўдзяляецца гэтаму жанру. А між тым, апавяданне — гэта плацдарм для ідэйна-мастацкіх пошукаў усёй літаратуры. Тут нярэдка закладваюцца фундаментальныя асновы для вырашэння важных грамадскіх і эстэтычных задач, ідзе распрацоўка пытанняў паэтыкі.

І яшчэ адна асаблівасць даследчыцкай працы В. Жураўлёва: пра што ён ні пісаў бы, заўсёды не выпускае з поля сваёй увагі ўзровень пісьменніцкага майстэрства. І ў гэтым ёсць вялікі сэнс, бо якім бы ні было пісьменніцкае слова мужным і смелым (гэта, безумоўна, важна), яно не будзе доўгажывучым і не дасягне ў поўным аб'ёме ні сваёй адлюстравальна-пазнавальнай ні «ачышчальнай», духоўна-маральнай функцыі, калі не будзе адначасна словам высокамастацкім.

Наогул жа, у пытаннях паэтыкі В. Жураўлёў на сённяшні дзень з'яўляецца ў беларускім літаратуразнаўстве прызнаным аўтарытэтам. Высока ацэнена была яго манаграфія «Структура твора», за якую, дарэчы, яму прысудзілі ступень доктара філалагічных навук. Толькі што выйшла яго новая кніга «Якуб Колас і паэтыка беларускага рамана», у якой В. Жураўлёў даследуе мастацкае майстэрства класіка нашай літаратуры, раскрывае ролю яго паэтыкі ў эпічным адлюстраванні рэчаіснасці. Зварот да гэтага пытання прадыктаваны актуальнымі задачамі літаратурнай тэорыі і мастацкай практыкі. Даследчык адзначае, што ў самім працэсе паскоранага развіцця эпічнага жанру назіраюцца сёння не толькі дасягненні, але і сур'ёзныя выдаткі, у многім звязаныя з недасканаласцю літаратурнай тэхнікі. Несумненна плённым з'яўляецца сцвярджэнне аўтара аб тым, што класічная традыцыя, у тым ліку багаты і разнастайны літаратурны вопыт Я. Коласа, здольна выконваць важную «настаўніцкую» функцыю, падштурхнуць мастацкую практыку да наватарскіх пошукаў і дапамагчы глыбей зразумець і вызначыць якасць і ўзровень эпічнага майстэрства нашай літаратуры на сучасным этапе яе развіцця.

Васілю Жураўлёву толькі шэсцьдзесят. Для літаратуразнаўцы гэта пара сталасці, рэалізацый творчых задум. Зараз ён заканчвае новае даследаванне: «Праблема маральна-духоўных і эстэтычных каштоўнасцей у беларускай літаратуры 20-х гадоў».

**Сцяпан ЛАЎШУК.**

---

**БТ: РАЗАМ ЛЯ ЭКРАНА**

# Памяці Ларысы Геніюш

Не так даўно паглядзеў незвычайную перадачу Беларускага тэлебачання «Нябыт і ўваскрасенне Ларысы Геніюш». Цікавымі для мяне былі выступленні ўсіх яе ўдзельнікаў: далёкай сваячкі паэткі, пісьменнікаў Дануты Бічэль, Уладзіміра Арлова і Любы Тарасюк, навукоўца Міхася Чарняўскага. Кожны з іх сказаў нешта адметнае і важнае пра незабыўную Ларысу Антонаўну. Праўдзівыя сведчанні ўдзельнікаў змястоўнай перадачы былі шчодра дапоўнены майстэрскім чытаннем цудоўных вершаў вялікай паэткі народнай артысткай БССР М. Захарэвіч і фотаздымкамі Ларысы Геніюш, хаты, у якой яна жыла, храма, дзе адпявалі нябожчыцу, апошняга прытулку на мясцовых могілках з каменным помнікам ад удзячных грамадзян...

Перадача кранула мяне сваёй неардынарнасцю і навізной.

Беларускае тэлебачанне распачало вельмі добрую справу, і, магчыма варта парупіцца пра паўтор перадачы. Патрабуецца яшчэ шмат часу і намаганняў, каб належным чынам прадставіць свайму народу Ларысу Геніюш, асобу складанейшага лёсу. Нават кароткае азнаямленне з яе творамі, даступнымі чытачу, цудоўнымі вершамі, «Споведдзю», дае ўсе падставы гаварыць пра яе талент як пра выключны.

**Мікола ПЛАВІНСКІ.**
г. Віцебск.

УПЕРШЫНЮ Ў «ЛіМе»

Валерый ПАЗНЯКЕВІЧ



Валерый Пазнякевіч нарадзіўся ў 1968 годзе ў вёсцы Сінкевічы Лунінецкага раёна. Друкаваўся ў газеце «Чырвоная змена». Зараз студэнт 2-га курса філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна.

## Бяда

**Белая песня вішнёвага саду...
Белы туман па-над белай ракой..
Ноччу бяда падкралася ззаду,
і пачарнеў белых рэчак спакой.**

**Белая вёска...
Забітыя вокны...
І жураўель пахіснуўся набок.
І пачарнеў белы шлях мой гаротны,
Сэрцам каханы — забыты куток.**

**Ўзяць бы з сабою зямелькі ў мяшэчак,
Каб у дарозе пашчасціла мне.
Толькі зямлі ўздрыгануліся плечы,
І пранеслося пакутнае:
— Не.**

●

**Я шукаю жыцця высновы.
Ёсць натхненне — рыфмую словы.
Я такі ж, як усе,— вясковы,
І настрой ў мяне вясновы.
Зарыфмую каханне з летам,
Ах, як хораша быць паэтам!
Прытуляю да сэрца словы
Беларускай, пяшчотнай мовы.**

●

**Заручылася восень з зімой,
І смяецца суседкай на ганку.
Заглядае ў мой цёплы пакой,
Запрашае з сабой на гулянку.
Саматканы засцеле абрус
І завей павядзе карагоды.
Што ж гуляць не ідзеш, беларус!
Ці вяселляў забыў асалоду!**

●

**Успаміны, бы воблака пылу.
Быццам цень невядомы прарочы.
Я губляюся ў прыцемку ночы
І знаходжу ў ім вечнасці крылы.**

**Палячу праз гады і стагоддзі.
Аднаўлю ўсё, што страчана часам.
Пачастуюся мёдам і квасам
У забытым вякамі народзе.**

**Там гучыць беларуская мова,
І спяваюць вячэрнія песні.
О, Святая Зямля, уваскрэсні!
Адрадзіся з нябыту нанова!**

●

**Беларусь — гэта белая птушка ў блакіце нябёсаў.
Гэта рэха вайны і павольная плынь белых рэчак.
Курапаты і тысячы тысяч скалечаных лёсаў.
Гэта памяць дзядоў і агонь незгараючых свечак.**

**Беларусь мая белая, як жа ты чорнаю стала!
Зноў галосіць зямля і плача наўзрыд несціхана.
А Чарнобыль над ёй смертаноснае выпусціў джала.
І пачварным таўром на зямлі незагойная рана.**

**Дык не дайце ж загінуць і знікнуць ёй з твару планеты,
Хай жыве Беларусь і гучыць беларускае слова.
Хай не кане ў бяздонне вякоў і не кане у Лету
Беларускі народ, Беларусь, беларуская мова.**

**Дык жыві, Беларусь, вечна ў вэлюме белым красуйся!
Мы належым табе. І адной табе сэрцам аддады.
І пакуль я жыву, называюся ўслых беларусам,
І нікому мяне пры жыцці не закуць у кайданы.**

●

**Я прайду па агністых росах,
Залячу свайго сэрца раны.
У травяністых духмяных косах
Адшукаю свой шлях абраны.**

**Узлячу аблачынкай белай,
Калі толькі прыгрэе сонца
І паскідваюць цені дрэвы
На зялёны дыван бясконцы.**

**Заручу вольны дух з вятрамі,
Каб вясёлкай квітнела воля.
Каб лілася, бы спеў, вякамі
Заручоная наша доля.**

# СУМЛЕННЕ, ПРАЎДА І ДАБРО

## Сцяпану ГАЎРУСЁВУ споўнілася б 60...



Пакаленні могуць не згаджацца з **пакаленнямі, аспрэчваць, не прымаць** адно другога, але заўсёды між імі існуюць нябачныя масты, наводзіць якія здольная, як мне здаецца, паэзія. Вядома, паэзія сапраўдная. Менавіта такім пантанёрам мне і ўяўляецца паэтычнае слова Сцяпана Гаўрусёва. Ужо на самым пачатку яго паэзія пераадолела небяспечную мяжу часовасці і, маючы ў сабе запал публіцыстычнасці, сцвердзіла сябе канкрэтна ў жыццёвым матэрыяле. Тры катэгорыі цаніў паэт у чалавеку: «сумленне, праўду і дабро». Гэтыя тры катэгорыі сцвярджаў і ў паэзіі. І хоць ішоў ён ад традыцыі, у творах сваіх быў у поўным сэнсе наватарам. С. Гаўрусёў ніколі не ўскладняў свайго верша той мудрагелістасцю, якой так прагнуць маладыя паэты. Наадварот, пра самае складанае ў жыцці імкнуўся гаварыць проста, з запасам пачуцця і дабрыні, якія былі ўласцівы яго сэрцу. Нельга не пагадзіцца з радкамі паэта:

**Мы зберагаем — я і ты—
Жывым традыцыям адданасць.
І ў тым складанасць прастаты,
Каб проста перадаць складанасць.**

«Я вырас пад гарматнымі стваламі»,—сцвердзіць паэт аднойчы ў сваім вершы. І гэта будзе сказана ад імя ўсяго пакалення і сказана зусім не рытарычна:

**У сорак першым, на загоне мёртвым
Гарматы білі ворага ва ўпор.
І я падрос, калі ў сорак чацвёртым
Яны агонь перанеслі за бор.**

Уражлівага, а дакладней трагічна-ўражлівага ў тыя ваенныя і пасляваенныя гады было дастаткова. Было нялёгкае безбацькоўства, якое сумна і недарэчна паўторыцца ўжо ў нашы дні, былі «палаты мінёраў», горкія слёзы ўдоў і іх мужчынская праца на родных палетках. Пакаленне С. Гаўрусёва і прыйдзе ў літаратуру, каб сказаць пра той час сваё набалелае слова. Звернемся да наступных радкоў ужо згаданага вышэй верша «Я вырас пад гарматнымі стваламі»:

**Мы не маглі даверыць ночы сіняй,
Уздрыгвалі, як хруснуць дзе дубцы.
І з «юнкерсаў» падбітых алюміній
Ламалі для дзяўчат на грабянцы.**

**Мы прызнаваліся сваім любімым
І службу ўжо дарослую няслі.
Стаў новым свет, а губы пахлі дымам,
Бо мы з снарадных конаваў пілі.**

Гэта яго, Гаўрусёва, манера быць катэгарычна дакладным у бачанні малюнка, у яркім пераламленні гэтага малюнка на нечаканыя дэталі. Тут і смелы паварот думкі і цэлая каскаднасць асацыяцый. Адкуль гэта ўсё ішло? У чым заключаўся сакрэт паэтычнага пошуку С. Гаўрусёва? Вось што гаварыў пра гэта сам паэт у сваіх аўтабіяграфічных нататках: «Ключ паэзіі—у чалавеку працы. Я не люблю парадных аркестраў і панегірычнай пазалоты. Праўдзівыя вочы і сумленныя рукі—вось што мяне акрыляе».

Талент, вера ў сябе, дазвалялі С. Гаўрусёву сцвярджаць іменна так. Ён паважаў усё таленавітае ў чалавеку і, напэўна, мог у хвіліны расчулення шчыра і цвяроза зайздросціць яму.

У дзяцінстве ў суседа-вяскоўца ён упадабаў гармонік, аж ззяў ад радасці, калі той браў яго ў рукі і выціскаў з бліскучых гузікаў хвацкую мелодыю. Вядома ж, суседа хлапчук лічыў ледзь не самым шчаслівым чалавекам на зямлі. І тады ён пакляўся сабе: калі вырасце і заробіць першыя ўласныя грошы, абавязкова купіць гармонік. Звычайна дзіцячыя клятвы наіўныя і нязбытныя. А вось паэт Гаўрусёў не мог здрадзіць сваёй дзіцячай мары і клятве. З першага свайго ганарара ён купіў гармонік і вельмі радаваўся гэтаму.

У 1959 годзе С. Гаўрусёў напісаў лірычную паэму «Штодзённы лістапад», твор яркі, каларытны, свежы і, можа, нават нечаканы і нязвыклы для таго часу. У паэзіі нашай панавала яшчэ шмат твораў надзённа-аднадзённых, вершаў-трашчотак, вершаў-бубнаў. Яны прыходзілі і тут жа адыходзілі. А пры новым хрушчоўскім павеве іх нават не выратоўвала тое, што аўтары, жадаючы мець большую плошчу ў чарговым выбраным, слова «Сталін» мянялі на слова «Радзіма». Паэму «Штодзённы лістапад» надрукаваў часопіс «Маладосць», і яна тут жа была заўважана і чытачом і крытыкай. Лірычная, глыбока і эмацыянальна высвечаная, паэма гучала і па-сапраўднаму публіцыстычна. І сёння мы перачытваем яе з тым жа адчуваннем, з той жа мерай хвалявання, як і тады ў «Маладосці».

Кніга «Ураган» (1966) сталася трывалай прыступкай у творчасці С. Гаўрусёва. Сталеў голас паэта, значна расшыраўся тэматычны абсяг яго твораў. А паэтычны роздум як бы суседнічаў з маладой задзірыстасцю і жаданнем па-свойму сказаць штосьці сваё, набалелае. Хвалююць з той кнігі вершы «Чырвоныя бінты», «Пярсцёнкі з медных пятакоў», «Памяніцца б плаўнікамі з рыбай», «Станцыя Цёмны лес». А самому паэту падабаўся яго верш «Цыркавыя коні». Расказваў нават, як яму папала за яго ад «всевидящих» перастрахоўшчыкаў, якія нейкі страшны падтэкст убачылі ў такіх, напрыклад, радках:

**Што жадаць ад грацыі канёвай,
Бо капыт — не каблучок дзявочы.
А танцуюць з шчырасцю вясковай,
На людзей не паднімаюць вочы.**

«Профіль веку», «Пераклічка», «Азарэнне»—усе гэтыя кнігі напісаны быццам на адным дыханні. У вершах шмат добрага чалавечага пачуцця, светлага замілавання хараством прыроды.

Якім быў у жыцці С. Гаўрусёў? Многія могуць сцвярджаць, што быў ён вялікім аптымістам, з заўсёднай усмешкай на твары. Знешне гэта так. Але жыццё ні ў дзяцінстве, ні ў маладосці, ні ў сталасці не было для яго спагадным. Было ў ім не так і многа вясёлага. Здараліся, і хвіліны адчаю. Адно можна сцвярджаць, што С. Гаўрусёў меў праўдзівыя вочы і такое ж сэрца. Ён добра ведаў цану сапраўднага сяброўства і ніколі не крывіў душой. Напаткаўшы ў друку чыесьці ўдалыя вершы, ён радаваўся ім як сваім. Гаварыў пра гэта пры сустрэчы і па тэлефоне.

У апошнія гады жыцця паэт амаль страціў зрок, перанёс некалькі складаных аперацый. Гэта тады, у адчаі, напісаны ім вершы, якія ўвайшлі потым у кнігу «Пладаноснасць».

Шчымліва-балючае пераплялося ў тых вершах з аптымістычным, жыццесцвярджальным:

**Ды не! Загублена не ўсё,
Свет чутны не праз пераборку:
Заўчаснай роспачы рыззё
Зноў заменю на гімнасцёрку.**

У маі яму споўнілася б шэсцьдзесят. Не дажыў паэт да гэтай даты. Хочацца верыць, што яго паэтычнаму слову жыць назаўсёды ў сэрцах удзячных чытачоў. Хочацца верыць і ў сустрэчу з поўным зборам твораў таленавітага паэта.

**Казімір КАМЕЙША.**

●

60-годдзю з дня нараджэння Сцяпана Гаўрусёва быў прысвечаны вечар, што адбыўся ў Доме літаратара. Выступілі намеснік старшыні Рады СП Беларусі У. Паўлаў, Н. Гілевіч, А. Слесарэнка, Л. Дранько-Майсюк.

**УВАГА!**




# КОНКУРС «У ВЯНОК БАГДАНОВІЧУ»

З нагоды 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча, з мэтай далучэння моладзі да яго творчасці і паглыбленага вывучэння паэтычнай спадчыны песняра Саюз пісьменнікаў Беларусі, Мінскае гарадское аддзяленне Савецкага фонду культуры, Упраўленне культуры Мінгарвыканкома і газета «Літаратура і мастацтва» абвяшчаюць Мінскі гарадскі адкрыты конкурс на лепшы паэтычны твор, прысвечаны творчасці М. Багдановіча —«У вянок Багдановічу».

Да ўдзелу ў конкурсе, які праводзіцца ў адзін тур з 25 мая па 25 кастрычніка 1991 года і з выніковай вечарынай, запрашаюцца маладыя аўтары з Мінска і Мінскага раёна ва ўзросце да 30 год.

На конкурс дасылаюцца вершы любога жанру на беларускай мове, аб'ёмам не больш за тры старонкі, у трох асобніках, надрукаваныя на машынцы на стандартным лісце паперы, на якім пішацца прозвішча, імя, імя па бацьку аўтара, год нараджэння, месца работы альбо вучобы. Усе даныя паведамляюцца поўнасцю.

Рукапісы да 25 кастрычніка 1991 года (аб чым сведчыць паштовы штэмпель) накіроўваюцца на адрас: 220034, г. Мінск, вул. Захарава,19. газета «Літаратура і мастацтва», конкурс «У вянок Багдановічу».

Па меры паступлення твораў, «ЛіМ» друкуе найбольш цікавыя з іх. Ганарар аўтарам не выплачваецца. Конкурсныя работы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Пры падвядзенні вынікаў будуць улічаны меркаванні чытачоў.

Створана журы конкурсу ў складзе: паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Анатоль Вялюгін (старшыня), намеснік старшыні Рады СП Беларусі Алесь Пісьмянкоў (намеснік старшыні журы), сябры журы—рэдактар аддзела культуры і літаратуры часопіса «Работніца і сялянка» Раіса Баравікова, рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Леанід Дранько-Майсюк, загадчык аддзела паэзіі часопіса «Маладосць» Казімір Камейша, выкладчык БДУ імя У. І. Леніна, старшыня літаратурнага аб'яднання «Узлёт» Сяргей Кавалёў, старшыня літаратурнага аб'яднання «Крыніцы» газеты «Чырвоная змена» Алесь Масарэнка.

Для пераможцаў конкурсу ўстаноўлены прэміі: адна першая—300 рублёў, дзве другія—па 200 рублёў, дзве трэція—па 150 рублёў, тры заахвочвальныя—па 100 рублёў кожная.

Пераможцы будуць названы на выніковай вечарыне, аб якой дадаткова паведаміць газета.

Зацверджаны склад Аргкамітэта па правядзенні конкурсу: намеснік старшыні праўлення Мінскага гарадскога аддзялення Савецкага фонду культуры Віктар Мацюшэнка (старшыня), загадчык аддзела прозы і паэзіі газеты «Літаратура і мастацтва» Юрась Свірка (намеснік старшыні), інспектар Упраўлення культуры Мінгарвыканкома Ніна Старыкава (сябра аргкамітэта).

●

З моладзі, якая ішла ў літаратуру і якой так і не далі ў ахвотку ў ёй папрацаваць, асабліва вылучаўся Мікола Гваздоў. Тыя вершы, што друкаваліся ў «Полымі рэвалюцыі», — надта ж светлыя, чыстыя — аўтар быццам не пісаў паэтычныя радкі, а выдыхаў, гэтак гучалі яны натуральна. «Вельмі таленавіты быў Мікола Гваздоў, — гаварыў Масей Сяднёў, калі мы сустракаліся з ім у Мінску, успаміналі некаторых літаратараў. — Ён друкаваўся нават у «Звяздзе». Пісаў вершы, вучыўся да вышэйшага педагагічнага інстытута ў кінематаграфічным тэхнікуме ў Віцебску. Таксама быў арыштаваны. Нават следчы казаў пра яго: «Разумны чалавек, таленавіты». Я да гэтага часу не ведаю лёсу Гваздова».

І я на жаль, не ведаю. Праўда, неяк пазваніў мне адзін чалавек — былы сябра Міколы Гваздова і сказаў, што з Ухт-Пячоры, куды быў сасланы Гваздоў на тры гады, Мікола прыслаў ліст, у якім пісаў, што хоча здабыць гальштук, што значыла,—пятлю.

На тым след Міколы Гваздова прапаў...

●

**Гальяша Леўчыка ў Беларусі ведаюць як паэта. Але амаль невядома яго дзейнасць як збіральніка самых розных нацыянальных каштоўнасцей — прылад працы, карцін, скульптур, рукапісаў, кніг... Сваю кватэру ў Варшаве ён ператварыў у сапраўдны музей. У музей была ператворана і тая хата, якую ён з часам пабудаваў у Слоніме, каб перасяліцца на Беларусь і стала тут жыць.**

**Аднак жыццё распарадзілася па-свойму. Неяк, чытаючы «польскую газету, дзядзька Гальяш наткнуўся на абвестку: шукаю братнюю сугучную душу дзеля супольнага любавання паэзіяй, мастацтвам і т. д. Дзядзька Гальяш захапіўся рамантыкай абвесткі незнаёмкі, усчаў з ёй перапіску (яна была з суседняга Ваўкавыска), якая давяла да шлюбу з гэтай палячкай. Аднак па шлюбе рамантыка хутка выпарылася. Жонка не разумела і не хацела зразумець яго як беларускага паэта. Пачаліся непаладкі. Яна пачала знаходзіць сабе кампанію з палякоў, на жах дзядзькі Гальяша нават скруціўшыся з дэфензіўшчыкамі. Не могучы перацярпець гэтніх прыкрасцяў, ён выязджаў да Варшавы і жыў у самоце, толькі наведваючы Слонім», — так пісаў у сваіх успамінах пра Гальяша Леўчыка Сяргей Хмара.**

**Памёр Гальяш Леўчык таксама не па-людску. Як успамінае С. Світка («Шыпшына», № 9, 1950), калі прыйшло вызваленне ў Заходнюю Беларусь у 1939 годзе, у Слонім «з'явілася цэлая купа дэлегацый і прадстаўнікоў Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР. Лынькоў, Бярозкін, Коган... Сустрэча адбылася ў Слоніме. Прысутнічала 6 ускалосаўцаў, а між імі і Гальяш Леўчык.**

**А праз тыдзень пасля сустрэчы частка ўскалосаўцаў апынулася ўжо ў бальшавіцкай турме.**

**Гальяш Леўчык разам з адным ускалосаўцам ціхцом, нелегальна здолеў уцячы ў забраную немцамі Варшаву, дзе меў аддаўна сваё ведамае кажнаму праязджаючаму туды беларусу памяшканне - музей і архіў беларускіх спраў: гісторыі, культуры, этнаграфіі і друкаў.**

**Вайна знішчыла бясцэнныя матэрыялы і даканала старога Гальяша з ягоным заўсёды маладым і палкім сэрцам.**

**Па атрыманых вестках Гальяш Леўчык дагарэў у Варшаўскай бальніцы ў 1944 г., падабраны на вуліцы паміраючым з голаду.**

**Загінула і жонка паэта — была злоўлена гестапа з дакументамі польскай вайсковай арганізацыі, якія яна спрабавала пераправіць у Варшаву, і расстраляна...**

**Знішчаны былі і два Леўчыкавы музеі разам з усімі неацэннымі сабранымі ім экспанатамі...**

●

Чуў ад людзей, а потым і чытаў у друку — не нашым, а эміграцыйным, — як, будучы ў вайну бургамістрам горада Барысава, Станіслаў Станкевіч ратаваў аўтара цяперашняга дзяржаўнага гімна Беларускай ССР Міхася Клімковіча, якога арыштавалі паліцаі ў яго роднай вёсцы Сялітраніке. Зразумела, каб стала вядома, што трапіў у рукі паліцыі кіраўнік Саюза пісьменнікаў Беларусі, то... загінуў бы Міхась Клімковіч. І Станіслаў Станкевіч — жорсткі чалавек, на руках у якога кроў не аднаго дзесятка людзей — вырашыў ратаваць Міхася Клімковіча. Дзеля гэтага ён раненька паклікаў да сябе начальніка паліцыі і загадаў яму прывесці да сябе ў кабінет Міхася Клімковіча. Размова ў іх была доўгая. Станіслаў Станкевіч схіляў пісьменніка на здраду — у Мінску неўзабаве меўся пачацца сход творчай інтэлігенцыі Беларусі, якая была не супраць служыць немцам, і добра было б, каб менавіта ён, Міхась Клімковіч, адкрыў гэты сход. Міхась Клімковіч не згаджаўся, плакаў. І Станіслаў Станкевіч яго пашкадаваў — даў яму бохан хлеба, адлічыў некалькі дзесяткаў нямецкіх марак, сказаў:

— Вось усё, чым я магу табе памагчы. Ідзі ў бліжэйшую вёску, купі лапці і палатняныя штаны—і кіруй у сваю Маскву...

Расказваючы сам пра гэты эпізод у газеце «Беларус», Станіслаў Станкевіч заўважае, нібы між іншым, што гэтак, як з Клімковічам, ён рабіў амаль з усімі, хто добра размаўляў па-беларуску. «Беларусаў усе нішчылі, — піша ён, — не хапала яшчэ, каб і мы, беларусы, самі сябе знішчалі».

●

**У друку пісалася ўжо: у судовых органах нашай рэспублікі не захавалася ніякіх звестак пра многіх арыштаваных у 30-я гады беларускіх літаратараў. У ліку іх называецца і прозвішча таленавітага крытыка Макара Шалая...**

**Нядаўна мне трапіўся нумар часопіса «Шыпшына», што выдаваўся ў першыя пасляваенныя гады ў Нямеччыне, з незакончаным творам Ю. Віцьбіча «Не чарнілам, а крывёю», дзе расказваецца пра лёс некаторых рэпрэсіраваных беларускіх літаратараў, і пра Макара Шалая таксама.**

**...Яго арыштавалі ў 1937 годзе. Прывезлі ў турму, пачалі цягаць на допыты. Вядома, абвінавачванне было тое самае, што і ўсім, — «нацдэм», хацеў адарваць БССР ад СССР... Макар чалавек быў вясёлы, а тут яшчэ трапіўся яму нявопытны следчы. На пытанне:**

**— А скажыце, вы сапраўды хацелі адарваць БССР ад СССР?**

**Шалай адказаў:**

**— А як жа — зразумела, хацелі.**

**— І далучыць да Польшчы? — падказаў следчы.**

**— Не, чаму да Польшчы? — нават абурыўся абвінавачаны. — Крый божа нас ад гэтага. Мы хацелі далучыць яе да Індыі.**

**Паказанні М. Шалая былі ўнесены ў пратакол. Калі гэты пратакол пачалі чытаць вопытныя судовыя работнікі, то М. Шалая збілі і ўкінулі ў карцэр. Ю. Віцьбіч заканчвае свае згадкі пра М. Шалая так:**

**«...На вуліцах аднаго з беларускіх наддзвінскіх мястэчкаў яшчэ перад самай вайной можна было сустрэць дзіўнага чалавека. Абадраны, без шапкі, босы, абраслы барадой, — ён ішоў, не звяртаючы аніякае ўвагі на вакольнае. Ён не пазнаваў ні сяброў, ні знаёмых і не адказваў на іхнія цёплыя прывітанні. Гэта было ўсё, што засталося ад Макара Шалая пасля нялюдскіх катаванняў. І досыць было пачуць ягоны смех, каб адразу сціснуліся кулакі на тых зацятых ворагаў беларускага народа, якія бязлітасна загасілі яшчэ адзін вялікі талент».**

**Трэба думаць, што адным з тых, хто бачыў у тым беларускім наддзвінскім мястэчку ў тыя дні Макара Шалая, быў сам Юрка Віцьбіч ці хтосьці з яго блізкіх знаёмых...**

●

У далёкай Амерыцы, у адным з нью-йоркскіх прытулкаў дажывае апошнія дні свае былы ўзвышэнец, крытык Антон Адамовіч. Пра яго пісалі многія, пісаў і я.

Ніна Іларыёнаўна Глебка, жонка Пятра Глебкі, добра ведала яго асабіста, працавала ў гады гітлераўскай акупацыі разам з ім у рэдакцыі «Беларускай газэты», неаднойчы сустракалася і раней: Антон жа Адамовіч і Пятро Глебка разам вучыліся ў Белпедтэхнікуме і ва універсітэце, сябравалі...

— Ён некалькі разоў забягаў да нас дадому перад самай вайною, — расказвала Ніна Іларыёнаўна. — Усё хацеў Пятра Фёдаравіча ўбачыць. А дні за два-тры да пачатку вайны, мабыць, страціўшы надзею ўбачыцца з Пятром Фёдаравічам, сказаў мне: «Перадай Пятру, каб нікуды не ўцякаў, быў тут. Маюць пачацца вялікія падзеі. То няхай ён не баіцца, яго ніхто не зачэпіць». Я перадала гэта Пятру Фёдаравічу, але ён, калі пачалася вайна, зрабіў. по-свойму — адступіў з Чырвонай Арміяй. Немцы Мінск занялі, то Антон Адамовіч зноў забег да мяне. «Скажы Пятру, хай выходзіць са сваёй схованкі. Яго не зачэпяць». І нават калі я сказала, што няма Пятра Фёдаравіча, адступіў ён з Мінска — не паверыў... І ў вайну было: аднойчы паклікаў ён мяне з рэдакцыі на вуліцу і кажа: жыве твой Глебка, у Маскве. Вусы адрасціў... А потым неяк кулаком на мяне памахаў, кажа: «Думаеш, не ведаю, з кім ты звязана? І Мурашка, Матусевіч? (Рыгор Мурашка і Алесь Матусевіч працавалі ў «Беларускай газэце» і звязаны былі з падполлем, партызанамі. — **Б. С.**). Пакуль не позна — уцякай. І іх, і цябе, калі не сёння, дык заўтра забяруць...». Рыгор Мурашка знік. Знік і Матусевіч, напаследак падклаўшы міну ў стол — яна разарвалася, але шкоды вялікай не нарабіла, хіба што загінуў раман Вольгі Таполі, які ляжаў там. Ну а я... Неяк перахавалася, ацелала...

Будучы ў ЗША, Адам Мальдзіс падараваў Антону Адамовічу маю кнігу «Сняцца сны аб Беларусі», папярэдне прачытаўшы, што там пра яго, «дзядзьку Антося», напісана.

— Не ведае чалавек, што піша, — прытворна засмяяўся Антон Адамовіч і расказаў пра падполле, якое быццам было створана ў першыя дні нямецкай акупацыі сярод тых, хто пайшоў нібыта служыць фашыстам, а на самай справе люта іх ненавідзеў. «Мы ішлі служыць у адміністрацыю, каб не захапілі яе рускія і палякі. Хоць слова беларускае там гучала... А каб служыць немцам—не!»

Але сам А. Адамовіч служыў немцам. І добра, аддана служыў. Як і некаторыя іншыя...

●

**Калісьці, ў дваццатыя гады, вясёлы, здатны на жарты і выдумкі Міхась Чарот напісаў радкі, якія ведала ўся Беларусь:**

**Жывуць Шыла, Грыб,**
**Мамонька—**
**Будзем жыць і мы.**

**Мікола Шыла, Тамаш Грыб, Язэп Мамонька... Што мы пра іх ведаем? А гэта ж былі выдатныя сыны нашага народа, якія сваё жыццё аддалі дзеля толькі аднаго — каб была вольная, незалежная Беларусь. Памiралі яны не ў тым парадку, у якім размясціў іх паэт Міхась Чарот. Першага не стала Язэпа Мамонькі — паверыўшы бальшавікам, ён у дваццатыя гады вярнуўся з Прагі, дзе быў у эміграцыі, трапіў у сталінскія канцлагеры і згінуў там бясследна, як згінулі мільёны людзей. Тамаш Грыб — муж вядомай першай выканаўцы купалаўскай Паўлінкі Паўліны Мядзёлкі, міністр БНР не вярнуўся з эміграцыі ў Савецкую Беларусь — жыў у Празе. Там, у Празе, ён і памёр у студзені 1938 г., там і пахаваны. Мікола Шыла, ці, як яго звалі, «беларускі Гандзі» памёр апошні — 6 красавіка 1948 г. у Браўншвейгу (Германія). Ён, яшчэ да рэвалюцыі закончыўшы Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, прымыкаў да самых розных плыняў беларускага нацыянальна - вызваленчага руху, неаднаразова арыштоўваўся, сядзеў у турмах як царскіх, так і польскіх (жыў пасля Рыжскага мірнага дагавору 1921 г. у Заходняй Беларусі). Ён удзельнічаў у рабоце «Нашай Нівы», у арганізацыі Першага Усебеларускага кангрэса, які абвясціў Беларускую Народную Рэспубліку, быў членам Беларускай Сацыялістычнай Грамады... Напісаў ён і свае ўспаміны—пра Алеся Гаруна, Янку Купалу, многіх іншых вядомых людзей Беларусі.**

**Загінуў у час сталінскіх рэпрэсій і таленавіты Міхась Чарот... Яму тады ішоў толькі сорак другі год... Ці не праўда— вясёлая была песенька. І такі сумны ў яе канец...**

●

Пермскае кніжнае выдавецтва ў 1990 г. выдала кнігу «Зона», куды ўвайшлі творы рускіх савецкіх паэтаў, што трапілі ў сталінскія турмы і лагеры. Мяркую, што калі-небудзь такая самая кніга будзе выдадзена і ў нас, у Беларусі. Вось для яе верш, напісаны Тодарам Кляшторным і запомнены, за выключэннем аднаго радка, і вынесены на волю Уладзімірам Клішэвічам:

**. . . . . . . сад**
**Люблю твой ціхі сумны голас.**
**Жыццё маё пайшло на спад,**
**Мароз пачаў кранаць мой**
**волас.**

**Не чуць ласкавых слоў яе,**
**Ў лятунках створанай**
**дзяўчыны,**
**І ружы цвет не для мяне,**
**І цвет кахання мой зачынен.**

**Хоць ёсць любоў і вера ёсць,**
**Што мы ў жыцці не толькі**
**госці.**
**Красуй, чужая маладосць,**
**Красой шчаслівай**
**маладосці!**

**Менск, турма.**

●

**У жніўні 1961 г. група беларускіх мастакоў і пісьменнікаў вырашыла наведаць Парыж, пазнаёміцца з яго выдатнымі мясцінамі. Быў у гэтую групу ўключаны і Усевалад Краўчанка. Перад самым ад'ездам ён зайшоў у «Полымя», дзе я тады працаваў — у аддзеле прозы якраз прачыталі яго новае апавяданне і мы з Я. Скрыганам выказалі яму шэраг заўваг.**

**— Добра, вярнуся з Парыжа, то папраўлю, — сказаў ён.**

**Але з Парыжа Усевалад Ігнатавіч не вярнуўся. Прывезлі урну з яго прахам... Што там здарылася, чаму ён пакончыў жыццё самагубствам, выкінуўшыся з балкона гатэлю, у якім жыў, — дасюль ходзяць розныя чуткі. Перад смерцю Усевалад Краўчанка пакінуў запіску, якая была надрукавана ў французскіх газетах і, мусіць, у перакладзе з'явілася ў беларускім часопісе «Баявая Ўскалось» (№ 6, 1962):**

**«Я нічога не зрабіў супроць маёй Бацькаўшчыны. Я канчаю маё жыццё, каб унікнуць несправядлівых абвінавачванняў і беспатрэбных мукаў.**

**Я быў справакаваны маімі асабістымі «прыяцелямі» на некаторыя словы, якія могуць быць інтэрпрэтаваныя ў некаторым сэнсе як варожыя. Гэта мая прастата і мая дурната, але зусім не тое, што мне хочуць накінуць. Я хацеў бы, каб мне выбачылі мае дарагія дзеткі: Оля, Ігар, Аляксей, мая жонка Дуся, якіх я магчыма калісь пакрыўдзіў, а яшчэ больш яе, па непаразуменню можа. Хай мне выбачаць і мае дарагія бацькі.**

**Я прашу выбачэння ў маіх сяброў па экскурсіі, якія магчыма ў дачыненні да маёй асобы трохі збянтэжаныя, ды кіраўніка экскурсіі. Хай мне ўсе выбачаць за непрыемны жэст, выкліканы маёй смерцю. Але гэта нішто ў абліччы гісторыі. Слабыя людзі любяць жыццё, але жыццё не любіць слабых людзей. Яны не знаходзяць узаемна заплаты, як гэта спяваецца ў песні.**

**Напаследак скажу вам яшчэ нешта: я служыў маёй Бацькаўшчыне з годнасцю сіламі майго таленту і ніколі і нідзе я не здраджваў яе інтарэсам. Гэта праўда і я гэта падпісваю сваёй крывёй. Я прашу маю Бацькаўшчыну мне верыць ды не мсціцца на маёй сям'і, маіх блізкіх, якія ў нічым невінаватыя. Гэта ўсё».**

●

Прачытаўшы адну маю публікацыю ў газеце «Літаратура і мастацтва», пазваніў мне зусім незнаёмы чалавек. Назваўся супрацоўнікам рэспубліканскай пракуратуры. Сказаў са злосцю:

— Я шкадую, што не жыву ў трыццатыя гады. Даўно б вас пасадзіў...

Пасля гэтых слоў мне нічога не заставалася, як выказаць сваю радасць, што жыву не ў трыццатыя гады...

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# Скарыне, аўтару «Статута...»

У пачатку XVI ст. у культурным жыцці Беларусі адбыліся дзве векапомныя падзеі: пачалося кнігадрукаванне на Беларусі і быў распрацаваны першы ў Еўропе Звод законаў — Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 года на беларускай мове. У падрыхтоўцы Статута 1529 г. прымаў удзел Ф. Скарына, а зацвердзіў Статут вялікі князь Жыгімонт Казіміравіч. Выданнем Статута распачалася новая эпоха ў развіцці беларускай прававой культуры. Асноўнай крыніцай нормаў права, змешчаных у Статуце, былі нормы беларускага звычаёвага права і акты дзяржаўных і судовых устаноў. У Статуце 1529 года былі змешчаны нормы дзяржаўнага, адміністрацыйнага, цывільнага, крымінальнага, судова-працэсуальнага і іншых галін права. Яго выдатнае значэнне ў жыцці народа добра разумелі сучаснікі, калі называлі вялікага князя літоўскага Жыгімонта Вялікім. Так, у Пахвале Жыгімонту ваявода Віленскі і канцлер Гаштольд пісаў: «Вера без учынкаў мертва ест, а прето ачколве далі нам веру хрестианскую, але вчынков хрестианских нас былі не наўчыли, прав нам не далі, чым быхмося мелі справоваці... Про то, тот ясный король Велікій Жыгімонт і велкій князь літовскій, зровнялся ест вчинком с першим славным дедом своім, Велікім королем Владзіславам (Ягайлом-Якавам), і стрыем своім, Велікім князем Вітовтом... так тэж тот славный, ясный король навчыл справедлівості чыніті».

**З пашанаю да Жыгімонта Казіміравіча адносілася і беларуская шляхта, аб чым сведчыць «Прамова Мялешкі», у якой гаварылася: «Але Жыгімонта первого,— солодкая паметь его. Той немцев, як собак, не любил и ляхов з их хитростю велми не любил». Тым самым унук Соф'і Гальшанскай з Друцка і Ягайлы (Якава) з Віцебска Жыгімонт першы быў адным з самых паважаных на Беларусі князёў і ён заслугоўвае памяці аб ім.**

**Трэба таксама дадаць, што ён з вялікай павагай адносіўся да Ф. Скарыны, аб чым сведчыць грамата 1532 года, якой Ф. Скарына надзяляўся правам судзіцца толькі перад самім каралём і вялікім князем Жыгімонтам. Такая прывілея надавалася толькі панам радным, або вельмі паважаным асобам. У гэтай грамаце было запісана: «Няхай ніхто, апрача нас саміх альбо спадчыннікаў нашых, як у каралеўстве, так і ў Вялікім княстве Літоўскім, на землях Прусіі і Жамойціі і ў іншых уладаннях нашых не мае права прыцягваць яго да суда і судзіць, якой бы ні была важнай ці нязначнай прычына яго выкліку ў суд.**

**Зразумела, аказваючы доктару Францыску такую ласку, мы (гэтым самым) адказваем за яго поўную бяспеку і бярэм яго пад нашу ахову і апеку».**

Улічваючы тое, што Ф. Скарына і вялікі князь Літоўскі Жыгімонт прымалі непасрэдны ўдзел у распрацоўцы Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 года, дык мела б сэнс зрабіць адзін з помнікаў Першадрукару, у якім былі б постаці Скарыны, Жыгімонта, а таксама кніжка Статута.

**Я. ЮХО.**

**Саюз пісьменнікаў. Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Анатолю ВЕРАБ'Ю з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці брата Уладзіміра.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю НАВАРЫЧУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

СТАРОНКІ УСПАМІНАЎ

# «З душою чуйнай, як мембрана...»

**Восень была на зыходзе. Следам у свае правы ўступаў снежань. Ды гэта толькі так — на календары. На самай справе — у Туркменіі гаспадарыў наш беларускі верасень. Кірмаш яшчэ быў запоўнены кавунамі, дынямі. Праўда, надвячоркам, калі пачынаў засціла́ць наваколле змрок, гандляры запальвалі вогнішчы, рыхтавалі ў кумгане чай...**

Такой вось парой і сустрэліся ўпершыню мы ў Ашхабадзе з пісьменнікам Міколам Калінковічам. Якраз тады, у 1985 годзе, туркменскія літаратары праводзілі свой чарговы з'езд. У пярэрве паміж пасяджэннямі і сутыкнуліся ў Дзяржаўным музеі Туркменскай ССР. Завочна нас ужо пазнаёмілі — і ўзяў на сябе гэты клопат навуковы супрацоўнік таго ж музея, удзельнік вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, Герой Савецкага Саюза Іван Васільевіч Багданаў.

...Тым годам М. Калінковіч завітаў у Ашхабад з Масквы. Вучыўся ў сталіцы, рыхтаваўся да абароны дысертацыі. У вачах жа, у размовах туркменскіх сяброў ён быў зусім не масквічом, а добрым беларускім хлопцам, шчырым у слове і ў паводзінах. Як жа складваліся сцежкі-дарожкі нашага земляка-пісьменніка, перш чым патрапіў ён у гарачы туркменскі край, пасябраваў з ім і палюбіў яго?..

Колькі радкоў — з біяграфіі М. Калінковіча. Нарадзіўся 18 снежня 1950 года ў вёсачцы Цна, якая размясцілася на правым беразе рачулкі з гэткай жа назвай. Да Лунінца — шаснаццаць кіламетраў. Бацька служыў на Балтыйскім флоце. А як звольніўся, то пераехаў у Усць-Каменагорск. Праўда, няшмат пажылі ў далёкім Казахстане, засумавалі па родным Палессі. Вярнуліся на Лунінеччыну. Праз шмат гадоў у аўтабіяграфічных нататках, зробленых па просьбе Лунінецкага краязнаўчага музея, М. Калінковіч напіша: «...Першая настаўніца — Аляксандра Рыгораўна Майсак. Першы дырэктар школы — Мікалай Васільевіч Ачапоўскі...» І далей прыгадвае, што з малодшых класаў палюбіў літаратуру, гісторыю. Напісаў невялікую п'еску пра самагоншчыкаў. Паставілі яе ў вясковым клубе. Пазней вучыўся ў самім Лунінцы. У дзесятым класе пачаў актыўна супрацоўнічаць з раённай газетай «Ленінскі шлях». Паспрабаваў паступіць на факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна. Не атрымалася. Вярнуўся дадому. І пайшоў працаваць... настаўнікам. Ды не проста якім-небудзь, а настаўнікам нямецкай мовы. Праз некаторы час стаў літсупрацоўнікам лунінецкай раённай газеты. Следам — служба ў Ленінградскай ваеннай акрузе. Супрацоўніцтва з акруговай газетай «На страже Родины». Потым — вучоба ў Белдзяржуніверсітэце. Пасля заканчэння — праца намеснікам рэдактара лунінецкай раённай газеты.

...І толькі ў 1979 годзе, у верасні — сустрэча з Туркменістанам. Пяць год—у гэтым багатым і шматгранным краі.

Наўмысна «прайшоўся» па біяграфіі пісьменніка штрыхамі — калі, дзе і што. Мо калі будзе час і адпаведная магчымасць, то чаму б не пагаварыць і пра ўсё жыццё нашага земляка пісьменніка-краязнаўцы? Ды толькі зараз, на гэтых старонках — аб Туркменіі, аб месцы яе ў душы і ў сэрцы М. Калінковіча, аб яго прывязанасці да гэтага гарачага краю.

Адзінае, што не магу не падкрэсліць: з Лунінеччыны, з роднай Беларусі ўвайшло ў жыццё Мікалая Мікалаевіча захапленне краязнаўствам. Хаця не, не зусім правільна кажу. Не захапленнем, а часткаю жыцця — вось чым, на мой погляд, з'яўляецца для М. Калінковіча краязнаўства, клопат аб увасабленні, захаванні гістарычнай памяці нашага беларускага народа.

Таму дазвольце кароценькую цытату. Гэта — з *пісьма слыннага нашага краязнаўцы* Г. Каханоўскага да аўтара гэтых радкоў: «Пазнаёміўся з ім (М. Калінковічам.—**А. К.**) шмат гадоў назад... Было гэта ў Вільні. Працавалі за суседнімі столікамі ў архіве. Ён, тады яшчэ студэнт, збіраў матэрыялы пра Самойлу... Так аказалася, што і ў гасцініцы з ім жыў у адным нумары. Мусіць — на знаёмства... Зараз не прыпомню, што яму падказаў... Тады ён аказаўся ў сваім Лунінцы — намеснік рэдактара раённай газеты. Даваў цікавую краязнаўчую старонку. І мяне... угаварыў напісаць пару артыкульчыкаў. Ён і сам шмат пісаў пра свае мясціны, людзей...»

Сціплыя словы Генадзя Аляксандравіча значаць многае. Бо, пагадзіцеся, няшмат у нас, на Беларусі шчырых рупліўцаў пра гісторыю краю.

Яшчэ ў школе М. Калінковіч загарэўся тэмай «Аляксандр Блок і Лунінеччына». Вось што ўспамінае аб гэтым сам пісьменнік ва ўступным слове да *кнігі «Палескія* дні Аляксандра Блока»:

**«У 1966—1968 гг., вучачыся ў старэйшых класах лунінецкай СШ № 2, я зацікавіўся краязнаўствам. Прываблівала ўсё, што датычылася Лунінеччыны. Аднойчы ў музейным кутку раённага Дома культуры сярод нешматлікіх экспанатаў убачыў фотаздымак аўтара любімай паэмы «Дванаццаць» Аляксандра Аляксандравіча Блока і даведаўся, што ён пэўны час знаходзіўся на Палессі. Адразу ж узнікла шмат пытанняў, захацелася ведаць як мага больш пра «палескі перыяд» жыцця паэта. На жаль, матэрыялаў такіх тады знайсці не мог.**

**Здарылася, што ваенную службу праходзіў у Ленінградскай вайсковай акрузе. Бываючы ў Ленінградзе, абышоў і аб'ездзіў усе блокаўскія мясціны. На старонках акруговай газеты «На страже Родины» нават артыкул апублікаваў: *«Жизнь обгоняет легенду»* — пра службу Аляксандра Блока ў Беларусі.**

**Пасля арміі, калі вучыўся на журфаку БДУ імя У. І. Леніна, працаваў у «Сельской газете», а таксама ў брэсцкай абласной і лунінецкай раённай газетах, меў магчымасць больш сур'ёзна заняцца пошукамі слядоў Блока на Палессі... У выніку ўсяго гэтага і склалася кніга...»**

Кніга *«Палескія дні Аляксандра Блока»* выйшла ў 1985 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». А пра працу гэтую дбаў, думаў М. Калінковіч і ў далёкім Ашхабадзе. Дарэчы, і ў туркменскай сталіцы наш зямляк жыў А. Блокам, захопленасцю яго творчасцю. Невыпадкова падштурхнуў туркменскіх літаратараў да перакладу паэзіі А. Блока на вялікую мову бессмяротнага Махтумкулі. Завёў найперш гаворку аб гэтым з народным *паэтам* Туркменістана Керымам Курбаннясевым, на той час — галоўным рэдактарам часопіса «Совет эдебиняты» («Савецкая літаратура»). Абдумаўшы пытанне, сталы літаратар прапанаваў узяцца за пераклад А. Блока маладому таленавітаму паэту Курбанніязу Дашкынаву. І калі ў часопісе друкаваліся на туркменскай мове вершы аўтара паэмы «Дванаццаць», то ўступнае слова да публікацыі напісаў М. Калінковіч. Не забыў успомніць у кароткай нататцы *і пра палескую службу А. Блока.* І зараз у палескім музеі Аляксандра Блока захоўваецца туркменскі часопіс з аўтографам земляка М. Калінковіча.

Блок быў з ім у душы, у сэрцы. Блок натхняў. А энергія патрабавала выйсця. І Мікалай шукаў, працаваў у архівах Ашхабада і Ташкента. Першыя крокі дапамог зрабіць *зноў Г. Каханоўскі.* Успомніў *сталы* краязнавец пра тое, што сярод расстраляных 9-ці ашхабадскіх камісараў былі і беларусы. *Так і пачаў Мікола па кропельках* аднаўляць для беларускай гісторыі, для нашай памяці лёсы землякоў — пра двух з дзевяці ашхабадскіх камісараў. Пра Малібожку і Тузіна.

*Нарадзілася кніга «Не обрывается* земная связь». Выйшла яна ў ашхабадскім выдавецтве «Туркменистан» у 1982 годзе. Ці не сама Беларусь паўстае з першых старонак гэтага зборніка дакументальных аповесцей і нарысаў? Бо ўжо на першай старонцы кнігі — прысвячэнне: «Светлай памяці бабулі маёй, Аксініі Фёдараўны Івашкевіч-Луд, партызанскай маці, вязню фашысцкіх канцлагераў прысвячаю... Аўтар».

Лёс Сяргея Малібожкі, які родам з Капыльшчыны,— у дакументальнай аповесці М. Калінковіча «Там, дзе квітнее тамарыск». Напісаны як бы ў двух часавых вымярэннях, твор дапамагае ўбачыць кароткі жыццёвы шлях земляка-рэвалюцыянера. Аповяд М. Калінковіча пра Сяргея Малібожку стаў ледзьве не сенсацыяй. У Туркменіі ж ведалі, імя рэвалюцыянера было на слыху, *пра Малібожку разам з іншымі пісалі ў юбі*лейных артыкулах. А вось так, падрабязна, пра адзін лёс? Але, выйшла менавіта так, што дакументальная аповесць колішняга лунінецкага газетчыка пра Малібожку стала першай...

Пра Барыса Тузіна пісьменнік распавёў у дакументальнай аповесці «Камісар Закаспія». Адразу ж лёсы *ашхабадскіх камісараў* сталі вядомы ў Туркменіі шырокаму чытачу. На жаль, не ведаюць пра Малібожку і Тузіна ў нас, на Беларусі. Чаму? Адказ мне бачыцца і ў словах самога Міколы Калінковіча. Параўнальна нядаўна пісаў ён на старонках «Настаўніцкай газеты»:

**«У свой час давялося мне наведаць радзіму Сяргея Малібожкі — вёску Быстрыца Капыльскага раёна. Сустракаўся з дырэктарам тутэйшай школы, быў у мясцовым калгасным музеі. *Уражанне засталося не з лепшых.* Здаецца, у музеі ўсё ёсць: акуратна аформленыя пакоі, экспанаты. Кніга водгукаў, відавочны знешні бляск. Няма аднаго — думы, традыцыі, патрэбы шчыра гаварыць пра гераічнае мінулае і даносіць поўна аб ім людзям...» І далей; «Дырэктар Быстрыцкай школы быў заклапочаны сваімі справамі, як і тутэйшы старшыня гаспадаркі, за якімі прагледжваліся вонкавасць, параднасць. Пра Малібожку ў Быстрыцы толькі чулі. І не *імкнуліся зрабіць так, каб імя яго стала вя*домым сярод землякоў, як і ў Туркменіі».**

Духоўнае занядбанне — ці не з-за няўвагі яно расце, вырастае ў агромністы снежны ком? І цудоўна, што ёсць гэткія людзі, як пісьменнік-краязнавец М. Калінковіч. Кажу ў гэткай захопленасці па той простай прычыне, што менавіта яны — Генадзь Каханоўскі, Валянцін Грыцкевіч, Генадзь Кісялёў, Адам Мальдзіс, Міхаіл Мельнікаў, Уладзімір Сазановіч, настаўнік з Мар'інай Горкі Віктар Арлоў, Мікола Калінковіч — вяртаюць нам памяць. Не менш не больш — вяртаюць памяць.

...Следам за кнігай «Не обрывается земная связь» у Ашхабадзе, у выдавецтве «Туркменистан», пабачыў свет адзін зборнік дакументальнай прозы М. Калінковіча ў «Магарыдзе» — «Возвращение рассветной рани», у якіх таксама належнае месца занялі беларускія старонкі.

Вызначальнай якасцю творчага характару М. Калінковіча была настойлівасць. Няпроста яе праяўляць. Тым болей няпроста — у краі далёкім. І там жа не ўсім па душы гарэнне чалавека староннягa, прыезджага. «Як жа так — мы гэтулькі гадоў *карпеем, гібеем,* ды *нічога не заўважалі* асаблівага, а ён прыехаў — убачыў, знайшоў, адкрыў, кнігу напісаў, адну, другую, трэцюю»,— такі вось характар мыслення і сёння жыве ў многіх галовах. Ды М. Калінковіч жа не проста «карпеў», ён гарэў працай.

А яшчэ дзе б ні быў (у Ашхабадзе, Маскве, Тбілісі), заўсёды спяшаўся на сустрэчу з землякамі, падзяляў іх турботы, клопаты, трывогі. Таму і чарговая яго кніга краязнаўчая — *ужо пра Лунінеччыну.* І цудоўна, што выдадзена яна ў Мінску.

Чарговая і апошняя. Некалькі месяцаў назад жыццё М. Калінковіча трагічна абарвалася.

Верш Анатоля Вярцінскага «Скажы мне, мама», прысвечаны памяці Ігара Хадановіча, быццам і пра яго:

**З душою — чуйнай, як мембрана,**
**з душой — адкрытаю, як рана,**
**ён успрымаў удары зла,**
**як рана — вастрыё ляза.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

## ПА П'ЕСЕ ЗЕМЛЯКА

**Празаік і драматург Уладзімір Ягоўдзік родам са Слонімшчыны, таму ў Слонімскім беларускім драмтэатры адбылася прэм'ера новага спектакля «Прынцэса і кароль» паводле ягонай п'есы-казкі, адрасаванай юным гледачам. Паставіў спектакль галоўны рэжысёр тэатра, заслужаны дзеяч культуры БССР Мікалай Варвашэвіч. У галоўных ролях заняты маладыя артысты Таццяна Паўлава і Сяргей Бачкоў.**

**Адначасова прэм'ера казкі У. Ягоўдзіка «Янка і Ружа» адбылася ў Магілёўскім абласным тэатры драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча.**

**С. ЧЫГРЫН.**

г. Слонім.

## АДКРЫВАЮЧЫ ЗАСЛОНУ ЧАСУ

**На Дзяржтэлерадыё БССР пачаліся здымкі поўнаметражнага мастацка-публіцыстычнага фільма, прысвечанага трагічнаму лёсу выдатнага дзеяча беларускага адраджэння, першага прэзідэнта Акадэміі навук рэспублікі Усевалада Ігнатоўскага. Рабочая назва фільма, які ствараецца сумесна з АН БССР,— «Вы абвінавачваецеся...» У рабоце над ім выкарыстаны пратаколы допытаў вучонага, арыштаванага АДПУ, іншыя унікальныя дакументы з раней засакрэчаных архіваў, рэдкія фотаздымкі і кінаматэрыялы.**

**Пастаноўку паводле сцэнарыя гісторыкаў А. Караля, А. Скалабана і М. Токарава ажыццяўляе рэжысёр У. Бокун. У творчай брыгадзе — апаратары І. Скорынаў, С. Фрыдлянд, мастак-пастаноўшчык А. Лагун.**

**У ролі Ігнатоўскага здымаецца акцёр Рускага драмтэатра імя Горкага В. Саладзілаў.**

**НАШ КАР.**




ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.**

**Рэдакцыйная калегія:**

**Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГІЛЕП, Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.**

**Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.**

**Індэкс 63856**

**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**